


Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

24 ЛІПЕНЯ 1998 Г. № 30/3958 КОШТ 4 000 РУБ.







# Старыя дрэвы

*Ля старых дарог старыя дрэвы,*
*Сумныя, як гэты свет, стаяць.*
*Помняцца ім спёкі і залевы,*
*Помняцца...*
*Але, што ўспамінаць*
*Тое, што не вернецца ніколі,*
*Што даўно ў бясконцасць адплыло...*

*Вецер, нібы час,*
*ляціць над полем,*
*З нас у неба ўзносячы святло,*
*Нібы пыл з дарог, што адшумелі,*
*Нібы лісце з дрэў, што састарэлі...*

**В. Ш.**

## ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***Ёсць нейкая заканамернасць у тым, што вялікія прапагандысцкія шоу, якія ладзяць беларускія ўлады, сутыкаюцца з абыякавасцю з боку грамадзян і супрацівам з боку... прыроды.***

***Летась, напярэдадні першага святкавання новай рэдакцыі "Дня незалежнасці" адбылася аўтакатастрофа, у якой загінулі дзеці і якая ўскалыхнула ўсю краіну. З боку апазіцыі былі нават патрабаванні абвясціць нацыянальную жальбу і адмяніць святочныя мерапрыемствы.***

***Сёлета напярэдадні "Славянскага базара ў Віцебску" на Віцебшчыну абрынуліся спусташальная паводка, праліўныя дажджы, ураганы. Не абышла стыхія і "сталіцу базара". У горадзе было павалена каля 300 дрэў і абясточана 16 вуліц.***

***Не любіць Бог афіцыёзныя святы...***

### ПАДРАХУНАК ТЫДНЯ

Фестываль "Славянскі базар у Віцебску" абыдзецца нашаму падаткаплацельшчыку не менш як у 400 тысяч долараў. Гэта сума ўдвая перавышае аб'ём сродкаў, запланаваных на год на ўмацаванне базы культуры ўсёй Віцебскай вобласці, і ў шэсць разоў перавышае аб'ём датацый на рэстаўрацыю мясцовых помнікаў архітэктуры. 400 тысяч долараў — гэта шмат, асабліва калі браць да ўвагі, што зарплата работнікаў культуры не дацягвае да 50 долараў у месяц. За апошнія некалькі год сотні клубных установаў і бібліятэк — каля 15% ад агульнай колькасці — увогуле закрыты. Сто аб'ектаў культуры ў краіне знаходзяцца ў аварыйным стане, 785 клубаў і дамоў культуры, а таксама 325 бібліятэк патрабуюць капітальнага рамонту. Мінулай зімою 659 асяродкаў культуры ўвогуле не ацапліваліся.

### КЛІП ТЫДНЯ

Днямі рэжысёр Уладзімір Маркевіч скончыў працу над новым кліпам Касі Камоцкай "Цэпеліны". Кліп каштуе 1500 долараў. Знята ў нетрадыцыйнай для нашай кліп-культуры стылістыцы. Чакаецца, што ў хіт-парадзе на БТ ён з'явіцца не раней верасня.

### АБВЯРЖЭННЕ ТЫДНЯ

У сувязі са скандалам вакол пасольскіх рэзідэнцый у Драздах афіцыйныя СМІ Беларусі паведамілі (потым гэта паведамленне падхапілі і расійскія СМІ), нібыта некаторыя пасольствы пачалі адмаўляць у афармленні віз чарнобыльскім дзецям: "Пакутуюць у гэтай сітуацыі не чыноўнікі, а простыя людзі". Аднак усе пасольствы і консульствы абверглі гэтыя абвінавачванні ў свой адрас. Пра тое, што скандал вакол каналізацыі аніякім чынам не адбіўся на адносінах з замежнымі партнёрамі дабрачыннага фонду "Дзецям Чарнобыля", заявіў кіраўнік фонду Генадзь Грушавы. "Ніводнага выпадку затрымкі ў афармленні дакументаў не было. Наадварот, работнікі консульстваў нават застаюцца працаваць звышурочна, прымаюць нашы заяўкі па-за чаргою".

### ЛІСТ ТЫДНЯ

Народны паэт Беларусі Ніл Гілевіч накіраваў Адкрыты ліст прэзідэнту Нацыянальнай акадэміі навук Аляксандру Вайтовічу з нагоды падпісанага прыгаданым спадаром дакумента, які дазваляе беларускім навукоўцам не ведаць беларускай мовы. Ніл Сымонавіч лічыць, што такім чынам зроблены крок у напрамку ператварэння беларускай нацыянальнай акадэміі ў антыбеларускую, антынацыянальную. Паэт просіць прэзідэнта НАН адмяніць паспешна прынятую пастанову аб неабавязковасці заліку па беларускай мове для аспірантаў і спаборнікаў.

### НАПАМІНАК ТЫДНЯ

Выстава твораў гомельскіх мастакоў "Экалагічная катастрофа XX стагоддзя і яе наступствы" адкрылася ў памяшканні Дзяржаўнай Думы Расіі. Да гэтага яна экспанавалася ў выставачнай зале Саюза мастакоў Расіі на Гогалеўскім бульвары. У выставе бяруць удзел 15 мастакоў, сярод іх Дзмітрый Алейнік, Мікалай Казакевіч, Генадзь Гарбанёў, Іван Паноў. Прадстаўлены таксама малюнкі дзяцей на чарнобыльскую тэму.

Мабыць, выстава мае мэтай нагадаць расійскім палітыкам, расійскай уладзе аб маральным абавязку, які Расія, як правапераемніца СССР, мае ў дачыненні да ахвяр Чарнобыля ў Беларусі. Нагадаць, канешне ж, можна, але нешта атрымаць ад Расіі — наўрад ці.

### ВЫСТАВА ТЫДНЯ

У Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі праце выстава твораў Барыса Кустодзіева, прымеркаваная да 120-годдзя з дня нараджэння мастака. У экспазіцыі больш за 40 работ са збору музея. Гэта жывапіс, графіка, скульптура і дэкаратыўна-ўжытковае мастацтва. Сёння шмат у чым змянілася наша стаўленне да шэрагу значных асоб расійскай культуры канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Яны не ўпісваліся ў кагорту "папярэднікаў сацыялістычнага рэалізму". Іх свядома не заўважалі бальшавізаваныя гісторыкі культуры. Мы нанова адкрываем і такую асобу, як Барыс Кустодзіеў, мастак адкрыта апалітычны, але глыбока нацыянальны.

### НАМЕР ТЫДНЯ

8-я гадавіна прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь будзе 27 ліпеня адзначана шэсцем па праспекце Францішка Скарыны і мітынгам ля Опернага тэатра. Збор удзельнікаў шэсця а 18-й гадзіне ля кінатэатра "Кастрычнік" (станцыя метро "Акадэмія навук"). Пачатак мітынгу — а 19-й гадзіне.

### ПЕРАДРУК ТЫДНЯ

"Народная воля" перадрукавала з "Комсомольской правды" інтэрв'ю з захавальнікам Музея расійскіх мецэнатаў Львом Краснапеўцавым. Публікацыя мае назву "Сава Мамантаў быў чыгуначным алігархам. Але гэта ў ягоным кабінеце нарадзіліся "Тры багатыры" і "Дэман". "Бізнес непазбежна спадарожнічае дабрачынныя, мецэнацкі рух" — лічыць спадар Краснапеўцаў. "Як гаварылі нашы маскоўскія прамыслоўцы? Самае галоўнае для поспеху справы — мецэ здаровага, пісьменнага і цвярозага рабочага. Для здароўя — бальніцы, для пісьменства — школы. А для цвярозага — тэатры! Сава Цімафеевіч Марозаў у Арэхава-Зуеве стварыў оперны калектыў з рабочых і служачых свайго велізарнага прадпрыемства. Ставілі "Яўгенія Анегіна", ставілі "Русалку" — гэта ў нядаўняй вёсцы! Гэта трэба было яму? Да зарэзу. Не дзіўна, якія стагоддзямі трымалі народ у прыгоннай залежнасці, а менавіта прамыслоўцы разумелі, што магутная культура сусветнага ўзроўню — гэта самае выгаднае, што можа быць у эканоміцы".

---

ФЕСТЫВАЛІ

# Базар Славянскі — уласнасць Беларусі



Міжнародны фестываль мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" пачаўся з конкурсу дзіцячых канцэртных праграм "Зоркі XXI стагоддзя". У журы былі самі дзеці: музыкі, спевакі, танцоры, мастакі. Узначальваў яго шаснаццацігадовы кампазітар і музыка з Украіны Яўген Маскаленка. Усім удзельнікам дзіцячых праграм (13 калектываў з 8 краін) прысвоена званне лаўрэата міжнароднага фестывалю-конкурсу дзіцячых канцэртных праграм.

У намінацыі "За вернасць нацыянальным традыцыям" спецыяльны прыз атрымаў узорны фальклорны дзіцячы тэатр з Мінска "Пацешнік" (мастацкі кіраўнік Таццяна Філіпава). Ансамблю танца "Мазаіка" Віцебскай абласной філармоніі прыз "За творчы пошук" уручыла маленькая танцорка з Польшчы Катажына Красоўска.

На прэс-канферэнцыі, што праходзіла ў дзень афіцыйнага адкрыцця міжнароднага фестывалю мастацтваў, старшыня яго аргкамітэта, намеснік прэм'ер-міністра РБ Уладзімір Заматалін падкрэсліў, што "Славянскі базар" — творчая уласнасць Беларусі і з 1995 года на яго маецца патэнтны дакумент. Цяперашні "Славянскі базар у Віцебску" задуманы з большай маштабнасцю, чым усе папярэднія віцебскія фэсты. Дарэчы, унікальны Летні амфітэатр, пабудаваны роўна дзесяць гадоў таму пад праект фестывалю савецка-польскай песні, такім чынам адзначае сёлета свой юбілей.

Адносна "падзелу сфер уплыву" цікава выказаўся старшыня ўкраінскай дэлегацыі, народны артыст Украіны Барыс Шарварка: "Славянскі базар", які ладзіў спадар Віннікаў у Адэсе, праходзіў пры паўпустых залах. Таму Віцебск, у якім фестывальнае свята адчуваецца ва ўсіх вуліцах і плошчах, а сольны канцэрт Валерыя Лявонцьева праходзіць пры перапоўненым амфітэатры, — гэта Віцебск..."

Аднак, па словах старшыні журы Міжнароднага конкурсу маладых выканаўцаў эстраднай песні "Віцебск-98", кампазітара, народнага артыста Расіі Ігара Крутога, скандал вакол падзелу яшчэ толькі разгараецца, хоць асабіста ён са спадаром Віннікавым (быў адным з колішніх заснавальнікаў віцебскіх шоу) не знаёмы.

На прэс-канферэнцыі маскоўскія і ўкраінскія журналісты з асаблівай цікаўнасцю пыталіся, ці будуць усё-ткі выплачаны грашовыя прэміі пераможцам конкурсаў леташняга фестывалю.

Сёлета ўсе пытанні з фінансаваннем вырашаны. Яшчэ летась быў уведзены спецыяльны радок на рахунак "Славянскага базара ў Віцебску" ў бюджэце Саюза Беларусі і Расіі. Агульны каштарыс яго складае 6 мільёнаў расійскіх рублёў.

На міжнародным фестывалі мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску" прадстаўлены сапраўды ўсе віды мастацтваў. Але асабліва хочацца выдзеліць дабрачынны канцэрт "Начная харавая асамблея", зборы ад якога пойдуць на ўзнаўленне Свята-Успенскага кафедральнага сабора ў Віцебску.

На жаль, на ўрачыстым канцэрце адкрыцця фестывалю амаль што не была прадстаўлена беларуская музычная культура. Затое фору ўсім дала Украіна...

**Святлана ГУК**

*г. Віцебск*

---

УГОДКІ

# Сяўба на ніве Адраджэння

Сяўба гэтая шырока вялася на пачатку нашага стагоддзя, і асабліва актыўна спрычыніліся да яе рэдакцыя газеты "Наша Ніва". Менавіта дзякуючы ёй многія беларусы прачнуліся ад сну нацыянальнага бяспамяцтва, зразумелі, наколькі багатая ў нас культура, якая велічная гісторыя. "Наша Ніва" займалася і кнігавыданнем, маючы уласнае выдавецтва. Тым самым была пакладзена яшчэ адна цаглінка ў падмурак беларускага дома. А 14 ліпеня 1913 года на базе гэтага выдавецтва, дзякуючы намаганням І. Луцкевіча, Б. Даніловіча, К. Шпакоўскага і іншых, было заснавана Беларускае выдавецкае таварыства, якое займалася выпускам і распаўсюджаннем беларускай літаратуры.

Сталася так, што БВТ у сваім жыцці мела два перыяды. Першы этап яго дзейнасці звязаны з 1913—1915 гадамі. За такі кароткі прамежак часу ўдалося зрабіць шмат. Чытач змог пазнаёміцца з творамі Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Канстанцыі Буйло, Ядвігіна Ш., Язэпа Лёсіка і іншых аўтараў — усяго пабачыла свет 15 кніг, агульны наклад якіх склаў 50 тысяч экземпляраў. Важна і тое, што да выхаду беларускай кнігі мелі дачыненне лепшыя сыны Бацькаўшчыны, а гэта найлепшае сведчанне таго, што Беларускае выдавецкае таварыства з'явілася свайго роду цэнтрам нацыянальнага Адраджэння. Прынамсі, у 1913—1914 гадах сакратаром БВТ з'яўляўся Янка Купала.

Аднавіла Таварыства сваю дзейнасць у 1919 годзе. Асабліва яна актывізавалася з уздымам нацыянальна-вызваленчага руху ў сярэдзіне 20-х гадоў. І хоць паранейшаму асноўнае месца належала выпуску мастацкай літаратуры, не была абыдзена ўвагай навукова-папулярная, навучальная. Досыць назваць толькі асноўныя кнігі, якія былі выдадзены ў гэты час, каб зразумець, што выдавецкая работа вялася прадумана і мэтанакіравана. І гэта найперш дзякуючы таму, што ў БВТ, якое пачало працаваць на кааператыўных пачатках, уваходзілі многія вядомыя дзеячы Заходняй Беларусі. Яны і з'яўляліся той жыватворнай сілай, што дазваляла праводзіць у жыццё цікавыя задумы.

Канечне ж, сёння кнігі з згідай БВТ даўно сталі бібліяграфічнай рэдкасцю і нават у буйных сховішчах знойдзеш далёка не ўсе іх, але, каб удалося сабраць разам, атрымалася б унікальная бібліятэка, якой няма цаны. Мяркуйце самі, "Выбраныя творы" Якуба Коласа, зборнік заходне-беларускіх літаратараў "Рунь веснаходу", "Хрэстаматыя новай беларускай літаратуры" Ігната Дварчаніна, "Асновы дзяржаўнасці Беларусі" Мітрафана Доўнар-Запольскага, філасофская праца І. Абдзіраловіча (Ігната Канчэўскага) "Адвечным шляхам", п'есы "Атрута" Максіма Гарэцкага, "Суд" Уладзіслава Галубка, паэтычная кніжка Хведара Ільяшэвіча "Зорным шляхам"... А як не згадаць дапаможнікі "Правапіс чужых слоў" і "Беларуская правапісь з практыкаваннямі" Янкі Станкевіча, першы выпуск "Беларускага спеўніка", пераклады твораў М. Лермантава, Г. Сянкевіча, У. Караленкі? Не забывалася БВТ і пра "Беларускія календары". Калі ў першы перыяд дзейнасці выйшлі календары на 1914 і 1915 гады, дык пасля — на 1926, 1927 і 1929 гады.

Сваю дзейнасць Беларускае выдавецкае таварыства спыніла ў пачатку 1930-х гадоў, калі польскі ўрад забараніў легальныя формы нацыянальна-вызваленчай барацьбы.

**Міхась МІНЧУК**

НОВАЕ

# Магілёўскі ліцэй стаў каледжам

Гэта падзея не толькі для навучальнай установы, для горада, але і для ўсёй нашай краіны. Бо цяпер Беларусь мае ўжо тры выбітныя сярэднія спецыяльныя навучальныя ўстановы такога кшталту, а менавіта — знаны Рэспубліканскі каледж пры Беларускай акадэміі музыкі, маладзейшы ад яго, але таксама вядомы каледж мастацтваў імя І. Ахрэмчыка і выбітны, на ўзроўні сталічных, каледж музыкі і харэаграфіі ў Магілёве — да нядаўняга часу ліцэй.

Як паведаміла нам дырэктар гэтай установы Людміла Мішчанка, узровень падрыхтоўкі навучэнцаў, змястоўнасць ды інтэнсіўнасць творчага жыцця тут даўно перасягнулі межы ліцэйскіх праграм, "нарматываў". Нездарма выпускнікі Магілёўскага ліцэя музыкі і харэаграфіі звязваюць сваё жыццё з прафесійным мастацтвам, вызначаюцца на самых розных выканаўчых конкурсах, паступаюць у вышэйшыя навучальныя ўстановы. Сёлета, напрыклад, таленавіты габаіст Павел Кундзянок, міжнародны лаўрэат, скончыўшы магілёўскую альма матэр з "чырвоным" дыпломам, бліскуча здаў экзамены ў Маскоўскую кансерваторыю. А колькі таленавітых гадаванцаў працягваюць вучыцца ў Мінску!

Так што гэтым летам, на думку Л. Мішчанкі, адбылася проста "змена шыльды" на новую, цалкам адпаведную рэальнаму статусу аўтарытэтнай навучальнай установы, наладжанаму тут вучэбнаму і творчаму працэсу. Неўзабаве ў Магілёве паўстане сапраўдны комплекс "гімназія-каледж", бо да асноўнага будынка далучацца і памяшканні, размешчаныя па суседстве і перададзеныя цяпер юным талентам. Пасля належнага рамонту, пераабсталявання мусіць утварыцца адмысловы вучэбна-архітэктурны ансамбль: усё — побач, усё — у адзінстве...

**С. Б.**

ПОШТА

# Яшчэ раз пра Нёман

На Беларусі многа рэк — звыш 20 тысяч. Але ўсе яны прытокі Дняпра, Заходняга Буга і Заходняй Дзвіны, якія бяруць свой бег у іншых краях. А Нёман — адзіны наш зямляк. Яго выток паблізу Мінска — на Уздзеншчыне.

На працягу тысячагоддзяў рака робіць свой дабратворны ўплыў на ўсё, што жыве, расце на велізарным абшары нашай зямлі і суседняй з ёю Літвы.

Нёман увекавечаны ў песнях, легендах, паданнях, у многіх творах славутых літаратараў свету. З ім звязана слаўная гісторыя не толькі беларускага краю і яго народа.

Імя нашай ракі амаль 150 год носіць завулак у Санкт-Пецярбургзе. Ёсць Нёманскі праезд у Маскве, а ў Кіеве — Нёманская вуліца.

Толькі няма яе ў сталіцы нашай дзяржавы. Затое знойдзеце Ангарскую, Амурскую, Азоўскую, Байкальскую, Беламорскую, Балтыйскую, Волжскую, Волга-Данскую, Енісейскую і г. д. Некаторыя з іх з двума, нават з трыма аднайменнымі завулкамі, праездамі, тупікамі. Гэта без Таежнай, Палярнай, Арктычнай, Вялікаморскай і інш.

Няўжо Нёман мае меней заслуг на роднай зямлі, чым далёкія замежныя рэкі, азёры, моры?

Не адзін дзесятак год задаюць такое пытанне многія вучоныя, пісьменнікі, журналісты, чытачы. Пісала пра гэта і газета "Вячэрні Мінск" (16.7.90 г.) — тагачасны орган Мінгарсавета. Маю на ўвазе артыкул вядомага гісторыка краязнаўцы Уладзіміра Кісялёва "Рака Нёман у гісторыі", надрукаваны пад рубрыкай "Дайце вуліцы імя". Гаварыў пра гэта У. Кісялёў і ў сваёй кніжцы "Пуцявінамі Наднямоння" (Мн., "Полымя", 1989 г.).

Толькі за апошнія тры гады мне давялося двойчы ставіць такое пытанне: у нарысе "Бацька-Нёман просіць вады" (часопіс "Беларусь", N 2, 1996 г.) і ў артыкуле "Яшчэ адно слова пра Уздзеншчыну", які надрукаваў пад псеўданімам А. Алін ("ЛіМ", 3.3.1995 г.).

Кожны з нас, аўтар гэтых радкоў і Уладзімір Кісялёў, калісьці пабывалі ў Мінскім гарсавеце. Усе, з кім мелі размову, нам казалі: сапраўды, пытанне слушнае, трэба вырашаць.

Больш таго, у 1996 годзе мы гаварылі на гэту тэму з тагачасным мэрам Мінска Аляксандрам Міхайлавічам Герасіменкам. Гаворка была на вуліцы гарадскога пасёлка Узда, дзе мэр нарадзіўся, дзе на прытоку Нёмана Уздзянка прайшлі яго дзіцячыя і юнацкія гады. Аляксандр Міхайлавіч абяцаў выправіць недагляд сваіх папярэднікаў. Але неўзабаве атрымаў новую пасаду. І ўсё засталося па-ранейшаму.

Сёння ў Мінскім гарадскім савеце новы склад дэпутатаў. Трэба спадзявацца, яны паруплюцца, каб, нарэшце, аддаць нашаму славутаму земляку Нёману заслужаную пашану. Для гэтага не спатрэбяцца аніякія выдаткі. Дзе-небудзь у новым мікраёне Мінска, пажадана бліжэй да паўднёвага заходу, з'явіцца вуліца Нёманская.

Праўда, наша рака ў беларускай сталіцы ўвекавечана ў назве аднайменнага рускамоўнага часопіса, якія за апошнія гады значна схуднеў у сваіх памерах. І на адным з будынкаў галоўнага праспекта калісь зіхацела ў неонавых агнях назва рэстарана "Неман".

**Алесь МАХНАЧ**

# Крыўдна за вёску

— Дажыліся! Слоў не хапае, ёлкі-палкі! На ўсю вёску з маладых — ты ды я! Раней бы не так у вочы кідалася, не задумваўся нечак: жывае нехта ў вёсцы — ну й жыве! А цяпер прайшоў па хатах — сэрца стыне, ё-маё... Ну, хай дзесяць, дваццаць гадоў ад сілы паходзяць гэтыя старыя — і ўсё! І вёскі няма. І што дзівіць, — ніўводнай хаце ніхто не пашкадаваў, што дзеці цураюцца роднага дому. Дзе там! Вядро вады не здолее выцягнуць, а радуецца, што дзеткі ў горадзе, культурныя...

— А табе дык дзела ёсць, — дакарала бабулька свайго дзеда.

Ён ступаў, пазіраючы сабе пад ногі, і стараўся рабіць меншыя крокі, каб падладзіцца пад хаду жонкі. А тая працягвала:

— Паехалі, дык няхай едуць. Паехалі, прыехалі — якая розніца? Такія, як ты, пэўна, і ў школе іх вучылі, як хутчэй у горад уцячы. Пруцца здуру! Як жа — у горадзе іх з аркестрам страчаюць... Адразу даюць партхвелі і машыны, каб у вёсцы пазайздросцілі трохі!

Гэтую размову я пачуў у вёсцы Карачуны, на бацькаўшчыне. Слухаў я старых і думаў: сяляне, напэўна, самы цярплівы народ. Гады ляцяць вельмі хутка, і калі б можна было вярнуцца ў мінулае, мы ўбачылі б перад сабой маладых дэмабілізаваных вайскоўцаў, якія вярнуліся з вайны ў родныя мясціны. Мы ўбачылі б курныя хаціны, стомленых, спрацаваных жанчын, пустыя калгасныя засекі — вось і ўсё, што тады было. Памятаюць вясковыя старажылы першую пасляваенную сяўбу: сем жанчын упрагаліся ў плуг. Гэта была невераготна цяжкая праца, але што рабіць, калі ўсе мужчыны на фронце? Спадзявацца няма на каго.

Вайны даўно няма, а жыццё не лепшае. Аднойчы, калі жанкі адпачывалі, адна з іх запытала: "Няўжо калі-небудзь мы будзем жыць як людзі?"

Мая цётка, старая кабета з "букетам" хвароб, часта ездзіць да васьмідзесяцігадовай матулі ў вёску Няровы Валожынскага раёна. На пасадку і капанне бульбы, на сенакос і на дровы — гэта значыць, нарыхтоўваць дровы на зіму. Расказала, што ў іхняй вёсцы старыя пабудовы, платы там-сям зусім паваліліся на зямлю. У Вішнеўскім сельскім Савеце адзначылі, што лёс Няровы не вельмі розніцца ад іншых вёсак. Але факт — у Няровах трынаццаць гадоў не нараджаліся дзеці. Усё, як гэта ні сумна, пахавалі...

І толькі старажылы памятаюць іншую вёску, калі вуліцы поўніліся дзіцячым гоманам і цяжка было вызначыць на першы погляд, каго больш — старых ці малых... Некалькі год таму брыгадны клуб закрылі, а школу перанеслі ў суседняе Адамава, што лічыцца цэнтральнай сядзібай калгаса, дзе да нядаўняга часу будавалася жыллё і таму ёсць шмат маладых сем'яў. З Няроваў жа — вёскі ў 80 двароў — толькі двое вучняў, і тыя старшакласнікі. Цалкам жа дэмаграфічная сітуацыя ў гэтым сельсавеце выглядае так. У мінулым годзе на паўдзесятка вёсак было заключана толькі 15 шлюбаў, нарадзілася 16 чалавек, а памерла — 45. З году ў год расце толькі адна лічба — колькасць разводаў. Часцей за ўсё распадаюцца сем'і, дзе муж і жонка пражылі сумесна 5—7 гадоў, і ў асноўным — з-за п'янства. Некалі пабудаваны тыповы дзіцячы садок, разлічаны на 75 месцаў, не запаўняецца і напалову. Усяго 20 дзетак пайшлі ў першы клас Вішнеўскай сярэдняй школы. Раней перапоўненая школа цяпер мае ў асноўным па адным класе-камплексе. І хто можа змяніць да лепшага такую сітуацыю?

Марына Бiталёва з Няроваў кажа: — Нашы продкі былі больш чым мы падрыхтаваныя да зменлівасці лёсу, розных нечаканасцей. Умелі варыць добрыя баршчы без мяса, вязалі шкарпэткі, хатнія тапачкі, з дзвюх старых сукенак рабілі адну новую. Цяпер гэта рэдкасць. І ніхто не вырашыць нашы праблемы, акрамя нас саміх. Васемнаццаць пенсіянераў — старых, нямоглых людзей. Каб пасадзіць бульбу, яны аддаюць дзве пенсіі: наймаюць таго, у каго "ў руках" конь або трактар. Кароў старэнькія не трымаюць, таму просяць гною ў праўленні за грошы. Ды яшчэ абавязкова даюць бутэльку трактарысту, які прывязе гной на поле. Старыя кабеты, скалеўшы на полі чакаючы, бясконца паўтаралі: "Дзе ж наша смертухна падзелася?"

Пасадка бульбы на сотках — адна з самых цяжкіх работ у вёсцы. Коней засталося няшмат, і ў некаторых калгасах каня даюць "па спіску". Пра сенакос няма і гаворкі: нарыхтаваць сена амаль немагчыма. І хоць для старога чалавека найлепшая ежа — малако, карову трымаць вельмі цяжка, і паступова сельскія пенсіянеры, асабліва адзінокія жанчыны, збываюць сваю карміцельку. Застаўшыся без каровы, састарэлыя сяляне кідаюць родныя мясціны і едуць у горад да сына або дачкі — у чатыры сцяны.

Вольнаму — воля... Чалавек мае права на выбар. Многія паехалі на Захад! Вось і мастаку цяжка, немагчыма працаваць тут. А як жа селяніну? Куды ім ехаць, каму прапанаваць свае жылістыя рукі? Ды і ці думаюць яны пра гэта? І мы, дзеці, не маем права падвесці іх, зрабіць жабракамі. Дрэва ў садзе не засыхае, таму што поіцца сокамі зямлі. А дрэва жыцця? Каб яно квітнела, яго трэба наталяць любоўю да роднай вёскі...

**Віктар ЖЫБРЫК**

*Валожынскі раён*

АБСЯГІ

## ГРОДНА...

# Прысвечана песняру

Днямі ў Лідскім доме культуры Таварыствам беларускай мовы і Таварыствам беларускай школы (кіраўнік Лідскай рады — Лявон Анацка) былі наладжаны літаратурныя чытанні, прысвечаныя 116-ым угодкам Янкі Купалы. У чытаннях бралі ўдзел выхаванцы дзіцячых садкоў, якія сёлета пойдуць у першы клас, а таксама тыя дзеткі, якія першы клас ужо закончылі. Прачыталі яны вершы Я. Купалы, Я. Коласа, Э. Агняцвет і нашых мясцовых аўтараў: Пятра Макарэвіча і Юлі Барташэвіч. Зала з задавальненнем пляскала самадзейным артыстам Дзіме Хадыку, Федзю Гарэламу, Каці Якуць, Віталю Мезіну...

Разам з Лявонам Анацкам дзеці паехалі ў Гародню на экскурсію. Наведалі музей Максіма Багдановіча і Гарадзенскі заапарк.

Фундатарамі гэтых мерапрыемстваў сталі лідскія прадпрыемствы: акцыянернае таварыства "Лак-фарба", мясцовыя электрасеткі, акцыянернае таварыства "Харчканцэнтраты".

У гэты ж дзень адбыўся і канцэрт, на якім выступіў слынны беларускі бард, гарадзенец Віктар Шалкевіч. Канцэрт наладжаны быў сябрамі Лідскай моладзевай суполкі імя Гедыміна.

**Лілія САЗАНАВЕЦ**

## МАГІЛЁЎ...

# "Казкі народаў Еўропы"

Група юных мастакоў і выкладчыкаў Магілёўскай дзіцячай мастацкай школы прыняла ўдзел у першым міжнародным пленэры "Казкі народаў Еўропы", які праходзіў на працягу двух тыдняў у нямецкім горадзе Вітэнбергу. Запрашэнне паступіла ад нямецка-расійскага таварыства дружбы. Разам з равеснікамі з Германіі, Венгрыі, Славакіі магілёўскія юнакі прыдумалі і малявалі казачных герояў. Работы юных мастакоў з Магілёва, выкананыя ў час пленэру, а таксама 30 малюнкаў, прывезеных хлопчыкамі і дзяўчынкамі ў Германію, былі выстаўлены ў мастацкай галерэі Лукаса Краноха. Пасля завяршэння пленэру 15 аўтарскіх работ былі падараваны фонду развіцця пленэру. Работы гэтыя будуць экспанавацца па ўсёй Германіі.

# Плён гастроляў

Лета — час вандровак і адпачынку. А Магілёўская абласная філармонія адпачываць пакуль не збіраецца. Не паспеў мужчынскі камерны хор "Унія" вярнуцца ў Магілёў з гастроляў па Калінінградскай вобласці, дзе быў па запрашэнні мясцовага таварыства беларусаў, як зноў адправіўся ў дарогу. На гэты раз — з дабрачыннымі канцэртамі ў чарнобыльскую зону Магілёўшчыны. Духоўныя спевы, а таксама народную музыку пачулі ўжо жыхары Быхава, Слаўгарада, Хоцімска і Касцюковічаў.

Іншыя калектывы філармоніі зараз таксама ў гастрольных паездках. Аркестр народных інструментаў пад кіраўніцтвам заслужанага дзеяча мастацтваў РБ Леаніда Іванова адправіўся з канцэртамі ў Бабруйск і Асіповічы. Саліст філармоніі Антон Ажыпа вярнуўся з V фестывалю беларускай песні і паэзіі "Маладзечна-98" лаўрэатам другой прэміі. А салістка Іскуі Абалян атрымала запрашэнне на "Славянскі базар".

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## ГОМЕЛЬ...

# Прыехалі цыркачы-ліліпуты

Гомельскі дзяржаўны цырк карыстаецца вялікай папулярнасцю. Нездарма цырк носіць назву — "узорнае відовішчнае прадпрыемства". Узначальвае яго энергічны чалавек, заслужаны дзеяч культуры Беларусі Якаў Міхайлавіч Лабовіч. Тут пастаянна шукаюць новыя шляхі да ўдасканалення арганізацыі адпачынку гамяльчан. Цырк закончыў свой сезон яшчэ ў красавіку. Але, каб запоўніць значны вакуум адсутнасці летам відовішчных мерапрыемстваў, адміністрацыя цырка і запрасіла на гастролі міжнародны цырк ліліпутаў з сямі краін свету. Гэты калектыў выступаў у Амерыцы, Заходняй Еўропе, Азіі і ўпершыню прыехаў у Беларусь. Артысты — гімнасты, жанглёры, дрэсіроўшчыкі, клоуны... — прапанавалі гледачам цікавую праграму.

# Дастойны юбіляр

Добрушскі фарфоравы завод неўзабаве адзначыць 20-гадовы юбілей. За гэты час завод выпусціў больш за 300 мільёнаў вырабаў, якія ўпрыгожылі наш побыт. Ягоная прадукцыя вядома таксама ў ЗША, Германіі, Югаславіі, Галандзіі, Польшчы, Казахстане, краінах Балтыі. З нагоды знамянальнай даты ў Гомельскай галерэі мастацтваў адкрылася экспазіцыя з заводскіх калекцый і аўтарскіх работ. А працуюць на прадпрыемстве высокапрафесійныя мастакі. Роспісы на разнастайных сервізах, талерках, кубках такіх мастакоў, як Раіса і Вольга Алёшыны, Мікалай Арэшчанка, Іван Гагалушка і іншыя, выкананы ў лепшых нацыянальных традыцыях.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

## ВІЦЕБСК...

# Дуэт Кавальчукоў

"Дуэт" — так назвалі сваю выставу мастакі Валерый і Людміла Кавальчукі, якая адкрылася ў панядзелак у Віцебскім краязнаўчым музеі. Непаўторныя мастацкія вобразы, увасобленыя ў керамічных келіхах, фарфоравых сервізах, фаянсавых і тэракотавых кампазіцыях, гавораць аб высокай тэхніцы і разнапланавай творчасці Кавальчукоў, якія, бадай, адзіныя на Беларусі валодаюць школай роспісу па сырой эмалі. Валерый і Людміла выпускнікі вядомага Абрамцаўскага вышэйшага прамыслова-мастацкага вучылішча, працуюць у пасёлку Руба пад Віцебскам восьмы год. Тут мастакі стварылі свой керамічны цэх. Работы апошняга часу і прадстаўлены на выставе.

# Полацкая ініцыятыва

Грамадскае аб'яднанне "Полацкая ініцыятыва" пачало выдаваць грамадска-культурніцкі бюлетэнь пад такой жа назвай. Рэдакцыйную раду, у якую ўваходзяць мастакі, пісьменнікі, музыкі Полаччыны, узначальвае Алесь Аркуш. У першым нумары бюлетэня — матэрыялы пра пятыя ўгодкі Таварыства вольных літаратараў, штаб-кватэра якога знаходзіцца ў Полацку, пра стварэнне карцінной галерэі ў Полацкім езуіцкім калегіуме, культурная хроніка, рэцэнзіі на кнігу ўспамінаў "Гарт. Саюз Беларускіх Патрыётаў".

**Святлана ГУК**

## А цар жа... у фраку!

**Мой добры знаёмец час-почас кажа: "Мы жывём пры канцы дваццатага стагоддзя, і адзенне мусіць быць функцыянальным!" Нічога, маўляў, страшнага, калі не паспяваеш забегчы дамоў пераапрануцца і мусіш ісці на прэм'еру, у чым ёсць: джынсы дык джынсы, макраступы дык макраступы.**

**Нядаўна ён шчаслівым голасам паведаміў: "Цяпер ужо можна зусім не камплексаваць і хадзіць у оперны, не здымаючы нават "спяцоўку"!" Маўляў, сам тэатр адчуў напружаны рытм жыцця пры канцы веку і дазволіў сабе, спасылаючыся на хранічны цэйтнот і фінансавыя праблемы (ну ўсё, як у людзей!), іграць прэм'еры класічных "касцюмных" твораў у спецвопратцы работнікаў мастацтва, г. зн. у канцэртных сукнях ды ў фраках.**

**Эмацыянальны мой знаёмец, вядома ж, гіпербалізаваў свае ўражанні.**

**Ну, так: дазволіў сабе Нацыянальны тэатр оперы Беларусі два прэм'ерныя паказы "Барыса Гадунова" ў канцэртным варыянце. Дык гэты прэцэдэнт быў растлумачаны ў друку, у "ЛіМе", прынамсі. Затое як разагрэлася ўяўленне меламанаў ды тэатралаў у чаканні новага сцэнічнага афармлення спектакля! Затое знаўцы маглі цалкам засяродзіцца на самой музыцы і яе ўвасабленні аркестрам, хорам, салістамі! (Праўда, сёй-той лічыць, што лепей бы такой магчымасці ў гледачоў не было, бо на фоне строгага і статычнага відовішча больш выразнымі зрабіліся выканальніцкія агрэхі, незбалансаванасць дынамікі).**

**Ну, так: сцэнічны малюнак вельмі нагадваў колішнія пампезныя ўрадавыя канцэрты, а тронны маналог цара Барыса — песню пра партыю ў выкананні саліста і зводнага хору. Дык жа ў гэтым, глянуўшы свежым вокам, можна "вычытаць" нейкія нечаканыя свежыя алюзіі!**

**Ну, канечне: фрак і канцэртная строгасць мізансцэн ураўнялі ўсіх. Толькі дасведчаны глядач здагадаецца, хто тут цар Барыс, хто князь Шуйскі, хто баярын Хрушчоў, а хто проста — бліжні баярын, хто думны дзяк, хто мужык Міцюха, а хто прыстаў... Але ж у гэтым таксама "нешта ёсць"!**

**Дый увогуле: адыграўшы прэм'еру ў Мінску, наш тэатр павёз яе на фестываль у Швейцарыю, дадаўшы да шэрагу іншых опер, таксама перарobленых на "канцэртны варыянт". Там, у сучаснай Еўропе, нібыта ёсць такая форма зносінаў з опернай класікай. Трэба ж зважаць на тое, што канчаецца дваццатае стагоддзе! Каму тут захацелася опернай вампукі: прыклееных барадаў, заморскіх напояў у бутафорскіх "залатых" келіхах, шапак са штучнага собаля ці чаго там яшчэ? Дзівакі...**

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

## У "Задзвінні" першая персанальная



**У цэнтры народных рамёстваў "Задзвінне" ў Віцебску адкрылася першая персанальная выстава работ кіраўніка аддзялення дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва дзіцячага эстэтычнага цэнтра "Гармонія" пры сярэдняй школе N 40 Галіны Магучай.**

*Фота А. ХІТРОВА, БЕЛТА*

МЕРКАВАННЕ

# Калянавуковая "капуста", альбо Няўдалы сімбіёз фізікі і лірыкі

Адзін з былых імператараў паміраючай Рымскай імперыі, марна пашчыраваўшы па яе выратаванні, на ўсе настойлівыя прапановы заняць зноў высокі дзяржаўны трон зусім па-зямному адказваў: "Каб вы ўбачылі, якую я цяпер капусту вырошчваю, дык не запрашалі б мяне болей..." Гэты гістарычны факт прыгадаўся мне пры азнаямленні з брашурай "Формирование адекватного образа науки как необходимый элемент гуманитарного образования", выдадзенай у БДУ (1996) і прызначанай Міністэрствам адукацыі РБ у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў філасофска-эканамічнага факультэта. Аўтарамі выдання з'яўляюцца мінскія фізікі В. Дыніч, Л. Тамільчык, Я. Талкачоў. Калі не за ўвесь аўтарскі калектыў, то, у прыватнасці, за прафесараў Льва Мітрафанавіча Тамільчыка і Яўгена Аркадзьевіча Талкачова можна толькі шчыра парадавацца. Яшчэ б! Шаноўныя аўтары свае апошнія манаграфічныя даследаванні выдалі дзесьці ў сярэдзіне 70-х...

Пры бліжэйшым азнаямленні са зместам працы прыходзіш да высновы, што не толькі імператар Дыяклетыян не здолеў сумяшчаць дзяржаўныя справы з новым захапленнем — агародніцтвам, але і аўтарскі калектыў вышэйзгаданай брашуры не дасягнуў жаданага: паяднаць фізіку з лірыкай. Ніва "новага" ідэалагічнага прачытання гісторыі беларускага народа, яго культуры і мовы і зрабілася тым агародам для прафесараў, дзе стала магчымым без асаблівай напругі атрымліваць неблагія ўраджаі крыжацветнай расліны. Сваё вучнёўства ў гэтай справе Леў Мітрафанавіч і Яўген Аркадзьевіч пачыналі з газетных публікацый. Напрыклад, у артыкуле "Наука пут не приемлет!" ("Советская Белоруссия" за 13 студзеня 1995 г.) імі праводзіцца думка, нібыта беларускае слова з'яўляецца путамі для сучасных фундаментальных навук. Ужо ў той час Л. Тамільчык і Я. Талкачоў пачалі ў друку здзекліва згадваць трагічныя вынікі г. зв. беларусізацыі 20-х і 50-х гадоў. У прыватнасці, ставілі цынічна-рытарычнае пытанне аб тым, што засталося ў навуцы ад энтузіястаў трыццатых гадоў, якія выкладалі вышэйшую матэматыку па-беларуску. Адказ вядомы: іх забілі — і беларусаў, і яўрэяў, у тым ліку і акадэміка АН БССР Тэлестыяна Бурстына (1888—1938 гг.), выпускніка Венскага універсітэта, аўтара падручніка па вышэйшай матэматыцы на беларускай мове.

Мабыць, з часам усвядоміўшы, што не прафесарская гэта справа — публічна размахваць "путамі", аўтары брашуры паспрабавалі адысці ад адкрытых нападак на беларускасць. Як дактары навукі, яны прыдумалі больш абачлівы прыём пазбаўлення ад "беларускіх путаў". *Кванты, вакуум, фотаэфект, імпульсы электрона* (гэта фізіка) і вулічныя рэцэдывы далёка не прафесарскай лексікі тыпу "проституция", "как говаривал Петр 1", "ученые-самоучки", "одиозность", "растлевающее воздействие" (гэта лірыка?) утвараюць дзівосны фон для пошукаў "анормальностей" у сферы прыродазнаўчых і гуманітарных ведаў.

Канстатуючы існаванне псеўда-, анты-, ілжэ-, паранавукі і выяўляючы тую шкоду, якую прыносяць анармальныя веды фізічнай тэорыі і практыцы, аўтары, тым не менш, асноўную ўвагу ўдзяляюць пошукам артэфактаў (штучных фактаў) у беларускай гісторыі, культуры і мове. Мала таго, не задаволіўшыся маруднай працай шукальнікаў, яны ці не самі ствараюць тыя самыя артэфакты. Гэта выявілася і ў аўтарскай тэзе наконт таго, што ў гуманітарнай сферы адсутнічае рацыянальнае пазнанне (?!).

Трэба думаць, што такога роду метадалагічны падыход і прадвызначыў тую смеласць, з якой аўтары пайшлі ў наступ на пробліскі беларускасці ў навуцы. Да неразумнага безапеляцыйна адносяцца нават асобныя словы ці іх вымаўленне, кшталту *параза, жарсці, імпэрыя, Эўропа*, а тарашкевіца вызначаецца ўвогуле як "дух каморы, архаічнасці, безгустоўнасці, інтэлектуальнага і эстэтычнага прымітыву...". Праўда гэта не працяг уласнагазетных "изысков" сп. Тамільчыка і Талкачова, а цытаванне маленькай часцінкі ўсяго антыбеларускага, што апошнім часам бруднай ракой цячэ з друкаваных і электронных СМІ нашай краіны. Менавіта гэтую брыдоту мінскія фізікі і выкарыстоўваюць для ілюстрацыі "анормальностей" беларускай мовы. Самі ж аўтары не здраджваюць месцачковаму: трымацца бліжэй да кухні. Яны даводзяць, напрыклад, "некашэрнасць" словаспалучэння кукурузныя шматкі ў сэнсе *хлопья*...

Вяршыняй анармальнасці ў суверэннай Беларусі, як вынікае з брашуры, з'яўляецца "законодательное закрепление анормального написания названия республики Беларусь в русском (!) языке. При всем уважении к суверенной РБ руссисты не смогли согласиться с изменением норм правописания, и в результате на экранах РТ и ОРТ мы видим привычный и грамматически корректный тапоним "Белоруссия". Можа, і сапраўды беларуская лексема "Республики Беларусь" (як сімвал суверэннай дзяржавы) рэжа слых маскоўскім тэледыктарам. Але ж, пэўна, і рускае слова "дурь", якое выкарыстоўваецца шаноўнымі дактарамі навук для аспрэчвання поглядаў іх апанентаў, далёка не ўзмацняе карэктнасці і мілагучнасці іх тэкстаў. Як тут ні спаслацца на словы саміх аўтараў: такога роду "операции без наркоза" на живой ткани языка наносят долго не заживающие раны и вместо ожидаемого расширения сужают сферу его применения до примитивно-бытового уровня. Это создает угрозу самому существованию языка в качестве развитого инструмента обучения".

Асаблівая пільнасць дактароў навук адчуваецца да тых даследаванняў, дзе гісторыя і лёс нашага народа разглядаецца з пазіцыі ўласнабеларускай гістарыяграфіі. Таму, напэўна, і трапілі ў аўтарскую няміласць кнігі "100 пытанняў і адказаў з гісторыі Беларусі" і "Па слядах аднаго міфа" Міколы Ермаловіча. Пры гэтым аўтары нагадваюць, што яны не гісторыкі і таму не лічаць сябе "вправе вступать в полемику по существу концепции Н. Ермоловича о происхождении Княжества Литовского". Разам з тым, што самае цікавае, Н. Дыніч, Л. Тамільчык і Я. Талкачоў адзначаюць: дыскусіі вакол гэтай канцэпцыі паказалі, што "аргументы специалистов "contra" явно превалируют над доводами "pro". Чые гэта аргументы? З якіх крыніц? І яшчэ: у брашуры высмейваецца не названы па прозвішчы кандыдат фізіка-матэматычных навук, які нібыта адвольна і вельмі экстравагантна перакладае на беларускую мову назвы хімічных элементаў. У выніку чаго "кремний превратился в "гегу", а радий в "лихань" (от слова "лихо")". Пры гэтым аўтары не згадваюць нават назвы і выходныя дадзеныя газеты, у якой быццам бы змешчана падобная недарэчнасць.

Поруч з замоўчваннем крыніц, з якіх бяруцца факты, выкарыстоўваюцца і не менш адмысловыя прыёмы. Напрыклад, для адмаўлення, можа, і небясспрэчных, палажэнняў у спадчыне сусветна вядомага Льва Гумілёва аб пасіянарнасці, прыродзе ўзнікнення новых этнасаў і іншым, аўтары робяць спасылкі на выказванні невядомай у навуцы Раісы Берг.

Разважаеш пра ўсё гэта, і на памяць прыходзіць адзін высокі сход, які адбыўся года паўтара назад. Там асобныя прадстаўнікі згаладалай прафесуры выпрошвалі падвышэнне сваіх заробкаў да ўзроўню міліцэйскіх палкоўнікаў. На што прысутныя дзяржаўныя чыноўнікі папулярна патлумачылі, што гэта можна зрабіць толькі тады, калі "тонкая матэрыя", г. зн. навука, здолее развіваць дапаможныя промыслы. Як бачым, гэтая парада не засталася без увагі. Вытворчасць "капусты" на ніве навукі ідзе поўным ходам...

**Мікола АНЦЫПОВІЧ**

ВЫСТАВЫ

# Мастакі "Пагоні" ў Полацку

На мінулым тыдні ў Полацку, у выставачнай зале пры музеі беларускага кнігадрукавання, закрылася выстава акварэляў Аляксея Марачкіна і адкрылася новая экспазіцыя — "Алесь Шатэрнік. Скульптура і жывапіс". Абодва мастакі — сябры творчай суполкі "Пагоня", таму ў дадзеным выпадку можна гаварыць пра тое, што суполка трывала атабарылася не толькі ў сталіцы, але і ў культурных асяродках правінцыі. Хоць назваць Полацк правінцыяй — язык не паварочваецца. Духоўны статус горада значна вышэйшы за статус адміністрацыйны.

Акварэлі Аляксея Марачкіна, з якімі мелі магчымасць пазнаёміцца палачане, — гэта нечаканы паварот у творчасці нашага вядомага мастака. Яны адкрыта эратычнага зместу.

Памятаю, што на першай выставе "Пагоні" творы такога характару былі зняты з экспазіцыі. "Артадаксальнае" крыло суполкі вырашыла, што эротыка і Адраджэнне — кепска стасуюцца, а тыя, хто меркаваў інакш, не сталі спрачацца — бо і без таго было праблем і клопатаў. Адраджэнне — шырокае паняцце. Адрадзіць дзяржаву, краіну немагчыма без адраджэння гуманістычных каштоўнасцяў. І, дальбог, самарэалізацыя ў эратычнай сферы для нармальнага чалавека не менш важная, чым у сферы сацыяльнай, творчай, прафесійнай.

Пэўны ўплыў на Аляксея Марачкіна зрабілі эратычныя акварэлі Агюста Радэна. Гэта малавядомы ў нас аспект творчасці вялікага скульптара. У Радэнавых акварэлях выбуховая пачуццёвасць, між тым як акварэль патрабуе ўзважанасці і дакладнага разліку.

Нешта падобнае адчуваецца і ў акварэлях Аляксея Марачкіна: упэўнены малюнак, мінімум колеру на белым тле паперы і... цэлы свет пачуццяў.

Алесь Шатэрнік прапанаваў на суд гледачоў шэраг скульптурных кампазіцый філасофскага зместу. Экспазіцыя аздоблена паэтычнымі тэкстамі мастака, якія вельмі добра стасуюцца з ягонымі пластыкай і жывапісам. У свой час Алесь Шатэрнік хутка прайшоў у творчасці этнаграфічную стадыю і наблізіўся да гістарызму. Каб сказаць слова пра мінуўшчыну, яму не трэба паглыбляцца ў побыт старасветчыны. Яго цікавіць не вонкавае, а існае, вечнае. Скульптар часта звяртаецца да вобраза воднай стыхіі, якая найбольш пераканаўча сімвалізуе плынь, запаволенасць і бег часу. Рака, човен, людзі ў чоўне. Адбітак у вадзе — другая рэальнасць, матэрыялізаваная свядомасцю.

Акрамя скульптур, на выставе й жывапіс. Краявіды. Куткі амаль некранутай прыроды. Каб не ведаць, што Шатэрнік — скульптар можна было б палічыць, што жывапіс ягоная прафесія, так бы мовіць — "законная жонка". Але гэта хутчэй — "каханка".

Алесь Шатэрнік — вядомы майстар пластыкі. Маюць водгук у чытачоў ягоныя паэтычныя вопыты. Не мінулі ўвагі спецыялістаў ягоныя меркаванні пра сімволіку Скарынавых кніг. Цяпер яшчэ і — жывапісец. Новая грань таленту.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ**

РЭПЛІКА

# Калі другі артыст народны...

У панядзелак 6 ліпеня, акурат перад Купаллем, прыхільнікі таленту народнай артысткі Беларусі Наталлі Гайды збіраліся на яе творчы вечар. Перад уваходам у Палац культуры Белсаўпрафа тоўпіўся народ. Білетаў у касе не было. Знаёмы меламан купіў квіток у адміністратара за 25 тысяч... без месца. А потым вельмі здзівіўся, убачыўшы ў зале багата вольных крэслаў. Аказваецца, білеты распаўсюджваліся цераз прафкамы, а раз грошыкі нібыта не свае кроўныя, то многія "актывісты" на канцэрт не прыйшлі.

У першым аддзяленні Н. Гайда выконвала рускія рамансы. Зала цярпліва чакала, калі яна заспявае рамансы на словы Багдановіча, Купалы, а мо ўспомніць выдатны твор на словы Бядулі "Дазволь..." Не, не дачакаліся. Ці не таму пасля антракту пустых крэслаў у зале паболела?

У другім аддзяленні спявачка выконвала арыі з аперэт Кальмана, Легара, Штрауса, з украінскай аперэты "Любоў Яравая", але ніводнай беларускай не ўспомніла. А яна ж некалі спявала ў аперэтах Ю. Семянякі "Паўлінка", "Пяе Жаўранак", "Тыдзень вечнага кахання", Ю. Суруса "Несцерка", іншых творах, бо амаль 30 гадоў Гайда жыве і працуе ў Мінску, тут стала заслужанай, народнай... Ну, хіба ж можна, Наталля Віктараўна, "забыть так скоро"?

Міжволі згадаліся радкі са славутай паэмы "Сказ пра Лысую гару":

***Калі другі артыст народны***
***Не знаў і двух народных слоў,***
***Затое меў тут харч нязводны***
***І ўволю цешыўся з аслоў...***

Францішак Лысагорскі, калі пісаў сваю паэму, Н. Гайды не ведаў, і гэтыя радкі не пра яе і не пра вядучую канцэрта, якая ніводным беларускім словам "уста свои не осквернила". Дык мо гэтая імпрэза рыхтавалася не для мінчукоў, а для таго ўральскага горада, дзе некалі вучылася Гайда? Але і там, на Урале, як і ў Сібіры, і далей, разумеюць і паважаюць беларускую мову.

**С. А.**

***Калі сплывае дробязны дзённы тлум і з'яўляецца нарэшце магчымасць на нечым засяродзіцца, мы вядзём з ім доўгія вечаровыя гутаркі. Хто ён, мой нябачны суразмоўца? Што праўда, яму не хапае некаторай канкрэтнасці, затое ён ведае ўсё, што думаюць людзі наўкола: і тое, што выказана ўголас і ў газеце надрукавана, і тое, што прамоўлена за зачыненымі дзвярыма. І нават тое, пра што думаюць, ды маўчаць, а яно нейкім неспасціжымым чынам вылятае з галоў і носіцца ў паветры. Гэтыя лятучыя словы, фразы, меркаванні пасля нярэдка з'яўляюцца ў нашых размовах, і тады мне здаецца, што мой суразмоўца збірае, канцэнтруе ў сабе ўсю незалежную крытычную думку, якая заўжды існуе ў грамадстве, аднак рэдка бывае ў поўнай меры выяўленай і пачутай. Мяне прыцягвае ягоная яснасць думкі, ад якой (пры ўсёй яе часам рэзкасці і катэгарычнасці) нібыта ўсё наўкола прасвятляецца, сплывае густы, ліпкі, зманлівы туман, і бачыш рэчы такімі, якімі яны ў сапраўднасці ёсць.***

***Тэма для нашых размоў найчасцей падказвае само жыццё. Безумоўна, нас хвалююць і светапоглядныя, і больш абстрактныя, разумовыя альбо духоўныя пытанні, але і надзённыя, блізкія абысці не выпадае. Як кажуць, у каго што баліць... А баліць нам сёння найболей адно: наша Беларусь. Беларуская мова, нацыянальная адукацыя. Гэтыя, безумоўна, — самыя балючыя, пякучыя, трывожныя з усіх набалелых пытанняў сённяшняга дня. Мой суразмоўца кажа, што яму "як грамадзяніну і сумленнаму чалавеку" ад гэтых неадчэпных праблем няма спакою ні ўдзень, ні ўночы. Таму па вечарах мы зноў і зноў да іх вяртаемся.***

# Роўнасць — гэта дыскрымінацыя?

Вось і гэтым разам ён выцягнуў (і ўжо не ўпершыню) красавіцкае інтэрв'ю міністра адукацыі Беларусі Васіля Стражава газеце "Звязда", у якім міністр тлумачыць неабходнасць змен у моўным заканадаўстве і ўвядзення ў краіне дзяржаўнага руска-беларускага двухмоўя, адным з ініцыятараў якога было Міністэрства адукацыі (што і было зроблена, як вядома). Навошта спатрэбілася гэта рабіць, міністр у сваім інтэрв'ю даводзіць аргументавана, з лічбамі ў руках, цвёрда і ўпэўнена і, здаецца, цалкам пераконвае журналіста, які вядзе з ім гутарку і напачатку спрабуе штосьці сказаць у абарону амаль ужо зусім разбуранай беларускамоўнай сістэмы адукацыі. І на здымку да інтэрв'ю міністр выглядае вясёлым і задаволеным сабой ды справамі свайго міністэрства, мэта якіх, аказваецца, — аднавіць парушаную справядлівасць, адстаяць канстытуцыйныя правы грамадзян. Аднак чамусьці ўражанне ад слоў міністра застаецца цяжкае і нават сама яго задаволенасць балюча раніць.

Спрабуем з маім суразмоўцам разабрацца ў логіцы афіцыйнай аргументацыі. Міністр робіць акцэнт на славутым праве бацькоў выбіраць мову навучання для сваіх дзяцей. Падаецца яно як нейкае асабліва гуманнае дасягненне дэмакратыі. Але ж вядома, што ўвод у дзеянне гэтага права амаль цалкам разбурыла ўжо зробленае ў напрамку стварэння нацыянальнай сістэмы адукацыі. І нельга не заўважыць, што з такім вялікім імпэтам падтрымліваецца права бацькоў выбіраць для сваіх дзяцей менавіта рускую мову навучання. Шырока вядомыя шматлікія выпадкі, калі бацькі, жадаючы вучыць сваіх дзяцей на роднай мове, не здолелі адстаяць гэтае сваё права ў сённяшніх умовах, часам нават праз суд.

— Але ў адносінах да рускамоўных такое права выбару выглядае цалкам дэмакратычным устанаўленнем, бо і сапраўды, як слушна даводзіць міністр, яно здымае пэўныя праблемы для бацькоў і дзяцей. Дзеці выхоўваліся ў рускамоўным асяроддзі, паколькі і самі бацькі мову страцілі (як пераважная большасць беларусаў), і садок быў, вядома ж, рускі, як, скажам, у Тамбове. А тут раптам — незалежнасць. Свая краіна, свая мова і культура, свая нацыянальная адукацыя. Адбылося тое ж, што і ўсюды, дзе распадаецца імперыя і аднаўляюцца нацыянальныя дзяржавы. Адразу ў такіх краінах ствараецца нацыянальная сістэма адукацыі. Аб'ектыўны працэс. Але на гэтым зломе апынулася роднае дзіця, менавіта на яго ўсё звалілася! Яму ж цяжка!

— Цяжка, — пагадзіўся мой суразмоўца. — Але не трагічна. Не ведае дзіця беларускіх слоў, дык на тое і школа, каб вучыцца. У такім узросце ўсё лёгка засвойваецца. Праз якія пару месяцаў, а тым больш праз год — ужо ніякіх праблем. Дзіця авалодае мовай, ды яшчэ і бацькоў навучыць. Успомнім, як у першыя гады незалежнасці многія бацькі праз дзяцей павярнуліся да роднай мовы, узбагацілі свае веды і сваю свядомасць больш глыбокім адчуваннем роднага слова і роднай зямлі. дык ці ж дрэнна гэта для дзіцяці? Наколькі яно вырасла, пабагацела духоўна, ведаючы ўжо дзве мовы: адну — з маленства ад бацькоў, а другую — са школы! На гэтым прыкладзе добра відаць, як толькі праз закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы ў нас можна прыйсці да рэальнага двухмоўя, якое першыя 10—20 гадоў будзе этапам на шляху вяртання мове беларусаў яе законнага месца ў краіне. Не забывайма, аднак, што пры такім рэальным двухмоўі беларуская мова — не проста другая, яе нельга параўноўваць ні з якой іншай. Толькі мова гэтай зямлі, закладзеная ў генах, здольная сфармаваць паўнавартасную асобу, сапраўднага грамадзяніна, а таксама дапамагчы раскрыцца ўсім здольнасцям і патэнцыям дзіцяці. Нездарма заўважана, што нават у цяжкі пераходны перыяд дзеці ў беларускамоўных класах і школах вучыліся не горай, а лепей, чым у рускамоўных. Тая ж з'ява назіралася паўсюдна на беларускамоўных плынях ВНУ, якія сёння таксама чамусьці ліквідуюцца.

Такім чынам, мы бачым, што, пераадолеўшы цяжкасці пераходнага перыяду, дзіця засталося ў выйгрышы: яна ўжо мае тое, што іншым яшчэ прыйдзецца набываць. Бо зразумела, што, адмяніўшы закон аб дзяржаўнасці мовы народа і зачыніўшы першыя створаныя беларускія школы і класы, улада не вырашыла праблему, а толькі загнала яе ўглыб, адклала яе на будучыню. Відаць, вялікі гуманізм нашы кіраўнікі бачаць у тым, каб, паводле вядомага выслоўя, адсякаць хвост па частках. Людзям імкнуцца давесці, што пра іх клапоцяцца, ім робяць дабро, прапануючы нейкі больш лёгкі шлях. Але нярэдка лёгкі шлях бывае згубным. Каб не страціць сябе і сваю краіну, народ мусіць прайсці тым адзіным шляхам, які для гэтага існуе, безадносна да таго, цяжкі ён ці лёгкі — як і любы іншы народ у тых жа варунках. Гэтак і разумныя бацькі не выбіраюць для свайго дзіцяці найлягчэйшага шляху. Напрыклад, хлопчык хоча днямі бегаць па двары, гуляць у мяч, а бацькі прымушаюць яго займацца вучобай, часта яшчэ і дадаткова нагружаюць — той жа музыкай, замежнымі мовамі. Навошта? Для яго ж так натуральна бегаць, гуляць, то няхай бы бегаў! Але бацькі не зважаюць на гэты натуральны выбар дзіцяці і прымяняюць прымус, іншым разам нават і папружку ўжываюць. Чаму? Гэта ж зразумела: яны клапоцяцца пра будучыню свайго дзіцяці. Вось гэтак жа ажыццяўляецца клопат пра лёс народа і яго будучыню і ў разумнай дзяржаўнай палітыцы. Калі ж вам соладка спяваюць пра недапушчальнасць прымусу ў авалоданні роднай мовай, то наўрад ці вам жадаюць дабра. Відавочна, што нават ставіць так пытанне — амаральна. Тут мусіць быць зусім іншая ўстаноўка: ведаць родную мову — святы абавязак кожнага грамадзяніна. Кожны прыстойны чалавек добра гэта разумее, таму ўсякія размовы пра прымус у такой справе лічыць для сябе абразай. Што ж да іншых, то тут слушна было б прымяняць тую ж методыку, што і да гультаёў у школе, якіх прымушаюць вучыцца, авалодваць школьнай праграмай (для іх жа карысці), не адмяняючы і не прыстасоўваючы яе пад такіх вучняў.

— Паслухаць цябе, дык атрымліваецца, што толькі лянота ды дурнота кіруе бацькамі, якія ў незалежнай Беларусі выбіраюць для сваіх дзяцей рускую мову навучання. Прабач, але зроблены табой крытычны разгляд пастаўленай праблемы прыводзіць менавіта да такіх высноў. Відаць, усё ж міністру не хапае аргументаў, каб праўдападобна растлумачыць гэты феномен.

— Такія аргументы ў яго ёсць. Ды толькі ён іх не прыводзіць, і ў гэтым няма нічога дзіўнага. Прыйдзецца мне самому назваць асноўную прычыну такіх несвядомых паводзінаў бацькоў. Як ты ўжо, відаць, здагадалася, я маю на ўвазе вышэйшую школу. На сёмым годзе нашай незалежнасці мы не маем яшчэ ніводнай (!) вышэйшай навучальнай установы з беларускай мовай навучання. Як кажуць, неверагодна, але факт. Дык чаго ж хацець ад бацькоў? Гэта нармальны прагматычны падыход да праблемы людзей, не абцяжараных залішняй нацыянальнай свядомасцю. Той жа клопат пра будучыню, перспектыву — у наяўных умовах. Я не кажу ўжо пра тое, што і ў школах ім дапамагаюць зрабіць такі "правільны выбар" усімі магчымымі сродкамі.

Стварэнне ж нацыянальнай вышэйшай школы — гэта клопат уладаў, палітыка дзяржавы. Тое, што гэтае пытанне не вырашаецца і нават не ставіцца кіраўнічымі органамі, немагчыма растлумачыць, калі падыходзіць да яго яго з пункту гледжання нацыянальных інтарэсаў. Незалежнай краіне патрэбна, як паветра, свая нацыянальная адукаваная эліта, якая спрыяла б яе росту, развіццю і росквіту.

А што да разважанняў пра дэмакратычную свабоду выбару, роўнасць магчымасцяў, канстытуцыйныя правы грамадзян, то сам факт адсутнасці ў краіне беларускамоўнай вышэйшай школы наглядна паказвае ўвесь фальш гэтых прыгожых слоў. Каб штосьці свабодна выбіраць, трэба, як вядома, мець выбар.

— Адкрыццё беларускіх нацыянальных ВНУ — першачарговая задача сённяшняга дня (калі ўжо гэтая важная справа не зроблена ні ўчора, ні пазаўчора). Пытанне занадта простае, каб яго не разумець. З такой яго пастаноўкай пагодзіцца любы чалавек, і праведзеная не так даўно акцыя ТБМ па зборы подпісаў за адкрыццё беларускамоўнага універсітэта пацвердзіла гэта: "за" ахвотна падпісваюцца практычна ўсе, акрамя хіба тых, што заўсёды баяцца хаця б у чымнебудзь паўдзельнічаць. Таму замоўчванне міністрам такой важнай і актуальнай праблемы здаецца проста ненатуральным. Якія тут планы ў міністэрства? Пра гэта, заўваж, ні слова, ні гуку...

— Затое шмат спасылак на сённяшні "рэальны стан грамадства", на "волевыяўленне беларускага народа" на рэферэндуме. Што да "рэальнага стану", то ён, што ўжо тут казаць, проста варты жалю. Амаль нідзе не пачуеш беларускай мовы, усюды пануе псеўдарасійскі сурагат, "трасянка", на якой, вось ужо сапраўды, не выкажаш нічога вялікага. У савецкія часы такі "рэальны стан" усё ж хаця б меў сваё ідэалагічнае абгрунтаванне ("зліццё моў") і выглядаў як пэўнага кшталту пачварная норма. Ну, а сёння гэта ўжо проста нонсенс, недарэчны анахранізм. Няма ніякай прычыны ў сваёй незалежнай дзяржаве карыстацца замест сваёй уласнай мовы сурагатам суседскай. Усе да адзінай былыя рэспублікі СССР, а цяпер незалежныя краіны, хутка і паспяхова пазбаўляюцца ад рэцыдываў падобнага "рэальнага стану", ствараючы самыя спрыяльныя ўмовы для адраджэння сваіх нацыянальных моў. Тое ж пачало адбывацца і ў Беларусі на пачатку 90-х гадоў, з прыняццем закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы яна стала паступова вяртацца на сваё законнае месца ва ўсіх сферах жыцця. Наколькі важна для краіны мець сваю ўласную мову ў якасці дзяржаўнай, мы можам бачыць на прыкладзе дзяржавы Ізраіль, народ якой здолеў адрадзіць нават мёртвую ўжо на момант яе ўтварэння мову сваіх продкаў — іўрыт. Не захацелі ж карыстацца адной з "вялікіх і магутных" моў — англійскай альбо рускай, не пабаяліся цяжкасцяў, не вялі пустых і безыдэйных размоў пра "рэальны стан", а ён быў такі, што мовы ніхто ўвогуле не ведаў, трэба было пачынаць з нуля. І вось вам прыклад таго, што адзінства народа, яго добрая воля можа тварыць цуды, вяртаць да жыцця нават тое, што, здавалася б, памерла.

Дык навошта ж нам з такім пачуццём наканаванасці абсалютызаваць гэты штучна створаны за часы імперыі ненатуральны, прыкры, брыдкі, ганебны "рэальны стан" як нейкую ледзь не стыхійную з'яву, непадуладную разумнаму ўздзеянню? Навошта яго кансерваваць і, тым больш, насаджаць? Каб сілком трымаць народ у мінулым?

Адно несумненна: як толькі тут дзяржаўны імпэт крыху зменшыцца, адразу зноў пачнецца, як ужо не раз было, працэс пераходу ад сённяшняга "рэальнага" стану да нармальнага, бо так створаны гэты свет — у ім усё імкнецца да нормы.

— А як жа "волевыяўленне народа" на рэферэндуме?

— Ніякага волевыяўлення не было.

— ?

— Ніхто не дазваляў гэтаму народу волевыяўляцца. Нават і мэта такая не ставілася.

— А што ж тады было?

— Была праведзена пэўная акцыя для атрымання патрэбных вынікаў. І запланаваныя вынікі былі атрыманыя. Як? Гэта ўжо справа тэхнікі. Мы ўсе добра бачылі, якія прыёмы пускаліся ў ход — ад папярэдняй масавай апрацоўкі насельніцтва праз СМІ да непасрэдных падказак. Улада ведала, што наш народ не такі дурны, ён зразумее, чаго ад яго хочуць, і будзе крэсліць так, як трэба. Помніш распаўсюджаныя напярэдадні рэферэндуму ўлёткі з падказкамі, як трэба галасаваць (у мяне і цяпер захоўваюцца гэтыя паперкі — дакумент "народнага волевыяўлення"), развешаныя ўсюды плакаты з падказкамі, падказкі на ўчастках членамі выбарчых камісій, якія, вядома ж, атрымалі інструкцыі на гэты конт? У арганізатараў мерапрыемства былі, безумоўна, і іншыя сродкі для атрымання патрэбнага працэнта. На другім рэферэндуме мы бачылі шмат прыёмаў дасягнення неабходных вынікаў, пра якія тады яшчэ не ведалі, што, аднак, зусім не значыць, што яны тады ўжо не прымяняліся.

Ну, дык якое ж гэта "волевыяўленне"? І галоўнае — навошта яно? Моўная палітыка — сфера, у якой павінны дзейнічаць вопытныя, дасведчаныя людзі. Калі ў кіраўніцтва ўзнікаюць тут нейкія праблемы, яно можа звярнуцца па дапамогу да спецыялістаў-кансультантаў. Навошта ж прэзідэнту, ураду, Вярхоўнаму Савету і Міністэрству адукацыі "мнение" бабы Мані?

Напрыклад, я ведаю, што вядомы мне прафесар Н. галасаваў на рэферэндуме зусім не так, як баба Маня, а наадварот. Прафесар Н. — разумны, адукаваны чалавек, яго думка — каштоўная, таму што кампетэнтная, узважаная, абгрунтаваная. Гэты чалавек — асоба, і такіх, як ён, няшмат. Затое імя бабы Мані — легіён. Магчыма, такіх, як яна, у нас два мільёны, магчыма, значна болей. Іх можа быць дзесяць мільёнаў, сто — тых, хто мысліць гэтак жа, як яна. Гэтую лічбу можна памнажаць да бясконцасці, але пры гэтым іх колькаснае павелічэнне чамусьці, насуперак вядомаму закону дыялектыкі, ніяк не ўплывае на якасць іхняй думкі. Яна ад гэтага не робіцца ні лепшай, ні разумнейшай. (Відаць, філосафы павінны звярнуць увагу на гэты феномен і дапоўніць закон аб пераходзе колькасных змен у якасныя папраўкай, якую можна было б назваць "папраўкай бабы Мані").

Такім чынам, на рэферэндуме баба Маня перамагае, але не розумам, а колькасцю. У выніку малакаштоўнае "мнение" неадукаванай бабы Мані кладзецца ў аснову моўнай палітыкі дзяржавы.

— Сапраўды дурнота нейкая, абсурд. Навошта гэты фарс?

— Гэты фарс назвалі "рэферэндумам", атрыманыя колькасныя вынікі — "перамогай", і цяпер імі размахваюць, як сцягам, робяць з іх неабвержны аргумент у барацьбе з нацыянальна свядомымі людзьмі, якія намагаюцца выратаваць родную мову ад канчатковага знішчэння. Улады выдатна разумеюць, што робяць чорную справу, вось і хаваюцца за "выбар народа", "народнае волевыяўленне".

— Ну, ты разгаварыўся! Глядзі, каб цябе не прыцягнулі!

— Мы ў свеце доказаў. Тут можна дзейнічаць толькі логікай і фактамі, а не палкай па галаве.

— Наіўны ты чалавек. Забыўся, дзе мы жывём? Успомні хоць гісторыю. Многа тут слухалі лагічныя разважанні? Як гэта там, у Маякоўскага?..

— Маўчы. Не чапай ліха. Лепш не ўспамінаць увесь гэты сатанізм, не выцягваць яго зноў на свет божы.

— І то праўда. Аднак штосьці трывожна.

— Ты, відаць, забылася, што я... Як бы гэта сказаць?.. Недаўвасоблены, ці што? Мяне няма.

— Добра табе.

— Вось не думаў, што можна пазайздросціць майму неіснаванню. Ну што ж, існаваць — заўсёды небяспечна. І думаць небяспечна. І гаварыць. Але ж ты ні ад чаго не адмовішся, я ўжо цябе ведаю. Дарэчы, у

*(Праця́г на стар. 12)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Ёсць і будзе

**Абласны літаратурны конкурс "Дэбют" (ладзілі яго ўпраўленні культуры і адукацыі, камітэт па справах моладзі аблвыканкама і абласное аддзяленне Саюза беларускіх пісьменнікаў) праводзіўся ў рамках рэспубліканскага. Яму была нададзена дзяржаўная ўвага і такі прайшоў ён упершыню.**

**Што ж паказаў конкурс? Разам з членам журы паэтам Давідам Сімановічам я прачытаў усе дасланыя творы: вершы, замалёўкі, кароткія апавяданні. І скажу без пахвальбы: Віцебшчына застаецца Віцебшчынай — знанай старонкай на літаратурнай карце рэспублікі. Ёсць, будзе каму і заўтра перадаць чароўную палачку прыгожага пісьменства! Ад душы парадаваўся разам з астатнімі членамі журы і аргкамітэта за тое, што амаль усе раёны вобласці (дзякуй аддзелам культуры райвыканкамаў, раённым аддзелам асветы) даслалі нам творы маладых і пачынаючых аўтараў. У конкурсе прымалі ўдзел людзі ва ўзросце ад 14 да 30 год. (Узроставы цэнз, бадай, апраўданы, бо пасля трыццаці год, за рэдкім выключэннем, чакаць удалага літаратурнага дэбюту не даводзіцца).**

**Асабліва вызначыліся Пастаўскі, Докшыцкі, Аршанскі і Браслаўскі раёны. Нездарма сярод пераможцаў — большасць адтуль.**

**Не магу не сказаць і пра сумнае: ніводнай літаратурнай работы не было даслана на конкурс з Ушацкага раёна. Адсюль родам — тры народныя паэты і пісьменнікі — Васіль Быкаў, Пятрусь Броўка і Рыгор Барадулін. Такім сузор'ем не можа пахваліцца ніводзін іншы раён рэспублікі. А сёння што — няма там пачынаючых? Ёсць! Сам сустракаўся з імі на абласных конкурсах юных паэтаў і музыкаў, рыхтаваў іх творы для кніжкі "Крынічка". Ёсць яны, калі меркаваць і па старонцы "Неруш" у раённай газеце "Патрыёт". Аднак з'яўляюцца вершы там самацёкам, работы з пачынаючымі не вядзецца, хоць рэдактар "Патрыёта" Уладзімір Хвошч усяляк падтрымлівае прапаганду творчых здабыткаў сваіх землякоў.**

**Сумна, што з Наваполацка даслалі на конкурс творы трох рускамоўных аўтараў, творчасць якіх, мякка кажучы, пакідае жадаць лепшага. Ніводнай кандыдатуры не было з Шумілінскага, роднага мне, раёна і з Полацкага. Членам нашага творчага саюза, што жывуць у названых раёнах, варта задумацца над гэтым.**

**Мэтай конкурсу было: выяўленне і падтрымка маладых талентаў, актывізацыя цікавасці да літаратурнай творчасці і нацыянальнай культуры. Яна ў нейкай меры і дасягнута, нягледзячы на выдаткі. Больш за дзесяць чалавек будуць удзельнічаць ў рэспубліканскім конкурсе, які пройдзе ў лістападзе г. г. у Брэсце. Сярод іх у паэтычнай намінацыі — Таццяна Бондарава (п. Мазалава Віцебскага раёна), Васіль Гарановіч (г. Глыбокае), Вольга Дзевяткіна (п. Балбасава Аршанскага раёна), Наталля Смерцева (г. п. Друя Браслаўскага раёна), Наталля Каравацкач (Пастаўскі раён). А ў прозе вызначыліся Алена Несцяронак (п. Валакалаты Докшыцкага раёна), Вольга Карач (г. Віцебск), Ірына Пяткевіч (г. Паставы), Алесь Маркаў (г. п. Бягомль Докшыцкага раёна), Таццяна Дубоўская (г. Паставы).**

**Спецыяльныя прызы за паспяховы дэбют уручаны Алегу Droню з Віцебска і Юлі Вітко з Мёрскага раёна.**

**На заканчэнне хочацца выказаць удзячнасць вядучаму спецыялісту ўпраўлення культуры аблвыканкама Галіне Кібісавай і галоўнаму спецыялісту камітэта па справах моладзі Яўгеніі Казлоўскай за дапамогу ў выхаванні творчай моладзі Прыдзвінскага краю.**

**Алег САЛТУК**

**сакратар абласнога аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў, старшыня журы конкурсу**

## "Маладосць", N 5

**У паэтычнай абойме — і маладыя аўтары, і ўжо добра вядомыя: змешчаны верш З. Гасціловіч, братоў Анатоля і Васіля Дэбішаў, А. Тулупавай, А. Шушко, У. Карызны. Жанр сваіх апавяданняў Г. Багданава вызначыла як "самотныя прыпавесці". Апублікаваны апавяданне-быль М. Кулеша, апавяданні Л. Дрожжы, "абразкі з натуры" (па аўтарскім вызначэнні) У. Шулякоўскага, аповесць А. Бароўскага "Ахутавана". Дарэчы, у гэтым жа нумары У. Бераснёўскі рэцэнзуе кнігу А. Бароўскага пра энергетыкаў-ліквідатараў "Чорны бусел — белы цень" ("Апакаліпсіс душы не прадбачыцца"). Ёсць магчымасць перагарнуць старонкі "Старажытнай Беларусі" М. Ермаловіча, публіцыстычнага роздуму Я. Конева "Шанц для Бацькаўшчыны", успамінаў кандыдата гістарычных навук У. Паўлава "Ратуючы будучыню", нарысам М. Дабаснянскага "На зялёных промнях Бярозы", слова В. Коўтун "Феномен вернасці" пра С. Алексіевіч, анатацыйнай падборкі "Папытай у кнігарні". А. Кірвель ("Фарбы зямлі рэчыцкай") знаёміць з мастаком В. Сівухам, рэпрадукцыі работ якога прадстаўлены на каляровай уклейцы і на чатырох старонках вокладкі.**

КРЫТЫКА

# "Чаму душа да слёз гарчыць?"

***Шэры горад. Шэры дзень.***
***У самотным скверы***
***Твары шэрыя людзей.***
***І на сэрцы шэра.***

Горад, праўда, быў перадсвяточны і белы; снег падаў нетаропка і грунтоўна. Але навакольны свет чамусьці ўсё роўна здаваўся афарбаваны ў колер апошняга працытаванага радка.

Зусім натуральна для такога дня ў гастраномах было тлумна, а ў кнігарні ціха. Тут, на небагатай паліцы з беларускімі выданнямі, і дачакалася мяне кніжачка вершаў, якую вока выхапіла найперш за два словы на вокладцы "Баліць душа..." Сугучным маім пачуццям быў і радок "Адзінота — стыхія паэта", і выснова: шматпавярховы панельны дом — добраахвотная турма, у якой жывуць "вязні незалежнасці".

У сваёй "камеры" на дзевятым паверсе панельнай "турмы" я чытала вершы Змітрака Марозава:

***Як без турмы няма свабоды,***
***Так без пакут няма жыцця.***

"Калі душа працята болем, якога розум не спасціг" — гэта душа паэта. "Хоць людзям усё роўна, што дзеецца з душой". У тым ліку і з іх уласнай. Найперш душа жыве ў мове.

***А навошта чалавеку мова?..***
***Шмат каму са сваіх землякоў***
***Задаваў я гэта пытанне,***
***Але ніхто мне на яго не азваўся.***

Занядбаўшы клопат пра душу, "співаецца вёска патроху", "канае ў пакутах зямля", а "на цэнтральнай вуліцы сталіцы" сядзіць жабрак з працягнутай рукою, які ў мінулую вайну "не дабег сто крокаў да рэйхстага" і страціў ногі. На брудным асфальце — "бабулька з іконай", якая без веку скрывела ад працы. "На плошчы Незалежнасці... жабрачка, просіць міласціну. Падаюць рэдка". Нас гэта ўжо не жахае. Гэта, бадай, звыклы ў страшным сэнсе слова атрыбут нашага жыцця. Своеасаблівы партрэт грамадства на фоне "дэкларацыі свабоды, дэкларацыі правоў". А ці адгадае шаноўны чытач загадку?

***Мае вочы, а сляпы,***
***Ёсць язык, ды без'языкі,***
***Мае рукі, ды слабы,***
***Мае твар, але бязлікі!***

Не хоча шаноўны чытач адгадваць. Не хоча пазнаваць сябе. "Колькі ні крычы — не дагукаешся". Горка, панове. Гэта не дадае аптымізму і самому паэту: "я мог бы пражыць і памерці бязмоўным, ды некаму ж трэба людзей шкадаваць". Калі б пастаўгоддзя назад крытык такім чынам вызначыў жыццёвае крэда паэта, ён паставіў бы на паэце крыж, як на "шкодным элеменце". "Человека унижает жалость", — гэта з тых часоў. Праўда, сёння мы ўжо гукаем не дагукаемся вуснамі іншага паэта: "Кто б меня унизил, пожалев?" Бо, здаецца, мы зразумелі:

***Чалавеку патрэбна так мала —***
***Каб яго хоць хто-небудзь любіў.***

А інакш ён здольны нават на забойства ("Суд"). Гераіня ж верша "Доля" не забіла сваё дзіця-бязбацькавіча (глядзі крымінальную хроніку), бо кахала, а не проста "легкадумнаю была". Як бачым, усё вяртаецца на звыклыя кругі жыцця. Усё пачынецца з любві. Да жыцця, да маці, да Радзімы, да свабоды, да людзей, да асенніх "пустых гаёў і сонных ніў"... З любві мужчыны да жанчыны. З кахання.

Змітрок Марозаў сказаў па-свойму:

***Хто гаворыць, што шчасце ў каханні,***
***Той кахання зусім не спазнаў.***

"Зноў трагедыя?" — скрывіцца чытач. Супакоім яго: аптымістычная. Гэтае паняцце — не толькі вызначальны элемент эстэтыкі сацрэалізму, але і сутнасць такой, напрыклад, маральнай запаведзі, як:

***Трывай — і новае святло***
***Ўзыдзе з тваіх пакут і болю.***

Між тым мае пачуцці да таго, што я чытала, змяняліся ад станоўчых да гранічна адмоўных атаясамляючы мяне то са спачуваючай "незнаёмкай", то са злым крытыкам, героямі вершаў кнігі.

Раздзел "Дзікая ружа" адкрываюць радкі:

***Не трэба пра каханне. Памаўчым,***
***Каб не спаліць пачуцці ў паняверцы.***

І паэту неяк адразу верыш. Праўда, да пэўнай мяжы. Бо потым хочацца, як і ён (але з іншай нагоды), усклікнуць:

***Відаць, патрэбна памаўчаць,***
***Бо словы сэнс заўжды губляюць...***

Асабліва ж тады, калі, паўтараючыся, пачынаюць назаляць. Нават каханая папракнула паэта: "Я не люблю тваіх бяроз з іх невыноснаю журбою". Аднак яны зноў шумяць тут, на гэтай жа старонцы, у наступным вершы! Ці ж можна так злоўжываць цярпеннем жанчыны, а тым больш крытыка, нават калі і першая і другая — незнаёмкі?

Нават калі гэтага крытыка не спакушаюць лаўры Тодара Глыбоцкага, які вінаваціў Паўлюка Труса за беднасць мовы: "На ўвесь зборнік "Ветры буйныя" мы налічылі ўсяго 711 слоў; г. зн., на кожную старонку прыпадае ў сярэднім 6 слоў"...

Нават калі крытык усведамляе, што "найвялікшай банальнасцю ёсць само жыццё", усё роўна немагчыма прыняць банальны вобраз кахання-саду, у якім для паэта важнейшым з усіх сезонаў з'яўляецца вясна, а любімай птушкай (нізашто не здагадаецеся!) — салавей. Таму сад пераважна "маёвы", і ў ім сэрца грэе ўсё тое, што мае здольнасць "салаўіцца", як лета, "прыроды грай" і інш.

Там, канешне ж, цвітуць ружы, якія маюць схільнасць вянуць, калі герой (гераіня) сустракаюць новае каханне, і крыніца тайны якіх паэтамі даўно вычарпана да дна, да хрусту пяску на зубах. Над гэтым садам заўсёды, не толькі "ў цемрадзі начной", свеціць "зорка кахання", то "вясновая", а то і "вечная". Там "зорныя паляны", з якіх добра праглядаецца "шляху зорнага млечнасць". Там "дагарае рабіна", падзяляючы пальму першынства з бярозай, а пад ёй лірычнага героя чакае тая, якую ён неаднаразова "нарок каханай".

"Маёвая пароша", як цукровая пудра, прысыпае там разнастайную "слодыч", каб ператварыць яе ў "мёд кахання", "мёд настою, што ў духмяных спеліцца стагах", на што то па-філасофску абыякава, то гулліва-зацікаўлена паглядае "месік", "месік залаты", "месік маёвы". У яго прывідным святле сцвярджэнне "Я дзіўны свет намаляваў жывой фантазіяй паэта" ўяўляецца нічым іншым, як гіпербалай. Там рыфмуюць "сябе—цябе", "твой—табой" і ўрэшце застаюцца "на попеле кахання..."

Стварaецца ўражанне, што прысмак слодычы і мёду для паэта — абавязковая адзнака зямнога раю. Для чытача ж хутчэй — "салодкая мана".

Хаця паэт у прынцыпе супраць хлусні ("Бацылы хлусні..."), гэтую маленькую слабасць ён дазваляе свайму герою. Больш таго, яе патрабуе лірычная гераіня:

***Падмані мяне, так падмані,***
***Каб паверыць змагла я ў падман.***

А не намі сказана: "Чаго хоча жанчына, таго хоча Бог".

Паэт жа, "атэіст у чацвёртым калене", прыйшоў да некаторых жыццёва важных высноў, адна з якіх:

***Няма святых, хоць рэжце!..***
***Тым больш сярод паэтаў.***

Прыйшоў — і "ў пакутах адсеяў сумненні..." Мяркуйце самі: Джульета, Афрадыта, Неферціці, Кацярына, Людміла, Аліна, Наташа. Гэтыя гераіні розных вершаў і самі зусім розныя. Але іх яднае адно: ніводная паасобку не з'яўляецца "той, што бачу ўяўленнем паэта". А можа, гэта і лепш?

Прынамсі, чытач мае магчымасць глядзець разам з лірычным героем і месікам у малахітавыя, або агатавыя, або бурштынавыя, або цыганскія вочы ці вочы колеру хвалі, цалаваць "смуглыя калені" ці "снеж-

---

*Змітрок Марозаў. Баліць душа па Беларусі. Вершы. Мн., 1996.*

ЧАСОПІСЫ

# Заганныя стэрэатыпы ў сучасным пісьменстве

***Рэдакцыя часопіса "Крыніца" нечакана для сябе атрымала прафесійны (крытычны) разгляд верша Алеся Макрацова "Дзеля ўзнікнення даверу", што быў выдрукаваны ў рубрыцы "Я маю твор..." (N 4, 1997 г.).***

***Нам падаліся слушнымі заўвагі кандыдата навук з Брэста Валянціны Мароз — больш таго, карыснымі, як для маладых, так і для сталых літаратараў...***

***Аўтарка, між іншым, прапануе ўвесці рубрыку "Я маю што сказаць пра твор". І чаму б не паспрабаваць зрабіць гэта ў штотыднёвіку "ЛіМ", дзе і чытачы, і крытыкі маглі б выказацца пра той ці іншыя творы, што з'яўляюцца на старонках нашай перыёдыкі (станоўча ці адмоўна, крытычна ці палемічна) — галоўнае, каб тое было на карысць творцаў, творчасці і беларускай літаратуры ўвогуле...***

**Л. Г.**

Па аналогіі з назваю верша сфармулявалася пытанне: а што трэба дзеля ўзнікнення чытацкага даверу да твора і аўтара? Каб не збівацца на фармальны пералік, пойдзем іншым шляхам: пакажам тое, чаго пакуль нестае аўтару.

Структурная арганізацыя твора (зачын, развіццё думкі, выснова) патрабуе арганічнае спалучанасці моўных сродкаў, тае натуральнае семантычнае злітаванасці, з якое паўстае дакладная і лагічная думка. Перачытаем твор па частках, шукаючы спосабы ўдасканалення:

З гісторыі мы ведаем тры асноўныя дзяржаўныя і народаўтваральныя цэнтры ўсходніх славянаў: Ноўгарад, Кіеў і Полацак.

На перагляд просяцца абодва злучнікі **і**: замяніўшы першы на далучальны **ды** (дзяржаўныя ды народаўтваральныя цэнтры), забяспечылі б лагічнае выдзяленне прыметніка н а р о д а ў т в а р а л ь н ы, асацыятыўна звязанага з назоўнікам э т н а с (наўгародскі этнас); другое **і** ў сказе лішняе: без яго не парушаецца рытміка верша, але захоўваецца раўнавартаснасць пералічаных гарадоў (праз гэта няма патрэбы слова П о л а ц а к выносіць на новы радок). За выказанаю заўвагаю просіцца і такая: калі змяніць парадак пераліку, можна пазбегнуць таўталагічнага паўтору (славя - **наў: Ноў** - гарад); лепей так: "...славянаў: Кіеў, Ноўгарад, Полацак".

І наступная фраза можа і павінна быць удакладненая:

Ведаем, што старажытныя этнічныя, палітычныя, эканамічныя, геаграфічныя ды іншыя ўмовы існавання Русі патрабавалі нараджэння на паўночным усходзе раўназначнага чацвёртага.

Патрабуецца нескладаная, але істотная перастаноўка прыметніка с т а р а ж ы т н ы: ён мусіць быць спалучаны з назоўнікам Русь (умовы існавання старажытнай Русі), бо **ўмовы** не могуць быць ні старажытныя, ні сучасныя.

Далей па тэксце ідзе разгорнутае парцэляванае (г. зн. адасобленае, вынесенае за межы сказа) азначэнне:

...раўназначнага чацвёртага.
**Напаўславянскага.**
**Які ўвасобіўся ў Маскоўскай дзяржаве, —**

ны пагорак пляча". Гэта, безумоўна, значна лепш, чым сумніўная, а ўрэшце і сумная перспектыва:

***Няўжо вось з гэтых вуснаў раззлаваных***
***Злятала майскім (!) ветрыкам:***
***"Каханы".***

Ці:

***Не падыходзь. Я хварэю заўсёды***
***Ад пацалункаў змяіных тваіх.***

Гераіня дадзенага верша безыменная, але, скажам так, яўна не Незнаёмка. Наўрад ці яе вобраз натхніў паэта на ўспамін, "як ты жывою скрыпкай грала ў маіх акрыленых руках". Усёй сваёй існасцю лірычны герой сцвярджае:

***Беражыце жанчын!***
***Штохвілінна!***
***Штодзённа!***
***(Калі нават жанчына***
***не вашая жонка...)***

Больш таго: нават асабліва, калі не вашая! Бо хаця ён і плача, як бабёр: "Пакажыце мне жанчыну, што кахала б аднаго!" і не адмовіцца быць тым адзіным, але ж наўрад ці аддасць перавагу такой жанчыне перад той, якая

***Падмалявала губы***
***І вочы падвяла.***
***Сказала: "Чао, любы!"***
***І ў ноч адна пайшла.***
***Туды, дзе муж чакае,***
***Суровы і круты...***

Ох, ужо гэтыя жанчыны! Вось і чарговы паэт б'ецца над вашай спрадвечнай загадкай:

***Якой чарадзейнаю сілай***
***Мяне ты ў палон узяла?***

Просім не хваляваца тых жанчын, якія маюць проста "мілы твар", хаця душу лірычнага героя разы са два апякае як элемент загадкавасці і ён. Што дазволена Людміле, тое **nonlicet bovi**. Зноў жа, некалі Уолт Уітмен сказаў пра гэта прыкладна так:

***Жанчыны. Сядзяць і ходзяць.***
***Маладыя і старыя.***
***Маладыя — прыгожыя.***
***Старыя — яшчэ прыгажэй.***

І прычына — у значнасці твару, што добра ўсведамляе і сама лірычная гераіня:

***Не называй мяне прыгожай,***
***Бо ў прыгажосці ёсць мана:***
***Даверся ёй — і асцярожна***
***Цябе аблытае яна.***

Вось тут, шаноўны чытач, якраз і дарэчы будзе пакінуць "сад кахання", каб не заблытацца ў банальных прыгоствах і атрымаць асалоду ад сапраўднай прыгажосці.

"Стыль квяцісты, штучны шэраг сказаў і вытанчаныя словы служаць для скрыцця пасрэднасці таленту, — пісаў Г. Мантэран, — што было б відаць, калі б аўтар выказаўся ў спосаб натуральны". Злы крытык толькі-толькі наважыўся шпурнуць гэты камень за садовую агароджу, як раптам рукі Незнаёмкі апусціліся. Яны адгарнулі вось гэта:

***Калі размаўляюць вочы,***
***Заўсёды нямеюць словы.***
***І часам адзіны позірк***
***Каштуе паэмы цэлай.***

***Таму са сваёй каханай.***
***Заўжды гавару вачамі,***
***А попел жывых пачуццяў***
***Нямой аддаю паперы.***

Золата ж, як кажуць, блішчыць і ў попеле. Варта толькі пашчыраваць над радкамі вершаў. "Белы жораў долі мне цябе прынёс..." і "невыносная журба бярозавага фону" адступае ў гэтым вершы далёка-далёка. "Твае бусліныя далоні, якія прагна цалаваў". Пазбаўлены асацыятыўнага мыслення індывід неўразумела хмыкне над такім радком. Але просяцца на ўспамін радкі іншыя: "Дзеўка з нагамі лебедзя. Што? У лебедзя чорныя ногі. Я сам ведаю. А ногі ўсё ж былі лебядзіныя" (Уладзімір Караткевіч. "Сівая легенда"). А далоні — бусліныя. Таму і праз гады такая "лёгкая далонь шчэ тоіць даўняе цяпло".

...Засыхае маладая рабіна, "як і наша каханне". Ужо было! Але з тых жа сімвалаў складваецца новая знакавая сістэма:

***А можа, сваёй марудлай пагібеллю***
***Яна яшчэ імкнецца абудзіць у нашых***
***скамянелых сэрцах***
***Вясновыя пачуцці?..***

Позняе каханне — мудрае каханне, ахвярнае. Часам яно наіўнае, бо азначае "дзіўнае вяртанне ў маладосць жыцця". Часцей горкае і пакутнае. Вельмі зямное.

***Салодкі пах дрыготкай плоці,***
***П'янкі дыван зраселых траў***
***І Ваш маленькі прагны роцік,***
***Які мяне пацалаваў.***

Нават заземленае. "Прыгажуня Афрадыта" ўсміхнулася і ўсмешкай, "быццам варам, апякла".

Часам паэт спалучае, здаецца, неспалучальнае: "зямное жыта" і высокі ідэал Неферціці.

...Тут Незнаёмка летуценна ўздыхнула, але з жыта раптам высунуўся злы крытык і пачаў сыпаць цытатамі... з Танка. "Яшчэ раз перачытаў Сада. Вельмі пасрэдны пісьменнік. А ў прадмове — геній... Як абмінуць у паэзіі рыфы прыгажосці і прапісных ісцін?.. Слабасць нашай паэзіі ў тым, што ў ёй больш эмоцый, чым думак... Баюся, каб не ўпасці ў смяротную хваробу паэзіі — ва ўяўную прыгажосць. У сапраўднай музы мазольныя рукі".

Безумоўна, Змітраку Марозаву таксама ёсць чаго баяцца, ідучы паэтычным шляхам, а крытыку знойдзецца ў чым яго папракнуць. Затое не пра гэтага паэта сказана:

***Між іншым, грэчку і пшаніцу***
***Нярэдка блытае бядак.***

І ў яго музы, і ў яго лірычнага героя рукі мазольныя. Яны

***...дадзены чалавеку,***
***Каб ён мог сеяць жыта***
***І калыхаць немаўлят...***

І пісаць вершы, народжаныя ў "натхнёным сэрцы".

Калі баліць душа, то яна жывая.

**P. S.** Яшчэ аб адной прычыне, праз якую "гарчыць душа". Гэта безліч памылак, якія міжволі ўплываюць на ўспрыманне паэзіі чытачом, бо найперш падсвядомасць залічыць іх на рахунак аўтара, а ўжо потым вока (і то не кожнае) адшукае прозвішча карэктара і пільней угледзіцца ў візітную картку выдаўца.

**Алена БАРАДЗІНА**

КНІГАРНЯ

# Як частка драматургіі для дзяцей

Выдавецтва "Юнацтва" паспяхова ажыццяўляе адзін з найцікавейшых сваіх праектаў — выпуск "Бібліятэкі беларускай дзіцячай літаратуры" ў дзесяці тамах. Зборнік твораў беларускай драматургіі "Цудоўная дудка" (уступны артыкул і ўкладанне Сцяпана Лаўшука) — адзін з апошніх у гэтай папулярнай серыі. Назву кнізе дала вядомая п'еса-казка Віталя Вольскага, створаная ў 1938 годзе. Галоўны герой твора Янка трапляе ў самыя розныя сітуацыі, калі вандруе ў пошуках праўды да караля. Як слушна зазначае С. Лаўшук, "мастацкія асаблівасці п'есы-казкі "Цудоўная дудка" даюць падставы сцвярджаць, што яна аказалася своеасаблівым мастком, які злучыў творчую практыку першых дзесяцігоддзяў XX стагоддзя з пасляваенным часам".

У цэлым жа том дазваляе прасачыць, як развівалася беларуская драматургія для дзяцей. Адкрываецца ён творам Кандрата Лейкі "Снатворны мак", пазначаным аўтарам як "сцэна для дзіцячых тэатраў". Напісаная яшчэ ў 1912 годзе, гэтая п'еса стала першым сцэнічным творам у беларускай літаратуры, адрасаваным лялечнаму тэатру і наогул адной з першых дзіцячых п'ес. У аснове яе пакладзены казачны сюжэт, у якім па-свойму вырашаецца тэма злачынства і пакарання.

Фальклорныя сюжэты выкарыстаны і ў п'есах "У лясным гушчары" Францішка Аляхновіча і "Хлопчык у лесе" Алеся Гаруна. Дарэчы, сюжэтна блізкіх між сабой. Лёгкасць успрымання п'есе А. Гаруна надае тое, што яна вершаваная. Ды і думка-ідэя, якая закладзена ў аснову, не страчвае свайго выхаваўчага значэння па сённяшні дзень. Словы, сказаныя Хлопчыку адной з гераінь: "Для братняй карысці яго (дзівосны куфэрак з чарадзейнымі рэчамі. — **В. З.**) ужывай і, як сягоння нам, хлапчына, усім шчыра ў горы памагай" — напамінак, як важна ў жыцці быць добрым, спагадлівым. Усяго ў томе змешчана чатырнаццаць п'ес пятнаццаці аўтараў. Ля вытокаў дзіцячага тэатра стаяла і п'еса Змітрака Бядулі "Смерць пастушка" (1914), а вось драму Міхася Чарота "Пастушкі" (1921), па словах С. Лаўшука, "можна разглядаць як яркую сцэнічную замалёўку народнага жыцця ў чыста багушэвічаўскім плане: у ёй супрацьпастаўляецца светабачанне сялянскіх і панскіх дзяцей з яўнай сімпатыяй да першых з іх, настойліва праводзіцца думка аб тым, "каб людцы прызнавалі братоў ды братамі — дзяліліся б доляй ды хлеба шматамі".

"Шпачок" Алеся Махнача — сённяшні дзень драматургіі. Гэтая гераічная драма вяртае да гадоў Вялікай Айчыннай вайны, калі дзеці змагаліся з гітлераўцамі поруч з дарослымі. Вобраз 14-гадовага Васіля Шпачка атрымаўся праўдзівым і пераканаўчым.

Увайшла ў том і камедыя Івана Шамякіна "Залаты медаль", у якой закранаюцца праблемы школьнага жыцця, сяброўства: "Маральная норма — канкрэтная сітуацыя — праблема выбару — учынак — вынік... Гэты сюжэтны ланцужок выкарыстоўваецца пісьменнікам ледзь не ў кожным творы, але кожны раз па-новаму, бо "замыкаецца" на новых лёсах у новых сацыяльна-псіхалагічных умовах".

Пацвярджэннем таму і шамякінаўская п'еса "Залаты медаль", якая мела шчаслівае сцэнічнае жыццё.

З поспехам ішлі спектаклі і па п'есе Анатоля Вярцінскага "Дзякуй, вялікі дзякуй!", у якім пісьменнік умела выкарыстаў фальклорную аснову, надаўшы тым самым новае гучанне развагам пра дабро і зло. Па-свойму асэнсоўваюцца А. Вярцінскім і пытанні маральнай адказнасці.

А вось паэма-казка Валянціна Лукшы "Чароўны камень", як піша С. Лаўшук, "сваім сюжэтам ...нечым нагадвае музычную драму М. Чарота "На Купалле", якая з вялікім поспехам ішла на сцэнах тэатраў у пачатку 20-х гадоў..." Адзін з галоўных герояў "Чароўнага каменя" Ягорка смела адпраўляецца на барацьбу з усемагутнай Варажбіткай і вызваляе сваю нарачоную Алесю. У творы па-майстэрску выкарыстаны казачныя элементы. Ягорка змагаецца не адзін, ён бярэ сабе ў падмогу надзейных сяброў, сярод якіх і Сабака, і кот Буркот, і папугай Чыкічыкі і іншыя персанажы. Гэта надае твору займальнасць, дынамічнасць, што, несумненна, дазваляе з цікавасцю сачыць за ходам дзеяння.

А яшчэ чытача чакае сустрэча з п'есамі-казкамі Уладзіміра Ягоўдзіка "Усміхніся, прынцэса...", Пятра Васючэнкі і Сяргея Кавалёва "Дзівосныя авантуры паноў Кубліцкага ды Заблоцкага", Святланы Клімковіч "Мілавіца", Артура Вольскага "Чортаў скарб". Зноў жа, аўтарамі па-свойму вырашаюцца фальклорныя сюжэты. У адных выпадках гэта тлумачыцца выбарам персанажаў, у другіх — у даволі традыцыйным разгортванні сюжэта. А А. Вольскі прысвяціў сваю п'есу памяці Уладзіміра Караткевіча і паклаў у яе аснову яго аднайменную казку.

На завяршэнне гаворкі не лішне прывесці заключныя радкі з прадмовы С. Лаўшука: "П'есы, як правіла, пішуцца для сцэны. Разам з тым, яны — і літаратурныя творы. Менавіта таму зборнік "Цудоўная дудка" будзе цікавы і тэатральным працаўнікам, і звычайным чытачам". Не кажучы пра тое, што ён — добрае папаўненне ў "Бібліятэцы беларускай дзіцячай літаратуры".

**В. ЗУШЧЫК**

**каб з азіяцкай лютасцю пазбавіць жыцця Наўгародскую рэспубліку, гіпертрафіравацца ў Расейскую Арду, змардаваць ацалелых...**

Такі стылістычны прыём цалкам апраўданы, бо засяроджвае на вызначальных характарыстычных ацэнках: н а п а ў с л а в я н с к і (этнас), а з і я ц к а я (лютасць), Расейская А р д а, каб з м а р д а в а ц ь ацалелых.

Але, нягледзячы на тое, што мадэль складаназалежнага сказа з паслядоўным падпарадкаваннем, здавалася б, забяспечвае натуральнае разгортванне думкі, чытач мусіць запаволіць чытанне, каб улавіць логіку ў развагах. І тут на першы план выступаюць знакі прыпынку. Камбінацыя коскі з працяжнікам, трэба меркаваць, ёсць паказчыкам засяроджанасці аўтарскае думкі на выснове: усё мае сваю неабвержную гістарычную заканамернасць. Значыць, апошняя частка парцэляванае канструкцыі (...каб з азіяцкай лютасцю...) павінна была спалучыць у сабе значэнне дадзенага акалічнага сказа **мэты з адценнем прычыны.** І тут чытацкае ўспрыманне павінна вярнуцца да папярэдніх радкоў, каб нанова ўдумацца ў слова п а т р а б а в а л і (умовы... патрабавалі). Паўстае пытанне: ці гэты ч а ц в ё р т ы непазбежна мусіў быць н а п а ў с л а в я н с кі; і ці трэба яму было ўвасобіцца іменна ў абліччы М а с к о ў с к а й дзяржавы, каб...

Пагодзімся: звычайна ўмовы с п р ы ч ы н я ю ц ц а да пэўнага в ы н і к у, яны ствараюць сітуацыю в е р а г о д н а с ц і альбо н е в е р а г о д н а с ц і. То, калі б аўтар верша скарыстаў слова с п р ы я ц ь (умовы... спрыялі) і спрасціў структуру адасобленага азначэння, тым самым ён праясніў бы думку, забяспечыў бы ёй лагічную паслядоўнасць:

Напаўславянскага,
увасобленага ў Маскоўскай дзяржаве,
якая з азіяцкай лютасцю пазбавіць (можна: **пазбавіла**)
жыцця Наўгародскую рэспубліку, гіпертрафуецца (можна: **гіпертрафавалася**) ў Расейскую
Арду, змардуе (можна: **змардавала**) ацалелых...

Дзеля навуковае аб'ектыўнасці нельга пакінуць без увагі слова н а п а ў с л а в я н с к і. Беларуская словаўтваральная традыцыя, арыентаваная на прыстаўку **паў-** (паўтара, паўтысячы, паўнеба) у назоўніках ды лічэбніках, у сістэме прыметніка мае іншы набор прыставак і суфіксаў (пад-слеп-ават-ы, глух-ават-ы); ёсць у мове і складаныя граматычныя формы (напалову славянскі, на чвэрць беларускі, на трэць расейскі). Відавочна, прыстаўка **напаў**- з дзвюх частак: на- (на-палову) і паў-. Такія празмерныя марфемныя ўтварэнні непажаданыя ў любой мове, а на беларускай моўнай глебе яны выклікаюць нярэдка непатрэбную двухсэнсоўнасць (напаўглухі — **напаў** глухі на сляпога; напаўвясковы — **напаў** вясковы на мястэчковага); зрэшты, тое ўжо было паказана ў беларускай філалагічнай літаратуры (гл. кн. доктара філалогіі Фёдара Янкоўскага "Само слова гаворыць").

На жаль, і канцоўка верша, задуманая як сутнасная выснова папярэдніх развагаў, шмат страціла з-за няўдала выбранай і няправільна граматычна аформленай сінтаксічнай мадэлі:

Для ўзнікнення ў беларускім і
украінскім народаў даверу да расейскага павінна адбыцца немагчымае — уваскрэснуць загінуўшы
брат.
Наўгародскі этнас.

Паводле законаў беларускае граматыкі можна ўтварыць аж некалькі правільных варыянтаў гэтае фразы:

— Для ўзнікнення ў беларуск**ім** і украінск**ім** народз**е** даверу...

— Для ўзнікнення ў беларуск**ім** і украінск**ім** народ**ах** даверу...

— Для ўзнікнення ў беларуск**ага** і украінск**ага** народ**у** даверу...

— Для ўзнікнення ў беларуск**ага** і украінск**ага** народ**аў** даверу...

Як бачым, прыметнікі б е л а р у с к і, у к р а і н с к і абавязкова павінныя дапасоўвацца да назоўніка н а р о д; у тэксце ж прыметнікі стаяць у месным склоне, а назоўнік у родным. Зрэшты, сапраўды цяжка разабрацца са склонавымі формамі, калі маеш справу з такім даўжэзным ланцужком іменных словаў. Адзінае выйсце — спрасціць, падкараціць сказ:

Для ўзнікнення даверу паміж беларусамі, украінцамі
і...

Ці: Дзеля ўзнікнення даверу ў беларусаў і ўкраінцаў да расейцаў...

Сучаснае беларускае слова- і формаўтварэнне нярэдка дапускае варыянтнасць; адзначым, што прысутны ў вершы дзеяслоў г і п е р т р а ф і р а в а ц ц а можа мець іншы суфікс: г і п е р т р а ф а в а ц ц а.

Што ж да дзеепрыметніка мужчынскага роду прошлага часу з суфіксам -ўш- з а г і н у ў ш ы (брат) — ён па-за нормамі беларускае літаратурнае мовы. Замест яго можна было б скарыстаць любы сінонім: але з суфіксамі -н-, -ен-, -ан-, -т-: загублены, знішчаны, замардаваны, пераможаны, забіты... Такая фармальная замена адначасна нясе і дадатковае семантычнае адценне: дзеепрыметнік залежнага стану ёсць паказчыкам, што этнас не сам па сабе загінуў, а яго загубілі.

На месцы аўтара, можа, трэба было б пашукаць заменнік прыметніку н е м а г ч ы м а е. А ёсць жа ў нашай мове н е в е р а г о д н а е, м а л а в е р а г о д н а е, н е й м а в е р н а е ды іншыя.

Ёсць сэнс вярнуцца і да загалоўка. Сінтаксічная сінаніміка дапускае ўжыванне з родным склонам назоўнікаў двух злучнікаў д л я і д з е л я; першы універсальны, а другі найчасцей суседнічае з назоўнікамі, якія выражаюць шматгранны аб'ект (параўнай: зрабіць **для чалавецтва** — зрабіць **дзеля чалавецтва**). А з назоўнікамі абстрактнымі ўжыванне прыназоўніка д з е л я можна было б разглядаць за нарматыўнае: дзеля даверу, дзеля ласкі, дзеля розуму.

Не ведаючы аўтара гэтага верша, маю перасцярогу, каб не пакрыўдзіць яго, не адбіць ахвоту да вершаў па-беларуску. Таму, падсумоўваючы, зазначу: паказанае ў артыкуле — не так прыватныя памылкі, як пашыраныя заганныя стэрэатыпы ў сучасным беларускім пісьменстве. То можна памяркоўна сысціся на такім: добра ўжо тое, што ёсць мова, на якой адны пішуць вершы, а іншыя гэтыя вершы скрытыкоўваюць. Галоўнае — нам ёсць што сказаць на гэтай мове.

**Валянціна МАРОЗ**

## На ніве літаратурнага краязнаўства

На сустрэчу з дзецьмі, што адпачываюць у абласным дзіцячым санаторыі "Пухавічы", які знаходзіцца ў горадзе Мар'іна Горка, прыйшлі людзі невыпадковыя. І Браніслаў Зубкоўскі (дырэктар Светлаборскай сярэдняй школы ў тым жа Пухавіцкім раёне), і Алесь Карлюкевіч (жыве ў Мінску, але родам з пухавіцкай вёскі Зацітава Слабада) настойліва займаюцца фактычна адной справай — пухавіцкім краязнаўствам. А калі быць болей дакладным, то — краязнаўствам літаратурным. А. Карлюкевіч выдаў кніжачку "За Цітаўкаю — Слабада", дзе згадвае пісьменнікаў-землякоў Алеся Пісарыка, Уладзіміра Ляпёшкіна, расказвае пра повязь з Пухаўшчынай Якуба Коласа, Кастуся Кірэнкі, Мечыслава Шаховіча. Б. Зубкоўскі — аўтар кнігі "Чым Загібелька лепей Парыжа" (апавяданні пра жыццё Якуба Коласа на Пухаўшчыне). Невыпадковая і другая акалічнасць. У дзіцячым санаторыі даўно працуе літаратурны музей (у 1935—1941 гадах тут існаваў Дом творчасці пісьменнікаў). Стваральнік гэтага музея, нязменны яго кіраўнік Валянціна Іванаўна Петрачэнкава і вяла сустрэчу з землякамі-літаратарамі, прадставіла іх творчасць юным чытачам.

Святлана ТУРЫНСКАЯ

## Вучэбны дапаможнік па гісторыі

Даследаванне Э. Загарульскага "Заходняя Русь. IX—XIII стст.", выпушчанае выдавецтвам "Універсітэцкае", пазначана як вучэбны дапаможнік для вышэйшых навучальных устаноў, але, не сумненна, яно выкліча цікаўнасць у многіх чытачоў, неабыякавых да нацыянальнай гісторыі. Аўтар прасочвае 500 гадовую гісторыю народаў, якія жылі на тэрыторыі Беларусі ў згаданы перыяд. Вялікая ўвага ўдзяляецца іх уменню весці гаспадарку, рамёствам, культуры, разглядаецца тагачасная палітычная гісторыя, этнічныя працэсы. І ўсё гэта робіцца на шырокім фоне падзей, якія тады адбываліся ва Усходняй Еўропе.

## Заўважаем добрае

"Nota bene" — такую назву носіць альманах, што пачаў выдавацца ў ліцэі Беларускага дзяржаўнага універсітэта. З вершамі і прозай у першым выпуску выступаюць 16 ліцэістаў. Пішуць юнакі і дзяўчаты па-беларуску і па-руску. Выдадзены альманах тыражом 280 экземпляраў. Аддрукаваны "Nota bene" (што ў перакладзе з латыні азначае "заўваж добра") у выдавецкім цэнтры БДУ.

Пра што творы юных паэтаў і празаікаў? Пра наш час, пра трывогу і сумненні свайго пакалення, пра Беларусь.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

## Прэм'ера па п'есе Марчука



На камернай сцэне Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Коласа ў Віцебску адбылася прэм'ера камедыі "Варвара і яе блудны мужык" па п'есе Георгія Марчука. Паставіў яе акцёр тэатра Вячаслаў Грушаў.

*Фота А. ХІТРОВА, БЕЛТА*

ПАЭЗІЯ

Сяргей ВЕРАЦІЛА



## "Будзь літасцівы, лёс..."

●

*Тоіцца рыба на дне акіяна,*
*Тоіцца звер у пушчанскіх бярлогах,*
*Тоіцца ў маціцы перліны ззянне,*
*Тояцца ў памяці згукі былога.*

*Тоіцца жук пад зялёнай сцяблінаю,*
*Тоіцца позірк пад акулярамі,*
*Тоіцца сон паміж коўдрай й прасцінаю,*
*Тоіцца гром паміж небам і хмарамі.*

*У ночы глыбокае тоіцца ранак,*
*Тоіцца смерць паміж буйнага квецця,*
*Тоіцца ў лесе забыты паўстанак,*
*Тояцца рукі, у рукі заплецены.*

*Тоіцца ўсё, й знаку чакае.*
*Час настае, і мовіцца слова.*
*Слова, што тоіцца, робіцца яваю*
*І раскрывае згукі былога,*
*І пранікае на дно акіяна,*
*У пушчы глухія,*
*У сон напалоханы.*

*Слова, што сказана,*
*Слова, што мовіцца,*
*Што у душы у паэтавай тоіцца.*

●

*І раптам згасне надзея,*
*Па небе пакоціцца поўня.*
*І стане адчайна і млосна.*
*Так, што захочацца смерці.*

*І ў шафе павесіцца паліто.*
*Заплача над рэшткамі хлеба прусак.*
*Сёння я сам падмануў сябе —*
*Поўня яшчэ не паспела.*

*Але ўсё роўна згасла надзея*
*З апошняю лямпачкаю у вокнах,*
*У вокнах далёкага дома,*
*Дзе нада мной не заплачуць.*

*І скончыць жыццё самагубствам кубак,*
*Скінуўшыся са стала.*
*Чаем гарачым абварыцца цукар,*
*Не ўспомніўшы нат, што быў бураком.*

*Сёння я сам насмяшыў сябе,*
*Але хітрыкі мае не ўдаліся,*
*І стала адчайна і млосна*
*Ад таго, што пакоціцца поўня.*

●

*Калі кіне жанчына —*
*выпі.*
*Калі здрадзіць сябра —*
*Выпі.*
*Калі стане прытулкам чужына —*
*Выпі.*
*Што ж твой келіх заўсёды пусты?*

●

*А ты будзь літасцівы, лёс,*
*Да тых, хто зведаў усе пакуты,*
*Хто, нат у кайданы закуты,*
*Каханне да Радзімы нёс.*

*А ты будзь літасцівы, лёс,*
*Да тых, хто жыў адною верай,*
*Хто, пасярод людзей у аблічы звера,*
*Каханне да Радзімы нёс.*

*А ты будзь літасцівы, лёс,*
*Да тых, хто ведаў толькі страты,*
*Хто, нат пад рэвальверам ката,*
*Каханне да Радзімы нёс.*

*А ты будзь літасцівы, лёс,*
*Да тых, хто зведаў смак атруты,*
*Хто, апляваны і распнуты,*
*Каханне да Радзімы нёс.*

*І, можа, злітуецца лёс,*
*І хай маё паможа слова*
*Тым, хто сваё святое слова*
*І сэрца да мяне данёс.*

●

*Цемра лізала мокрыя лесвіцы.*
*(Днямі я ўгледзеў па тэлевізіі,*
*як змяя ела жабу).*
*Хмара хавала месяц,*
*Каб той не бачыў*
*гэткага агіднага відовішча.*

*Цемра абсмоктвала парэнчы*
*І пласталася па брудных мурах.*

*(Кожны дзень я бачыў пустыя*
*паліцы ў крамах,*
*якія вычысціў страх,*
*што ўжо не хаваецца па-за вачыма.)*

*Неба сціснулася ад агіды і крыўды:*
*навошта яно — вечнае?*

*Цемра лізала і абсмоктвала*

*...Душа на смак трохі салёная...*

●

*З кожным нясказаным словам,*
*З кожным гукам непрагучэлым*
*Я сыходжу,*
*І цень мой сыходзіць са мною:*
*Цягнецца па халодным асфальце,*
*Плешчацца ў лужынах брудных...*

*Бедны, бедны мой цень,*
*Хто пашкадуе цябе?*
*Бедны, бедны мой цень,*
*Я пашкадую цябе.*

*І раздрабніцца час;*
*Рассыплецца па розных*
*Часінах года,*
*І я навучуся чакаць*
*Тых, хто ніколі*
*Не прыйдуць.*

●

*Хутка лісце ўпадзе, лісце.*
*Хутка восень надыдзе,*
*восень.*
*І пра тое, што лісце ўпадзе,*
*Дакладна ведае вецер.*

*А зіма падступіць нячуйна.*
*Пра зіму мне не хочацца думаць.*
*І пра тое, што зіма наступіць,*
*Дакладна ведае вецер.*

*У маім, у халодным пакоі*
*Усё спакойна, усё на месцы.*
*І пра тое, што сэрца састыла,*
*Дакладна ведае вецер.*

*Я пайду, а за мною — лісце.*
*Я пайду, а за мною — восень.*
*Я пайду, а за мною — песні.*
*Я пайду, я пайду.*
*Пойдзем, вецер.*

●

*Вецер сее лісце з клёна,*
*Што нядаўна быў зялёным.*
*І ад лета ўспамінам*
*Мне самота засталася.*

*Вецер гоніць лісце з клёна,*
*Што нядаўна быў зялёным,*
*І пра лета успамінам*
*Напісаў я гэты верш.*

*Вецер сее, вецер гоніць.*
*Клён нядаўна быў зялёным.*
*І ўспомніўшы пра гэта,*
*Я над вершамі заплакаў.*

●

*І напэўна ўспамінам*
*Стануць гэтыя гады,*
*Доўгім-доўгім, нават дзіўным,*
*Як гульня празрыстых ліній.*
*(Ах, як доўга кава стыне.)*
*Колер вечара быў сінім,*
*І чарнеліся сады*
*Над угрэтаю вадою,*
*Дзе шалела драбяза.*
*Быў акунь ёй злыбядою,*
*Йшлі аблокі чарадою*
*Па-над лесу грамадою,*
*Сена пахла сырадоем,*
*І каціласся сляза,*
*Што народжана ўспамінам:*
*Колер вечара быў сінім.*

## "І мара крылы развіне..."

Васіль БАРЫСЮК

●

*Амаль тры гадзіны да восені,*
*блукае па рэйках вагон,*
*У звонкай вячэрняй просіні*
*абрысы пакінутых дзён.*

*Лячу да бульбянага верасня,*
*а ты застаешся адна*
*на жнівеньскім скошаным беразе*
*і вып'еш расстанне да дна.*

*Амаль тры гадзіны да восені.*
*Прыпынак — і пошук дажджу.*
*Слязлівыя хмары, ды злосныя:*
*снуюць паміж намі мяжу.*

*Намокла растайная вуліца,*
*і змрок распусціў бараду.*
*Дзіцё да матулі прытуліцца —*
*шчаслівая лучнасць душ.*

*Амаль тры гадзіны да восені...*
*Працяты нязбытнай тугой,*
*анёл мой упаў за плёсамі,*
*як вэлюм з вяселля твайго.*

●

*Гадзіннік марыць на сцяне,*
*на кухні гаспадарыць маці,*
*ад печы цёплы дух па хаце,*
*і поўня свеціцца ў акне.*
*А я — маленькі чалавек —*
*дзіўлюся рэчам таямнічым,*
*што да сябе так вабна клічуць*
*і сеюць мроі ў галаве.*
*Не бачыць маці — любы сын*
*ужо спакушаны дарогай,*
*душа ад звыклага, зямнога*
*імкне за рэчкі і лясы...*
*Калі ж, не спраўдзіўшы гульню,*
*абломіць сын слабыя пёркі,*
*і здасца свет чужым і горкім, —*
*пакліча дух таго агню,*
*дзе рупна гаспадарыць маці.*
*І зноў утульна стане ў хаце,*
*гадзіннік стрэлкі варухне, —*
*і мара крылы развіне...*

Ян ЗБАЖЫНА

### Прафанацыя

*Зневажаю мараль і плюю ў яе вочы,*
*а яна, балаўніца, мне толькі рагоча,*
*шчэрыць пастку зжаваных зуброў.*
*У царкве і касцёле з іконаў святыя*
*пазіраюць здаўна...*
*але гэта не тыя,*
*хто сарве кайданы з нас рабоў.*

*На слупах ліхтары*
*абмяркоўваюць неба*
*І ад іх інтэлекту за горад ганебна,*
*вочы поўняцца саладдзю слёз.*

*Ну а нас абмяжоўваюць*
*хлусам прарокі,*
*што разносяць па вуліцах гулкія крокі*
*І ад крокаў па скуры мароз...*

### Раніца

*Ноч цалуецца ў садзе з дажджом*
*на развітанне.*
*Зачыняю прачытаны том*
*перад світаннем.*

*Свечка сплакала ценямі воск —*
*знікла ў люстэрку.*
*Акаймоўвае сонечны хвост*
*неба талерку.*

*Не пакінуўшы след на вадзе*
*змрок расчыніўся.*
*Сненнем-казкаю ноч праплыве,*
*свет абудзіўся.*

ПРОЗА

Франц СІЎКО

# МАНАГРАФІЯ



АПАВЯДАННЕ

НАДЗІВА, на дварэ ў гэтае ранне нават марозна. Прыбіты ўчарашняю аблівахаю снег за ноч закалянеў, зрабіўся шорсткі і сітаваты, як зваранае малодзіва. Пад нагамі суха. Пасля такое даўжэзнае адлігі гэта нязвыкла, і вочы міжволі апускаюцца долу ў пошуках рытвіны з падталым снегам. Рытвін шмат, але ўсе яны парожнія і толькі зрэдку дзе-нідзе — з вочкамі льду пасярэдзіне.

Сцежкі, што збягаюцца з усіх канцоў мікрараёна да трамвайнага прыпынку, увесь час, пакуль трывала адліга, шчодра пасыпаліся пяском і зараз нагадваюць бегавыя дарожкі на стадыёне. Тая, па якой я крочу, пралягае паўз лагчынку з каналізацыйнымі люкамі. Як заўсёды, у ёй поўна бадзяжных сабак. Яны з'явіліся тут з першымі прымаразкамі і з таго часу нясуць наўкола люкаў несупынную вахту, грэюцца ў клубах пары.

Галоўны ў зграі — чорны калматы пудзель-мешанец. У яго злыя знявераныя вочкі-гузікі і віхлясты, выстрыжаны ўшчэнт лішаём азадак. Варта каму з прахожых наблізіцца да лежбішча, як ён ускоквае з месца, кідаецца няпрошанаму госцю пад ногі. Астатнія тым часам сядзяць, напружыўшыся, паўкругам і апантана брэшуць. Сабакі вельмі худыя, у многіх на баках застарэлыя раны. Сядзяць яны строга па ранжыру. Кожны дакладна ведае сваё месца і на чужое, хай і больш прывабнае, не прэтэндуе. Час ад часу каторы з дужэйшых старажылаў, злітаваўшыся над якім-небудзь нямоглым небаракам, пасоўваецца ўбок, дае магчымасць уладкавацца побач з сабою на цёплым.

Параўняўшыся з люкамі, я сцішваю хаду. Гэта якраз дарэчы: чорны завадатар ужо вышчарыў зубы і вось-вось кінецца мне наперарэз. Мая хітрасць збівае яго з панталыку, і зараз ён не ведае, што рабіць — ці то імчацца наперад, ці то заставацца са зграяй. Урэшце інстынкт ахоўніка перамагае. Пудзель, заходзячыся брэхам, кідаецца мне насустрач. Зграя падхоплівае ягоны парыў, але застаецца на месцы — быццам чакае каманды.

— Вось гэта згода, — абыходзячы зводдаль мясціну, кажа нейкая кабета ў футры. — З намі, людзьмі, хіба параўнаеш! Во ўчора на хвіліну адвярнулася ў аўтобусе з суседкаю пагаварыць, тут жа сумку сцібрылі. А казаць стала — на смех паднялі.

У вачах у жанчыны — крыўда напалову з дакорам...

Каржакаватую Генадзеву постаць я пазнаю не адразу. Яшчэ цемнавата, і тут, у натоўпе на трамвайным прыпынку, угледзець знаёмы твар не так проста. Тым больш, што сёння першы пасапраўднаму сцюдзёны дзень, і ўсе ў зімовым адзенні.

Я даю "дзень добры", і тае ж хвіліны з-за павароту вынырвае трамвай. Генадзь мармыча мне штосьці ў адказ, хуценька, як толькі гэта можна на выслізганым асфальце, шыбуе да дзвярэй першага вагона. Я, канечне, кіруюся ў другі. Так ужо месяца з паўтара ездзім: у адно і тое ж месца, але ў розных вагонах.

У трамваі тлумна, горача. То ў адным, то ў другім яго канцы раз-пораз успыхвае сварка. Па дарозе яшчэ два інстытуцкія інтэрнаты, так што к канцу падарожжа ў вагоне не прадыхнуць.

Выйшаўшы, а дакладней — выпхнуўшыся на прыпынку, я колькі часу стаю нерухома на месцы ў чаканні, пакуль схлыне натоўп. Генадзь таксама выходзіць са свайго вагона, спыняецца побач.

— Тое, што вы ўчора мне сказалі, — праўда? — кажа раптам, папраўляючы абедзвюма рукамі чорную вушанку са штучнага футра. — Вы не перабольшваеце?

У вачах ягоных, некалі блакітных, а зараз выцвілых і невыразных — засяроджанасць і недавер. Мне гэта непрыемна, але што зробіш? Затое цяпер я дакладна ведаю: светам кіруюць не толькі любоў і грошы.

Я абмінаю яго, з жахам адчуваючы, як зноў расце ў грудзях, узнімаецца хваляю ўгору, пад самае горла, нянавісць, прастую да інстытуцкага дзядзінца.

●

Гэтая гісторыя пачалася каля двух гадоў таму, пасля смерці Алены. У той дзень, калі яна памерла, дождж не пераставаў з самай раніцы. Як цяпер памятаю яго і ўсё, што з ім звязана, — панылую шэрань у праёмах між будынкамі, нізкае неба, хлюпоту пад нагамі. Ён быў нібы працягам таго бясконцага лабірынту няпэўнасці і адчаю, што вось ужо колькі месяцаў, пакуль жонка хварэла, суправаджаў мяне паўсюдна: дома, на працы, у бальнічным калідоры. Я да такой ступені прызвычаіўся да яго, што, здавалася, варта яму скончыцца, як здарыцца непапраўнае. Так і сталася. Дождж перастаў ісці — і Алена памерла.

Першым, хто наведаў нас з сынам пасля пахавання, быў ён, Генадзь Галанюк, мой колішні універсітэцкі дружбак. Ён жыў у суседнім квартале і, вяртаючыся з працы, заскочыў на хвіліну — адведаць. Мы доўга сядзелі ў той вечар, пілі гарэлку, што засталася з хаўтураў, гаманілі пра розныя будзённыя справы. Пры развітанні я запрасіў Генадзя заходзіць і надалей. Ён адразу ж згадзіўся — відаць, адзінота халасцяцкага жыцця, пра перавагі якога ён так любіў некалі гаварыць, яму надакучыла. Такім чынам амаль сямігадовы перапынак у нашым сяброўстве, звязаны з маёю жаніцьбай, быў скончаны.

За першаю сустрэчаю адбылася другая, затым яшчэ, яшчэ.

У сярэдзіне жніўня я выправіў Юліка да цешчы. Яна жыла адна ў райцэнтры і ад самага пачатку, як толькі памерла Алена, вырашыла, што ўнук павінен выхоўвацца ў яе.

Застаўшыся без сына, я неяк вельмі хутка занудзіўся адзінотаю. І, каб пазбыцца яе, нечакана для сябе самога вярнуўся да справы, якою некалі займаўся па маладосці і якую апошнія гады зусім закінуў, — да манаграфіі. Занятак гэты заўсёды мяне прыцягваў і цяпер са смерцю жонкі, уяўляўся адзіным паратункам ад невясёлых думак.

Генадзь ухваліў мой намер. Ён быў сведкам маіх першых навуковых практыкаванняў і аднойчы, даўно-даўно, нават напісаў пра іх у абласную газету невялікі артыкул. Артыкульчык той быў прысвечаны маёй першай публікацыі ў рэспубліканскім навукова-папулярным часопісе і зрабіў наша сяброўства непарушным. Вось чаму зараз, калі я вырашыў вярнуцца да пісання, мне так важная была менавіта ягоная падтрымка. Я яе атрымаў.

Мінула крыху больш за два месяцы. У школе пачаліся канікулы. Вольнага часу ў мяне паболела, і я грунтоўна засеў за працу. Справа адразу пайшла так імкліва, што к канцу лета манаграфія была амаль гатова. Васемнаццатага жніўня, акурат у апошні дзень адпачынку, я скончыў друкаваць яе набела, але перш чым адправіць у рэдакцыю часопіса, даў прачытаць Генадзю. Ён пахваліў стыль і, зрабіўшы сякія-такія заўвагі адносна мовы, параіў з адсылкаю надта не зацягваць. Ягоную параду я з удзячнасцю прыняў.

Неўзабаве пачаўся чарговы навучальны год, а з ім — заўсёдны дэфіцыт часу. Цяпер аб сур'ёзных навуковых даследаваннях можна было толькі марыць. Я паскардзіўся на тое Генадзю. Праз тры дні пасля размовы ён прыйшоў да мяне з навіною: на кафедры ў інстытуце, дзе ён працаваў, вызвалілася пасада выкладчыка. Нагрузка там была значна меншая, чым у школе, і я вырашыў падаць заяву на замяшчэнне. На наступны дзень Генадзь звёў мяне з загадчыцай кафедры, і пытанне паспяхова вырашылася. "Вось, паходзіш пару гадоў у асістэнтах, а там, глядзіш, і старшага дадуць, — сказаў Генадзь. — Будзеш дзякаваць мне".

Аднак старшым мяне прызначылі адразу — загадам, да аб'яўлення конкурсу. Сябру майму такі паварот справы чамусьці не спадабаўся. Ведаючы, як нялёгка далося яму самому ў свой час гэтае старшынства, я вырашыў не звяртаць на тое ўвагі.

Недзе праз месяц пасля пераходу ў інстытут я пазваніў у рэдакцыю часопіса. Загадчык аддзела сказаў, што мая манаграфія прынята да друку. Усхваляваны, я адразу ж пабег падзяліцца навіною з Генадзем. Ён успрыняў маё паведамленне стрымана. Неяк пахапкам, бы між іншым, павіншаваў і, дадаўшы штосьці пра нейкіх "многіх, якіх шмат было і раней, а дзе яны зараз?", тут жа перавёў гаворку на іншае.

Але дружба наша з таго моманту стала слабець. Генадзь пачаў пазбягаць мяне і ўсё часцей і часцей, аказаўшыся выпадкова побач, імкнуўся тут жа адысці ўбок. Спачатку гэта мяне бянтэжыла. Я доўга не разумеў, у чым справа, і ўсяляк намагаўся вярнуць ранейшую прыязнасць. Але ўсё было марна. Я натыкнуўся на такую непранікальную сцяну адчужанасці, што само жаданне гаварыць знікла назаўсёды. І вось тады, нібы падсвядома пацвярджаючы меркаванне, што гісторыя чалавечых узаемаадносін — гэта найперш гісторыя барацьбы самалюбстваў, я і сам пачаў няўзнак адчужацца. Гэта было жахліва! Асабліва тады, калі адчужанасць пачала перарастаць у нядобразычлівасць. Мы і азірнуцца не паспелі, як янаператварыла ўсё добрае, што было калісьці між намі, у суцэльныя руіны.

Вядома, мы не сустракаліся больш, а спаткаўшыся дзе-небудзь выпадкова ў перапынку між заняткамі, тут жа стараліся разбегчыся ў розныя бакі. Усё часцей і часцей я лавіў сябе на думцы, што жадаю быламу сябруку кепскага. Не сумняваюся, увесь гэты час ён адчуваў да мяне тое самае. Як на тое, прыкрасць гэтая — не адзінае, што здарылася са мною апошнім часам.

Неўзабаве пасля пераходу на працу ў інстытут я пазнаёміўся з Жанаю. На той час яна жыла пасля разводу з мужам адна і рабіла на абутковай фабрыцы. Я меў самыя сур'ёзныя намеры наконт жаніцьбы і спадзяваўся, што жанчына гэтая ўрэшце ўнясе нейкую гармонію ў мой побыт. Ды спадзяванні так і засталіся спадзяваннямі. Сумеснае жыццё не зладзілася, і, памучыўшыся разам два месяцы, мы вырашылі разысціся. За два тыдні да развітання Жана з'ездзіла ў камандзіроўку ў Венгрыю, а вярнуўшыся, паведаміла тое, што надоўга азмрочыла мне існаванне. Учора, выпіўшы з гора ў самоце цэлую бутэльку настойкі, я выйшаў увечары на вуліцу прашпацыраваць і выпадкова сустрэў Генадзя. Як заўсёды, ён хацеў унікнуць размовы, але я затрымаў яго і, размякчаны спіртным і дрэнным настроем, расказаў яму пра ўсе свае непрыемнасці. Што ён адчуваў падчас маёй споведзі — не ведаю. Хутчэй за ўсё не даў веры. А калі і даў, то наўрад ці прасякнуўся да мяне спачуваннем.

●

Вузкі, загрувашчаны нейкаю старою мэбляю калідор паліклінікі сустракае мя-не скразнякамі і пахам ёду. Людзей няшмат, і крокі медсясцёр (усе як адна чамусьці на высокіх абцасах) рэхам разносяцца ад дзвярэй да дзвярэй. Ля лабараторыі, дзе робяць аналізы крыві, наогул няма чаргі, і я адразу ўваходжу ў памяшканне.

— А, вы! — медсястра пасоўвае да сябе стос паперак, запытальна глядзіць мне ў вочы. — Нагадайце ваша прозвішча.

Я называюся, пераадольваючы спазм у горле, са страхам сачу за тонкімі, з наманікюранымі пазногцямі, пальцамі жанчыны.

— Вось... Што тут у нас? Ага, адмоўная, — яна ўсміхаецца. — Так што дарэмна баяліся. Другі раз, перш чым знаёміцца, добра прыглядзьцеся да чалавека.

Аднак недаверу пазбыцца не так проста.

— Як — адмоўная? Яна сама мне сказала, што ў яе СНІД. А мы ж...

— Значыць, падманула вас ваша сяброўка, — голас сястры гучыць цвёрда. — І не дурыце мне галавы. Сказана вам: рэакцыя адмоўная. Ідзіце дадому і там разбірайцеся са сваімі палюбоўніцамі.

Я выходжу на вуліцу, усё яшчэ не верачы таму, што адбылося, крочу да трамвая.

На дварэ па-ранейшаму марозна, але і сонца прыгравае. Снег не шорсткі, як уранні, а вязкаваты, а на сугрэвах — і добра падталы. Гэта замаруджвае хаду, робіць яе павольнай і няўпэўненай. Чалавек, які крочыць следам за мною, хоча мяне дагнаць, але беспаспяхова. Яшчэ выходзячы з паліклінікі, я краем вока заўважыў яго на тратуары, ды пасля ранішняга ягонага, да вусцішнасці афіцыйнага — на "вы" — запытання ў мяне няма ніякага жадання з ім гаварыць.

І яшчэ адна, другая за дзень, удача: у паштовай скрыні злодзеі, падобна, пагаспадарыць не паспелі. Я адмыкаю яе, дастаю газеты, сярод якіх бялее, выклікаючы прадчуванне нечага нядобрага, канверт.

Ліст — з рэдакцыі часопіса, і я ледзь паспяваю дачытаць яго да канца, як настрой мой псуецца канчаткова. "Надрукаваць вашу працу не можам, фінансавыя цяжкасці..."

А пятай звоніць цешча. Юлік сумуе па бацьку, і яна збіраецца прывезці яго на колькі дзён дадому. Даведаўшыся, што ў нас з Жанаю ўсё скончана, яна з палёгкаю ўздыхае, кладзе трубку. Я яшчэ трымаю сваю ля вуха, як раптам бачу праз акно ўдалечыні знаёмую паставу. Чалавек ідзе, асцярожна намацваючы падэшвамі сцяжыну, ад трамвайнага прыпынку да бліжэйшага праёма між дамамі. Заўважыўшы сабак, ён хоча абмінуць лагчыну, але гэта яму не ўдаецца. Падталы цалік, куды ён скіроўвае, тут жа правальваецца пад ягонымі нагамі, ператвараецца ў твань. Быццам падбадзёраны бездапаможнасцю чалавека, пудзель кідаецца яму наперарэз. Увесь сабачы хаўрус як па камандзе ашчэрваецца, пачынае раз'ятрана брахаць.

Бедны Генадзь (гэта ён) колькі часу стаіць у разгубленасці сярод усяго гэтага гармідару. Затым рэзка разварочваецца, подбегам вяртаецца назад, на прыпынак, шпарка крочыць вакольным шляхам да свайго двара, і, перш чым задаволеныя перамогаю сабакі паспяваюць супакоіцца, знікае за бліжэйшаю шматпавярхоўкай...

Званок — працяглы, нейкі як быццам нервовы, заспявае мяне знянацку.

За дзвярыма — Генадзь. Шапка на ягонай галаве збілася набакір, дыханне няроўнае. Мы некалькі хвілін моўчкі глядзім адно на аднаго.

— Гэтая твая хвароба... — кажа ён нарэшце. — Мне вельмі шкада.

— Хваробы няма, — апамятаўшыся ад разгубленасці, кажу я. — Памылка закралася, усё добра.

— Вось што. — Твар майго госця ніякавее. — Ну... тады прабач, што патурбаваў.

— Але сёння я атрымаў ліст з рэдакцыі, — быццам не жадаючы пакідаць яго сам-насам з расчараваннем ці, баючыся, каб ён не пайшоў, нечакана для самога сябе працягваю я. — Паведамляюць, што публікацыі не будзе. Розныя прычыны, маўляў...

— Прычыны! — Генадзеў погляд зноў лагаднее. Ён імгненна весялее, пераступае праз парог, прыгасіўшы збольшага радасны бляск у вачах, падае мне руку.

— Дык, можа, я магу чым дапамагчы? Там падтрымаць... Скажы, мы ж гэтак даўно знаёмыя...

Прымірэнне? Уся мая істота пратэстуе супраць яго. Але хай... Хай будзе прымірэнне. Усё роўна яно наўрад ці надоўга. Урэшце, ці мала на свеце часопісаў...

## Кінапраграма да 200-годдзя Луўра

Кінапраграма "Час музею", прысвечаная 200-годдзю Луўра — апошні ў гэтым сезоне сумесны праект Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь і Беларускай федэрацыі "Кінаклуб". "Восенню мінскія гледачы бачылі фільмы — прызёры Канскага фестывалю, у лютым і маі — карціны кінастудыі "Гамон" і цудоўнага рэжысёра Саша Гітры...", — адзначыў саветнік па культуры Пасольства Францыі ў РБ Франсуа Ларан. З 15 чэрвеня аматарам кіно прапанавалі чатырохдзённае кінападарожжа па галерэях Луўра. Сэрца Францыі — Луўр — зрабілася ў тэатральнай зале Палаца культуры прафсаюзаў. Сэрца ўсёй нацыі, бо толькі пасля 1793 года закрытая каралеўская рэзідэнцыя Луўр ператварылася ў агульнадаступны цэнтральны музей мастацтваў.

Усе дзевяць фільмаў, якія склалі праграму — гэта своеасаблівыя аўтарскія "ўяўленні Луўра". Было відавочна, што рэжысёры эксперыментавалі з колерам і гукам, выкарыстоўвалі розныя ракурсы і планы, імкнуліся да паэтычнасці.

Можна толькі здзіўляцца, якое значэнне мае Луўр для французаў. Субяседнікі рэжысёра С. Н'юмена ў фільме "Луўр, час музея" — шафёр, хатняя гаспадыня, настаўніца, звычайныя (!) парыжане, але шчырыя паклоннікі музея, якія бываюць у ім па некалькі разоў у тыдзень. Проста, каб адпачыць. Каб забыцца на праблемы ў магічным скрыжаванні позіркаў старажытнаегіпецкіх скульптур. Як не ўспомніць пра беднасць нашага "Луўра" — Нацыянальнага мастацкага музея. Сёння ў Мінску час прыватных галерэй. Няма ў Нацыянальным мастацкім музеі і спецыяльных экскурсій для глуханямых ці сляпых. Адметныя кадры стужкі Н'юмена, як сляпыя вывучаюць рукамі скульптуры. Луўр вабіць кожнага. І шануе кожнага.

Аднак Вялікі музей зачароўваў не толькі звычайных парыжан. У карціне "У Луўры з майстрамі" рэжысёр Р. Капэн прасачыў, якія з карцін музея ў свой час натхнілі Курбэ, Дэга, Пікасо, Матыса (цікава было даведацца, што мастакі XX стагоддзя прынцыпова адказаліся капіраваць творы майстроў мінулага). У 1949 годзе Пікасо вырашыў расставіць у пустых залах Луўра свае карціны: а ці пераадолеюць яны зменлівы час, як палотны Пусэна, Верантэзэ, Давіда. Р. Капэн выкарыстоўвае хранікальныя чорна-белыя кадры таго цікавага эксперыменту. Кажуць, убачыўшы сваю карціну побач з палатном вядомага майстра, Пікасо ўсклікнуў: "Ну, сукін сын, які мастак!" Няўжо мастакі XX стагоддзя страцілі сакрэт бессмяротнае прыгажосці назаўсёды?

"Я ніколі не бачыла шэдэўры Луўра ноччу", — скардзілася на экране наведвальніца музея. Сапраўды толькі ноччу магчыма падслухаць пра што кажа мармуровая Венера Марсу ("Марс і "Венера", рэж. А. Мевіль) ці пра што сумуе бронзавая прыгажуня А. Маёля ў карунках снегу ("Дзіна ў каралёў", рэж. Д. Дзелюш). Толькі ноччу падгледзіш, які незвычайны спектакль рыхтуюць карціны Вялікай галерэі ("Уяўляючы Луўр", рэж. А. Флешэр). Толькі ноччу усё намаляванае, зробленае рукамі чалавека, атрымлівае доўгачаканае дыханне. На думку рэжысёра К. Віладэрбо, творы мастацтва жывыя заўсёды. Яго кінафрэска "Лыжачка" — аповед з "жыцця" старажытнаегіпецкай лыжачкі, зробленай ў выглядзе дзяўчынкі з круглай талеркай ў руках.

Адметная стужка праграмы — "Вялікая галерэя Луўра" А. Флешэра. Рух камеры — гэта рух нібыта чалавека, які павольна ідзе па галерэі і дакранецца да палотнаў рукой: спачатку правай, а потым левай. Флешэр знаходзіць у адной з карцін Луўра аналаг вуліцы Парыжа і з'ядноўвае іх адзіным небам. З'ядноўвае стагоддзі, з'ядноўвае час. Час музею і нашага жыцця.

Вольга БАРАБАНШЧЫКАВА

---

**У маі галерэя "Мастацтва", што на праспекце Францішка Скарыны ў Мінску, прэзентавала выставу сучасных жывапісных палотнаў Аляксея Марачкіна. Творы яго заўсёды не пакідалі гледача абыякавым. З напісанага ім раней згадваецца многае: гістарычныя партрэты славутых людзей беларускай зямлі — Рагнеды, Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Вітаўта Вялікага, Францішка Скарыны, Міколы Гусоўскага, Кастуся Каліноўскага, Івана Луцкевіча, Цёткі, Максіма Багдановіча; казачныя персанажы з нізкі "Беларускія легенды і паданні" — усе гэтыя анёлы, русалкі, прывіды, дзівосныя птушкі, гусляры са здзірванелых курганоў, што раптам зляцелі з бабуліных праснiц і старажытных званіц на палотны мастака ("Машэка", "Каралева вужоў", "Выпрабаванне духу", "Чорная дама Нясвіжа", "Прывіды зімы" і іншыя); творы, апаленыя чорным агнём Чарнобыля ("Планета "Палын", "Хадора", "Воблака", "З думкай пра Дзісеншчыну", "Маці Божая ахвяраў Чарнобыля", "Магутны Божа" і інш.); урэшце, вобразы — у жудасна халодным асвятленні — касмічных пачвар і ведзьмакоў уласнай гадоўлі...**

**Крытыкі слушна адзначаюць, што ў мастака арганічна спалучаецца талент жывапісца і паэта з дапытлівасцю гісторыка, заглыбленасцю этнографа і арыгінальнасцю філосафа. Сапраўды, яго партрэты могуць быць і сатырычна завостранымі, і кранальна лірычнымі; творы, навеяныя фальклорнымі матывамі, — фантастычна-казачнымі і містычнымі, а прысвечаныя адвечнаму і вечнасці — па-філасофску шматзначнымі. Высокую ацэнку творчасці Аляксея Марачкіна даў Васіль Быкаў. У прыватнасці, ён сказаў: "Самае адметнае і, можа, самае важнае ў багатай мастацкай творчасці А. Марачкіна — гэта ягоны патрыятызм, пачуццё Радзімы, якія праяўляюцца ва ўсім, за што б ні ўзяўся мастак. Ці то пейзажы роднай зямлі, ці вобразы яе людзей, ці гістарычная мінуўшчына, — усё сагрэта шчырай любоўю яго сэрца і асветлена высокім артыстызмам яго таленту".**

**Нагадаю, што высокі ўзлёт Аляксея Марачкіна ў беларускім мастацтве абумоўлены многімі фактарамі, і ў першую чаргу добрай прафесійнай падрыхтоўкай, якую ён атрымаў у Мінскім тэатральна-мастацкім інстытуце, глыбокімі ведамі ў галіне гісторыі і народнай культуры, набытымі ў працэсе самаадукацыі і ўдзелам у адраджэнскім руху — пачынаючы ад вулічных шэсцяў, фальклорных святаў, Курапацкіх набажэнстваў і да ўтварэння Беларускага народнага фронту. На пачатку 90-х гадоў арганізаваў разам са сваімі сябрамі-аднадумцамі мастацкую суполку "Пагоня", якая аб'яднала нацыянальна свядомых творцаў, што спавядаюць ідэі Адраджэння. Ужо ў шэрагах "Пагоні", працягваючы традыцыі Язэпа Драздовіча, стварыў серыю маляваных дываноў, а таксама некалькі кампазіцый і інсталяцый алегарычнага і сатырычнага гучання, у якіх даў зрэз сучаснай палітычнай сітуацыі ў краіне і выказаў уласнае стаўленне да дыктатуры.**

**Нейкі час працаваў на пасадах галоўнага мастака Мастацкага фонду Беларусі і загадчыка кафедры жывапісу Беларускай акадэміі мастацтваў. За творчыя дасягненні ўзнагароджаны медалём Францішка Скарыны.**

**Сёлетняя выстава паказала, што перад намі і той самы мастак і ўжо не той. Яго творчая манера ў многім змянілася, стыль стаў больш умоўным. Палотны "Снегавік", "Зімовыя мроі", "Вокны ў зіму" — яшчэ паяднаны з ранейшымі пошукамі: казачная старасвецкая мінуўшчына, вяртанне да чыстых крыніц дзяцінства, светлая мара аб будучыні. Большасць жа твораў не мела прывязкі да з'яў і прадметаў матэрыяльнага свету, у якім жыве чалавек. Прывабныя, эфектныя, дэкаратыўныя ("Акт", "Клетка", "Планета "М"), яны радавалі буйствам колеравых рытмаў і ўсплёскаў, светаценевай мадэліроўкай пластычных формаў, сцвярджаючы, што чалавек можа ўвайсці ў свет чыстага мастацтва і атрымаць эстэтычную асалоду ад сузірання гарманічных спалучэнняў ліній, каляровых плям і своеасаблівага каларыту. Навізна экспазіцыі была яшчэ і ў тым, што палотны — без рам і падрамнікаў — свабодна спускаліся са сцен. На выставе былі паказаны акварэлі ў спецыяльным прыстасаванні, дзе глядач мог браць у рукі той ці іншы твор і падоўгу яго разглядваць.**

**З цікавасці да феномена мастака я папрасіла ў яго інтэрв'ю.**

# Аляксей МАРАЧКІН: "Маё мастацтва застаецца мастацтвам гармоніі і пратэсту"



**— Аляксей Антонавіч, ёсць мастакі, якія ўсё жыццё распрацоўваюць класічны накірунак у мастацтве, а менавіта — рэалістычны. Пра вас гэтага не скажаш. Вы ўвесь час у пошуку, увесь час вучыцеся і эксперыментуеце. Дагэтуль, вы захоўвалі мудрую раўнавагу ў выкарыстанні традыцыйных рэалістычных і сучасных мадэрнісцкіх сродкаў адлюстравання. Зараз гэта раўнавага парушана, аб чым і засведчыла гэтая выстава. Паколькі сёння слова "фармаліст" ужо не гучыць як абраза, то мы можам спакойна паразважаць на тэму менавіта вашых пошукаў у галіне формы. Мне думаецца, што сёння вы прадстаўляеце авангардысцкую плынь у мастацтве, якая, калі верыць энцыклапедычным даведнікам, аддае перавагу фармальным сродкам адлюстравання і адыходзіць ад рэалізму. Я, прыкладам, заўважыла, што некаторыя формаўтварэнні на вашых палотнах (кругі-колы, "пырскі" штрыхоў, трохкутнікі і інш.) не адпавядаюць канкрэтным рэаліям, а выступаюць у ролі таемных знакаў. Гэта азначае, што вы адыходзіце ад натуры і, магчыма, ад праблем грамадскага жыцця. Але перш чым засяродзіцца на прыродзе стылю мастака Марачкіна, хацелася б прасачыць яго творчую эвалюцыю.**

— Напачатку я спавядаў тое, сярод чаго жыў, што ведаў, а перадусім — беларушчыну. На яе ідэйнай аснове ў цесным закутку сваёй першай майстэрні ствараў пейзажы ды нацюрморты. Пісаў з натуры. Той перыяд у сваёй творчасці жартам называў "натурнай школай". У свой час на пазіцыях усвядомленай беларускасці мяне падтрымлівалі мастакі Лявон Баразна і Віктар Шматаў. Яны мне першыя сказалі: "Толькі Бацькаўшчына павінна цябе натхняць. Гісторыя народа і любоў да роднай мовы". Гэта былі 70-ыя гады — з іх рэпрэсіямі і цкаваннем нацыянальна свядомай інтэлігенцыі. Мой нонканфармізм заўсёды адмяжоўваўся ад афіцыйнай кан'юнктуры, ад прышчэпак метаду так званага сацрэалізму, які адпавядаў накірунку дзейнасці кампартыі і прымушаў працаваць у рэчышчы такога заідэалагізаванага мастацтва. Паколькі я не пісаў партрэты дзяржаўных і партыйных дзеячаў і не абслугоўваў ідэалогію, то мне і маім калегам-аднадумцам давялося пайсці ў іншым напрамку, а менавіта ў Адраджэнне. Аб'ектам адлюстравання для мастакоў-адраджэнцаў стала этнічная і духоўная гісторыя народа. Апошняя — ва ўсім багацці язычніцкіх вераванняў, культаў, традыцыяў, абрадаў, фальклору. Я з натхненнем працаваў над гістарычнымі партрэтамі дзеячаў мінуўшчыны, пры стварэнні якіх карыстаўся іканаграфічным матэрыялам, вылучаючы рысы не толькі тыповыя, але і гераічныя. Стварыў палотны, напісаныя на этнаграфічным і фальклорным матэрыяле, у першую чаргу "Гуканне вясны" і нізку "Легенды і паданні Беларусі", дзе старажытныя светапоглядныя ўяўленні нашых продкаў знайшлі адлюстраванне ў канкрэтнай, нагляднай форме сімвалічных і алегарычных казачных персанажаў. Работа над гэтымі творамі паспрыяла складванню майго сучаснага стылю — сімвалічна-метафарычнага, з адзнакамі ўмоўнасці і пэўнай стылізацыі формы. Дадам, што пры стварэнні легендарных вобразаў мне часам даводзілася выкарыстоўваць прыёмы дэкаратыўна-прыкладнога народнага мастацтва ("Выпрабаванне духу", "Тураўскі вяшчун" і інш.).

**— Як паўплывала на дзейнасць беларускіх мастакоў перабудова?**

— Перабудова разбурыла тую сцяну, якая падзяляла свет на два варожыя лагеры, і зрабіла нас больш свабоднымі. Нацыяналістаў не маглі ўжо так цкаваць і ганьбіць, як раней. З другога боку, адраджэнская плынь захапіла свядомасць многіх творцаў, і ідэйная аснова беларушчыны ў мастацтве такім чынам значна пашырылася. На жаль, пра сённяшні дзень гэтага не скажаш.

**— Хацелася б да канца высветліць эвалюцыю вашага стылю. Зараз вы пішаце ў іншай манеры, больш абстрактнай, адыходзячы ад фігуратыўнага мастацтва.**

— Не зусім так. Ваша заключэнне занадта катэгарычнае. Фактычна я працягваю распрацоўваць свой сімвалічна-метафарычны стыль, які ўзбагачаю нечым іншым. Гэта "іншае" заключаецца ў павышанай колеравай гаме, у выбары тэм і пластычных прыёмаў стварэння гарманічных формаў. Калі ранейшыя мае творы мелі аснову літаратурна-гістарычную, то цяпер я звяртаюся пераважна да тэм і жанраў, якія даюць магчымасць эксперыментаваць у галіне формы: знаходзіць новыя выяўленчыя сродкі, узбагачаць мастацкую палітру, апяваць чыстую красу. Цяпер пішу без аглядкі на натуру і стаўлю іншыя задачы. Галоўнае прызначэнне маёй сённяшняй творчасці — наталяць прагу эстэтычных пачуццяў гледачоў, пашыраючы дыяпазон іх успрымання прыгожага ў жыцці і мастацтве, мабыць, таму і пачаў працаваць у новым для сябе матэрыяле — акварэлі, якая дае шырокі прастор для формаўтварэнняў і нечаканых мастацкіх рашэнняў. Думаю, што найбольш правільным будзе вызначыць мой стыль як эклектычны. І гэта ўспрымаю не як абразу ці прыніжэнне. Я магу выпрабоўваць і адно, і другое, і трэцяе, і не думаць, што працую ў рэчышчы еўрапейскага авангарда. Хутчэй сам па сабе развіваюся — не хачу быць аднастайным.

**— А калі вы робіце выставы, накшталт майскай, то што гэта азначае?**

— Гэта азначае, што для сябе і для гледача — не пабаюся гэта сказаць — спрабую падняць вышэй эстэтычную планку. Наш глядач прывык бачыць на палатне тое, што і ў жыцці, што можна, так бы мовіць, рукой памацаць. Калі я намалюю натуралістычны нацюрморт з баравікамі, то гэта будзе здорава. І гэта ён з ахвотаю набудзе, як на Камароўцы. Так нельга падыходзіць да мастацтва. У гэтым плане я хачу разбудзіць фантазію гледача, даць нейкую новую эстэтыку. Для сябе я гэтую выставу вызначыў як некамерцыйную. А чаму? Той, хто разбіраецца ў мастацтве, не мае грошай, каб штонебудзь набыць, а той, хто мае грошы і жадае мець у сябе дома карцінку з натуры, хай шукае іншага мастака. Дык не буду ж я залежаць ад таго, хто не разбіраецца ў мастацтве! За мяжой з такой выставы тры-чатыры творы заўсёды б купіліся. Тут жа спадзяванняў няма.

**— Не баіцеся, што вашы эстэтычныя прынцыпы будуць звужаць тэматычны абсяг творчасці?**

— Не баюся, бо не збіраюся абмяжоўвацца тым, што паказаў на майскай выставе. Хачу падкрэсліць, што я ствараю творы не толькі эстэцкага плана, але і такія, як "Сцяна", "Шчытаносцы", "Зомбі", бо сучасная палітычная сітуацыя ў краіне правакуе ў мастацтве плынь нонканфармізму, гэта значыць, мастацтва пратэсту. Лічу сябе нацыяналістам у лепшым сэнсе гэтага слова, і што

б я ні ствараў, гэта так ці інакш адаб'ецца на маіх палотнах. Ведаеце, французскі мастак Анры Маціс падчас Другой сусветнай вайны пісаў вельмі прыгожыя інтэр'еры і нацюрморты — з рыбкамі, з кветачкамі. Казаў, што такім чынам, ідучы ў свет гармоніі, ён пратэстуе супраць пачварнага фашызму. Лічыце, што і маё мастацтва застаецца мастацтвам гармоніі і пратэсту, калі вяду гледача ў свет прыгожага. У абсягу сваёй тэматыкі сёння, напрыклад, працягваю працу над партрэтамі сучаснікаў. Ужо экспанаваліся на выставах партрэты Зянона Пазняка, гісторыка Міколы Ермаловіча, мастака Аляксандра Пушкіна, паэта і філосафа Алега Бембеля. Нядаўна, да 80-годдзя Беларускай Народнай Рэспублікі, напісаў па старым здымку пражскага перыяду партрэт дзяячкі БНР, паэтэсы Ларысы Геніюш.

**— А чым вытлумачыць ваша сённяшняе захапленне выяўленчымі сродкамі абстрактнага мастацтва — напрыклад, геаметрычнымі формамі і сімвалічнымі знакамі?**

— Тым жа імкненнем да выяўлення ідэальных гарманічных формаў. На маёй выставе дэманстравалася дэкаратыўная кампазіцыя "Знак". На ёй мы бачым зямлю, неба і трохкутнічак на небасхіле. Калі для расійска-беларускага мастака Казіміра Малевіча, які высунуў ідэю беспрадметнага малюнка, ідэальнай уяўлялася форма квадрата, то для мяне гэта трохкутнік. У ім я бачу нейкае святло, Божы знак. Нездарма ж Хрыстос мае німб круглы, а Бог айцец — трохкутны. Гэта як Божае вока.

**— Цяпер вы працуеце ў акварэлі. Гэта таксама прадыктавана вашым імкненнем адлюстроўваць ідэальныя гарманічныя формы? Я маю на ўвазе, што акварэлі, паказаныя на выставе, апяваюць красу жанчыны.**

— Адкажу так: для мяне акварэль — своеасаблівы матэрыял, які канцэнтруе ўвагу на чалавечых пачуццях і эмоцыях, на тым, што цябе зачароўвае. У гэтым матэрыяле лягчэй перадаць сваю закаханасць, захапленне, паэтычны ўзлёт душы, іншыя пачуцці. У стварэнне акварэльнага малюнка трэба ўкласці сэрца і душу — інакш твор не атрымаецца. Задума пісаць жанчыну прыйшла невыпадкова. Акварэльная фарба, як вядома, кладзецца на паперу натуральна, і я адчуў, што на ёй нечакана пластычна кладзецца лінія. А лінія, як нідзе, характэрна для аголенай жанчыны, прыгажосць якой натхняла мастакоў і скульптараў ва ўсе эпохі. Працуючы над акварэлямі, я нібы вяртаўся ў сваю маладосць: адчуваў энергію, натхненне, закаханасць.

**— Як вы бачыце свой далейшы шлях у мастацтве? Не за гарамі ж і юбілей, шасцідзесяцігоддзе. Магчыма, ёсць задума стварыць нейкі асаблівы твор да гэтай даты?**

— Я збіраюся і далей развіваць накірунак творчасці, які паказаў на гэтай выставе. Толькі ісці больш у глыбіню. Вяртацца ў перыяд этнаграфізму мне ўжо не хочацца. Хачу глядзець на ўсё святлей, можа быць, і пратэставаць, але трошкі па-другому. Да юбілею збіраюся стварыць твор глыбокага філасофскага гучання — у працяг адраджэнскай Купалавай тэмы "А хто там ідзе?.." Гэтага ад мяне патрабуе трагічная сучаснасць. Мой народ доўгія вякі стаіць на раздарожжы. Працяглая дэнацыяналізацыя зрабіла яго глухім, сляпым і раз'яднаным. Адзіны паратунак — аб'яднацца на гістарычным падмурку вялікай нацыянальнай культуры. Вось такую ідэю — паяднанне на аснове духоўнасці ў імя жыцця — і хачу я давесці да сваіх гледачоў сваім будучым творам. Гэта мая звышзадача і мой боль...

**— Пяройдзем да ўнутраных праблем вашай творчасці да грамадскіх клопатаў. Які з іх для вас найцяжэйшы?**

— Справы суполкі "Пагоня", старшынёй якой я з'яўляюся. Мая непасрэдная задача — рыхтаваць нашы выставы, як дома, так і за межамі рэспублікі, — у Германіі, Італіі, Францыі, Бельгіі, Амерыцы. Заўважу, што ў апошнія гады нам вельмі цяжка праводзіць выставы на Бацькаўшчыне — перашкаджаюць чыноўнікі. Сёлета ўвогуле не дазволілі выставіцца ў Палацы мастацтваў — з тае прычыны, што на гэты час Міністэрства культуры нечакана запланавала сваю выставу. І ўсё ж сябры суполкі здолелі паказаць свае творы ў Гародні і ў Мінску — у сталічным касцёле святых Сымона і Алены і штабкватэры БНФ. Выстава да 80-х угодкаў БНР адбылася і ў Бруселі, куды запрасілі мяне з Аляксандрам Родзіным.

**— Хто яе ініцыяваў?**

— Грамадскі дэмакратычны рух Хартыя-97, якая размясціла выставу ў сваім прасторным памяшканні. Мы прывезлі туды творы нонканфармісцкага характару. Цэнтральнае месца заняла "Сцяна" — палатно, на якім я адлюстраваў у метафарычнай форме тое, што робіцца на Беларусі. Сцяна — гэта адмеціна нашага часу. Відаць, невыпадкова менавіта пад такой назвай апублікавалі свае кнігі Васіль Быкаў і Сакрат Яновіч. Выстава ў Бельгіі мела вялікі рэзананс. На адкрыцці прысутнічалі нашы суайчыннікі-эмігранты, бельгійская інтэлігенцыя, дэпутаты Еўрапарламента. Быў заяўлены пратэст супраць неабгрунтаваных рэпрэсій на Беларусі. Прыемна адзначыць, што ў рэзідэнцыі Еўрапарламента сярод іншых сцягоў я ўбачыў і наш гістарычны — бел-чырвона-белы. Заўважце — не чырвона-зялёны.

**— Раскажыце пра вашы даўнія канктакты з замежнымі краінамі, да якіх далучана і суполка "Пагоня".**

— Сапраўды, нашы канктакты, даўнія і рознабаковыя, носяць характар творчы, дзелавы і сяброўскі. Найбольш сталыя і надзейныя сувязі з Германіяй. Кантакты ажыццяўляюцца праз дабрачынную асацыяцыю "Сябры Беларусі" з горада Нордвальда, што непадалёк ад Мюнстэра і Хорстмара. Гэта арганізацыя аказвае гуманітарную дапамогу ахвярам Чарнобыля, а нам, беларускім мастакам, ладзіць штогадовыя выставы ў сваім горадзе. Апошняя, калядная выстава адбылася ў прадстаўнічай галерэі "Трэнт", што ў горадзе Штрайнфурт. У Германіі вельмі папулярны беларускі жывапіс, графіка і скульптура малых формаў рознага характару, а найчасцей фігуратыўнага, рамантычна-алегарычнага, у нечым метафарычнага. Можа, таму што само нямецкае мастацтва крыху рацыянальнае, яму не хапае эмоцый і настраёвасці. У калекцыях мецэнатаў Альбрэхта Круша, Марыі Ціман знаходзяцца творы Леаніда Шчамялёва, Уладзіміра Сулкоўскага, Міколы Аўчыннікава, Юры Піскуна, Сяргея Рымашэўскага, братоў Басалыгаў, Адамчыка, Селіханава і іншых. Са свайго боку мы таксама мацуем нямецка-беларускія культурныя сувязі, прымаючы ў сябе адтуль гасцей і арганізуючы выставы іх твораў. Так, у Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі намі была арганізавана выстава твораў старэйшага мастака Германіі Генрыха Ноя, які вельмі любіць нашу краіну, а прадстаўніка Віцебскай мастацкай школы Васіля Кандзінскага лічыць сваім настаўнікам. Другая выстава, на гэты раз твораў прафесара і педагога Мюнстэрскай мастацкай акадэміі Уда Шэла і яго вучняў, адбылася ў сценах Беларускай мастацкай акадэміі, дзе я працую.

**— Скажыце, Аляксей Антонавіч, а сёння ў нас многа таленавітай моладзі?**

— Вельмі многа. Калі гадоў пятнаццаць назад у авангардзе сучаснага мастацтва быў дзесятак маладых — адораных, з багатай фантазіяй — мастакоў, то сёння іх у некалькі разоў болей. Творчасць Юрася Хілько, Сяргея Цімохава, Міколы Андруковіча, Пятра Багданава, Алены Шлегель, Алеся Ксяндзова, Сяргея Малішэўскага, Сяргея Рымашэўскага і многіх другіх мае велізарны поспех у Еўрапейскіх краінах, але на Бацькаўшчыне яна не запатрабавана.

**— Скажыце, а як глядзіць наша Міністэрства культуры на тое, што работы нашай таленавітай моладзі едуць за мяжу і там знікаюць?**

— А скрозь пальцы глядзіць, інакш бы такое не адбывалася. У нашых мастакоў няма другога выйсця, як збываць свае творы на чужыне. Прыкладам, работы суполкі "Пагоня" Міністэрства культуры даўно не купляе. Творы сучасных маладых мастакоў Міністэрства культуры не купляе таксама. Я не чуў, каб чыноўнікі гэтай установы наведвалі галерэі і салоны, дзе выстаўляецца наша моладзь, і набывалі што-небудзь для музея сучаснага мастацтва. А такі музей у нас існуе, але ён не апраўдвае ні сваёй назвы, ні свайго прызначэння. Менавіта гэты музей павінен фармаваць свае фонды не па кланава-сяброўскай прыкмеце, а з лепшых твораў мастакоў розных пакаленняў. Замест гэтага па камандзе зверху музей праводзіць беларуска-рускія "інтэграцыйныя" выставы, абслугоўваючы ідэю такога фальшывага паяднання. Вось і едуць нашы духоўныя набыткі за мяжу, а потым мы будзем разводзіць рукамі, як вярнуць дадому той або іншы шэдэўр мастацтва.

**— Якой вы бачыце перспектыву нашага нацыянальнага мастацтва?**

— З надзеяй гляджу ў будучыню. Малады падлесак нашага мастацтва квітнее талентамі, напаўняецца жыватворнымі сокамі сусветнай і вялікай беларускай нацыянальнай культуры з яе глыбокімі еўрапейскімі каранямі. За імі — будучыня.

**Гутарыла Ірына КРЭНЬ**

# ...І вяртацца ў тэатр

***Наталля Качаткова, заслужаная артыстка Рэспублікі Беларусь, вядомая гледачам больш як па сарака ролях, 24 чэрвеня адзначыла свой юбілей.***

"Усё яшчэ толькі пачынаецца...", — сказала яна, і гэта прытым, што яна працуе ў тэатры каля трыццаці гадоў (калі дакладней — дваццаць сем). Цяпер яна ўпэўнена: яе ацэньваюць слушна па яе работах. Але ж упэўненасць гэтая з'явілася не адразу...

З самага дзяцінства Наталля Качаткова жыла ў тэатры. Гэта не метафара — яе бацькі былі акцёрамі, а маленькая дачка шмат часу бавіла з імі. Яна ўжо тады ведала тэатр з усёй ягонай "кухняй", для яе ўсялякія тэатральныя сюрпрызы не былі нечаканымі. Жаданне стаць актрысай узнікла ў яе даволі рана — яшчэ ў школе. Наталля Качаткова была ўпэўнена, што будзе працаваць у тэатры. Яна нават пачала рыхтавацца да паступлення ў тагачасны БДТМІ, — у Рускім тэатры, дзе ўдзельнічала ў рознага кшталту масоўках. Усе непрыемнасці, звязаныя з тэатрам, яна ведала — бачыла, як цяжка ўсвядамляць акцёру, што ён не прызначаны на адну з роляў, — нават на прыкладзе сваіх бацькоў... Але ж упарта працягвала імкнуцца да акцёрскай прафесіі. Бацькі ёй не перашкаджалі, хаця бацька ўсё ж казаў (з лёгкай усмешкай): "Вядома, добра было б, калі б яна атрымала якую-небудзь прыстойную прафесію..."

Яна паступала сама, без усялякай дапамогі з боку бацькоў — тыя ў гэты час былі на гастролях з тэатрам. Аднак, нягледзячы на суровую прыёмную камісію, — Арлоў, Маланкін, Бутакоў і іншыя, — Наталля Качаткова стала студэнткай Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Тамсама, у інстытуце, пачаліся і першыя яе праблемы. Яна адчувала, што большасць выкладчыкаў і студэнтаў успрымае яе як дачку акцёра Качаткова, а не як студэнтку акцёрскага аддзялення Наталлю Качаткову. Кожная роля, па словах актрысы, была як экзамен — яна імкнулася даказаць усім, што і яна мае неблагія здольнасці. Напрыканцы інстытута стаўленне да яе пачало паступова змяняцца. Але вызваліцца ад вобраза, "акцёрскай дачкі" яна здолела толькі ў тэатры Янкі Купалы, куды яе запрасілі пасля заканчэння інстытута.

У яе творчым тэатральным лёсе было ўсё — і поспехі, і часы незапатрабаванасці. Зразумела: два гады жыцця каму-небудзь могуць падацца і не вельмі вялікім тэрмінам, але ж трэба ведаць акцёраў... Ды Наталля Качаткова не скардзілася, у гэты "перапынак" яна даволі актыўна працавала на радыё і тэлебачанні (яно і цяпер вабіць яе). Актрысе вельмі падабаецца агучваць розныя персанажы, асабліва... маленькіх хлапчукоў. Наталля Георгіеўна спакойна ставіцца да творчых складанасцяў. Напэўна, сказваецца не толькі доўгі час працы ў тэатры, але і дзіцячая загартоўка.

Сёння мы ведаем актрысу Наталлю Качаткову, якая іграе ў такіх знакамітых спектаклях, як "Памінальная малітва", "Тутэйшыя", "Ажаніцца — не журыцца" і шмат якіх іншых. Але ж творчы чалавек заўсёды падымае сваю планку — ніводны сапраўдны акцёр ніколі не скажа: "Я сваю галоўную ролю ўжо сыграў". Наталля Качаткова таксама лічыць, што яе галоўная роля — наперадзе. Цяпер ёй, напрыклад, вельмі хочацца сыграць клоуна. Часам актрыса знаходзіць для сябе выдатнага літаратурнага героя, якога цікава было б увасобіць на сцэне. Аднак... "Нясціпла навязваць тое, што хочаш сыграць", — мяркуе Качаткова.

Яе асабістае жыццё моцна звязана з сям'ёй — гэта той прытулак, дзе актрыса можа адпачыць і падзяліцца сваімі думкамі з роднымі. Але ж сапраўдным адпачынкам для Наталлі Качатковай з'яўляецца прырода і Леў Талстой, — для яе аўтар нумар адзін. Яго творы дапамагаюць актрысе больш дакладна асэнсоўваць сваё становішча ў свеце.

Больш за ўсё ў жыцці Наталля Георгіеўна не любіць фальшу і ведае дакладны спосаб вызвалення ад яго — трэба з'ехаць на некалькі дзён на прыроду, дакрануцца рукамі да зямлі — і ўсе дрэнныя пачуцці і думкі знікаюць... Ва ўсялякім выпадку, гэты спосаб для актрысы вельмі дзейсны. Але ж прафесія (акцёру патрэбныя суразмоўцы, кола сяброў) прымушае вяртацца ў горад... І ў тэатр...

**Кірыла ВАСІЛЕЎСКІ**

ВЫСТАВЫ

# Лінія, штрых, вобраз

У маі гэтага года ў мінскім Палацы мастацтваў праходзіла мастацкая выстава друкаванай графікі. Гэта была першая ў нашай краіне сумесная акцыя дзвюх грамадскіх арганізацый: Міжнароднага культурнага фонду Кандрата Крапівы і Беларускага фонду палячыцеляў Маскоўскага дзяржаўнага авіяцыйнага тэхналагічнага універсітэта імя К. Цыялкоўскага.

Выстава называлася "Сучаснае мастацтва Беларусі" (гэта другая па ліку экспазіцыя твораў мастацтва ў рамках аднайменнай культурнай праграмы, распрацаванай Фондам Кандрата Крапівы). Яна праводзілася пры садзейнічанні Міністэрства культуры, Беларускага саюза мастакоў, Рэспубліканскай мастацкай галерэі і з'явілася прыкметнай падзеяй у культурным жыцці краіны.

У выставы было адразу некалькі генеральных спонсараў: замежнае прадпрыемства "Белфорэст" (эксклюзіўны дыстрыб'ютэр фірмы "Хускварна" ў РБ), беларускія прадпрыемствы "Веатэкс" і "Акваліт". Сапраўды унікальным быў змест экспазіцыі, аснову якой склалі графічныя аркушы з прыватнай калекцыі Дзмітрыя Малаткова. Стварэнне твораў графічнага мастацтва — гэта своеасаблівае супрацоўніцтва аўтара і майстра-друкара. Такім майстрам і з'яўляецца Д. Малаткоў, які валодае сапраўднымі сакрэтамі друкарскай тэхнікі і на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў тыражуе творы многіх нашых графікаў — і сталых, шырокавядомых, і зусім маладых, учарашніх студэнтаў.

У выставачнай зале перад гледачом раскрывалася рэтраспектыва беларускай графікі (больш за 50 твораў) — ад традыцыйна рэалістычнай да абстрактна-сімвалічнай. Рэтраспектыўныя экспазіцыі маюць, на мой погляд, важнае культурнае значэнне. Яны даюць магчымасць яшчэ і яшчэ раз убачыць тое індывідуальнае і непаўторнае, што ёсць у кожным творы мастацтва, прасачыць тэндэнцыі развіцця тых ці іншых школ з пазіцый сённяшняга дня. Да таго ж такія экспазіцыі дапамагаюць зразумець і адчуць усю значнасць і маштабнасць мастацтва ў нашым жыцці.

Мастацтва друкаванай графікі — мабыць, самае разнапланавае сярод усіх іншых відаў мастацтва, і ў той жа час самае супярэчлівае. Дакладнасць выявы, вытанчанасць вобразаў, складанасць выяўленчай мовы і тэхнікі, шматзначнасць зместу (графіку невыпадкова называюць "мастацтвам сэнсу") і ў той жа час тыражнасць — усё гэта пераўтварае яе ў мастацтва сацыяльна значнае.

У графічных вобразах спалучаецца імпульсіўнае і рацыянальнае, непасрэднасць натхнёнага ўражання і скрупулёзнасць дасканаласць рамяства. Лёгкасць штрыхоў, дынамічнасць ліній, фіксацыя настрою — за ўсім гэтым амаль чароўная форма ўвасаблення, якая вымагае люстэркавага бачання кампазіцыі пры пераносе яе на друкарскую дошку ці літаграфскі камень.

Усё гэта — графіка. І менавіта такой паўстала яна перад гледачом на выставе "Сучаснае мастацтва Беларусі". Дзякуючы ўмела прадуманаму падбору і размяшчэнню твораў у экспазіцыі, якую распрацаваў мастак-графік Міхаіл Няхайчык, яна стварала цэласнае ўражанне і вельмі выразна адлюстроўвала адметныя асаблівасці беларускай школы графікі.

У чым жа гэтыя асаблівасці? Перш за ўсё, у глыбокіх ведах класічных традыцый, якія бяруць свае вытокі ў графіцы першадрукара Францішка Скарыны. Адкрытасць жанрава-тэматычных межаў, віртуознасць тэхнікі, складанасць вобразна-выяўленчага ладу — таксама характэрныя рысы беларускай графікі. Цікавай з'яўляецца лінія вобразных інтэрпрэтацый, якая вядзе ад шматзначнай алавядальнасці, як, напрыклад, у творах У. Басалыгі з яго шырокавядомай серыі літаграфій "Помнікі архітэктуры Беларусі" (1983 г.), у гістарычных аркушах М. Басалыгі, у літаграфіях В. Мікіты, метафарычнага, канцэптуальнага бачання свету ў творах А. Кашкурэвіча да знакавай формулавасці вобразаў у творах Р. Вашкевіча, А. Назаранкі, Т. Радзівілкі.

Ёсць яшчэ адна прыкметная і важная рыса ў беларускім мастацтве графікі — яе стылістычная разнастайнасць, аўтарская індывідуальнасць пластычнай мовы. Абвостраную графічнасць, выразна дэкаратыўную арганізацыю цэлага бачым мы ў літаграфіях Н. Паплаўскай. Экспрэсіўнасць вобразаў, стрыманасць кампазіцыі і ўнутраная напружанасць уласцівыя творам Г. Паплаўскага — "Радаўніца" (афорт, 1978), "Пушча" (літаграфія, 1983). Вытанчаная графіка ліній, мяккія эфекты таямнічага святла, метафара — гэта графічныя аркушы А. Александровіча, аўтара, які працуе ў традыцыях класічнай школы. Каларыстычнасць пластычнай мовы — адметная рыса каляровых літаграфій С. Пчалінцава ("На мяжы", 1989 і інш.). У літаграфіях Я. Ліс ("Без назвы", 1993 г., "Начны краявід", 1994г.) заўсёды прысутнічае мяккасць колераў, эмацыянальна-настраёвыя імправізацыі.

Графіка — цудоўнае, нават чароўнае мастацтва. Рэтраспектыўная выстава дае падставу зноў і зноў звярнуць увагу на праблему захавання традыцый беларускай школы. Такая праблема, безумоўна, існуе і з цягам часу робіцца ўсё больш вострай.

**Алена АТРАХОВІЧ,**
**кандыдат мастацтвазнаўства**

## Ён быў першым...



**Той, хто бывае на вечарынах, што праводзяцца ва ўтульным і ветлівым Купалаўскім музеі, заўсёды адчувалі тут своеасаблівую творчую аўру. Было так і гэтым разам, калі сабраліся, каб ушанаваць сотую гадавіну з дня нараджэння вядомага пісьменніка, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР Рыгора Кобеца.**

**Вяла вечар даследчыца творчасці пісьменніка Людміла Лявонава, якая расказала пра творчы шлях Рыгора Кобеца, падкрэсліла, што ён першы прафесійны беларускі кінасцэнарыст, яму першаму сярод пісьменнікаў было нададзены ганаровае званне заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.**

**Мікола Аўрамчык назваў Р. Кобеца чалавекам-легендай, спыніўся на асобных момантах яго жыцця, падзяліўся ўражаннямі, якія ён атрымаў у юнацтве ад твораў пісьменніка, асабліва ад п'есы "Гута" і кінафільма "Шукальнікі шчасця". Было што сказаць і намесніку міністра культуры Рэспублікі Беларусь Юрыю Цвяткову, які, будучы рэжысёрам-дакументалістам, здымаў Р. Кобеца для фільма "Цішка Гартны". Гэта адзіныя кінакадры пра пісьменніка, якія захаваліся. Мікола Татур прыгадаў, як ён, будучы настаўнікам, пазнаёміўся з творчасцю Р. Кобеца, а пазней з ім выступаў на творчых сустрэчах. На асобных цікавых эпізодах з жыцця пісьменніка спынілася яго дачка — Алена Кобец-Філімонава.**

**У гэты дзень у музеі адбылося адкрыццё цікавай і змястоўнай выстаўкі, прысвечанай юбілею Рыгора Кобеца (фотаздымкі, рукапісы, рэчы і інш.), якая будзе працаваць на працягу месяца. Арганізавала яе супрацоўніца музея Ніна Каралюк.**

**Ёсць штосьці паказальнае ў тым, што святкаванне юбілею Рыгора Кобеца пачалося менавіта з Купалавага дома.**

## Віцебскаму архіву — 60



**У 1862 годзе ў Віцебску быў адчынены першы ў Беларусі дзяржаўны архіў — цэнтральны архіў старажытных актаў. У 1908 годзе яго матэрыялы былі перададзены ў Віленскі цэнтральны архіў старажытных актаў, а ў Віцебску застаўся толькі губернскі архіў, у якім захоўваліся дакументы, пазначаныя пачаткам 1800 года. Ішоў час, архіў папаўняўся матэрыяламі і ў ліпені 1938 года быў утвораны дзяржаўны архіў Віцебскай вобласці, які адзначае ў гэтыя дні сваё 60-годдзе.**

*Фота А. ХІТРОВА, БЕЛТА*

*ЛІСТ Ў РЭДАКЦЫЮ*

# З добрымі намерамі, надзеямі і пажаданнямі

Выступаючы ў нязвыклым, а тым больш у непрыемным, жанры, мусова апраўдвацца, нашто гэта.

Як сабе самому, так і ўсім іншым, тлумачу: не маю права дапусціць, каб заставаліся ў зман уведзенымі чытачы "ЛіМа", а сярод іх і тыя многія калегі, што няблага ведаюць прадмет гаворкі, хоць уяўленні пра яго склалі ў даўнейшы час.

Але з такога тлумачэння адназначна падразумяваецца, што ў зман уводзіць аўтар той публікацыі, на якую робіцца гэты водгук. Таму павінен адразу ўдакладніць, што, нягледзячы на вялікую колькасць агрэхаў і памылак у нататках "Колькі сілы і час дазволяць", Г. Тварановіч у наўмыснай дэзінфармацыі не абвінавачваю. Справа тут, хутчэй за ўсё, у шчодрасці душэўнай і ў захапленні, што засціла вочы. Так ці інакш, спадзяюся, калега Тварановіч за больш дакладную інфармацыю на мяне крыўдаваць не павінна.

Тыя ж самыя спадзяванні я маю і адносна ўшанавага спадарыняй Галінай сербскага калегі Момчылы Джэркавіча. Бо і я таксама жадаю, каб яму "яшчэ доўга ставала сіл і часу казаць пра Беларусь".

Але... Нічога, акрамя шкоды, не прынясуць нам узаемныя хваласпевы, калі мы будзем у сапраўднасці белае называць чорным, дробнае — вялікім, страты — дасягненнямі і г. д., не зважаючы на праўдзівы стан рэчаў.

А ён, калі браць факты, вось які.

Момчылу Джэркавіча ведаюць асабіста многія чытачы "ЛіМа". У першай палове 80-х гадоў ён, выдавец і паэт з Бялграда (СФРЮ), праяўляў цікавасць да беларускай літаратуры, завязаўшы кантакты як асабістыя, так і з пісьменніцкай арганізацыяй, выдавецтвамі рэспублікі. Гэтым, натуральна, усе даражылі, шчыра ідучы насустрач. Між іншым, тады Момчыла Джэркавіч стаў у нас самым вядомым сербскім паэтам — пераклады яго твораў друкаваліся ў "ЛіМе" (тройчы), у "Даляглядах" (двойчы), у анталагічных зборніках (двойчы), "Мастацкая літаратура" планавала зборнік, праспект якога ўжо быў складзены аўтарам гэтых радкоў; ці не першым з замежнікаў М. Джэркавіч атрымаў тадышнюю вышэйшую ўзнагароду Рэспублікі — Ганаровую грамату Вярхоўнага Савета БССР; імя сербскага сябра часта з'яўлялася на старонках нашых газет і часопісаў з розных нагод, а таксама ўвайшло ў энцыклапедычныя даведнікі. Уласна, усё было так, як мае быць, калі існуе двухбаковая зацікаўленасць. А яна выяўлялася і на словах, і на паперах — у выглядзе пратаколаў пра намеры, пагадненняў, дамоў — канкрэтна, з СП БССР, выдавецтвамі "Мастацкая літаратура" і "Юнацтва". Асаблівае значэнне тады было нададзена падрыхтоўцы анталогій паэзіі — на парытэтных пачатках, з двухбаковым прадстаўніцтвам укладальнікаў (у абодвух выпадках — М. Джэркавіч і І. Чарота). І на пачатку ўсё ішло як след. Наш Саюз пісьменнікаў прыкладаў усе намаганні, каб гэты намер здзейсніўся. (У прыватнасці, шчодра апекаваў сербскага калегу пры яго наведваннях Беларусі, хадайнічаў перад Вярхоўным Саветам наконт узнагароды, шукаў грошы, каб заплаціць таму, хто рабіў рускія падрадкоўнікі вершаў беларускіх паэтаў для анталогіі, якая павінна была выйсці ў Бялградзе). Абавязкі, узятыя на сябе нашым бокам, былі выкананы цалкам і своечасова. І "Сербская паэзія" ў 1989 годзе выдадзена. А другі бок... перарваў усе ранейшыя кантакты.

*Адносна публікацыі Г. Тварановіч "Колькі сілы і час дазволяць" ("ЛіМ", 6.03.98)*

Думаю, лепш будзе зразумела, чаму я мусіў-такі пісаць гэты ліст, калі звярнуўся да дзесяткаў калег-паэтаў, напамінаючы, як пятнаццаць гадоў таму іх прасілі прынесці ў кабінет Я. Міклашэўскага вершы для сербскай анталогіі, а потым яны на працягу гадоў і па сённяшні дзень (пасля публікацыі Г. Тварановіч таксама) у мяне распытваліся пра лёс твораў сваіх.

Мне пэўны час даводзілася толькі плячыма паціскасць. Пазней, калі сустрэў у сербскім друку інфармацыю, нібыта кніга выйшла, уздыхнуў з палёгкай. Але пацвярджэння ад калегі Джэркавіча не прыйшло, кнігі таксама — ні мне, ні аўтарам. Вырашыў, што нейкая памылка. Тады тую ж самую інфармацыю знайшоў у кнізе самога партнёра "Оставлено времену", 1987 (даведка на вокладцы), а таксама ў другой, якую выпусціла яго ўласнае выдавецтва — "Пет віекова піесништва Црне Горе" (Београд: Ново дело, 1987, с. 364), прычым не дзе-небудзь, а зноў у даведцы пра яго самога. Зноў паспрабаваў высветліць, што да чаго, і зноў без выніку. Не, з часам дакладна акрэсліўся вынік такі: нягледзячы на крыніцу, звесткі не адпавядаюць рэальнасці. Ды пра ўсё гэта беларускім калегам няёмка было казаць. Лепш захаваць надзею, што ўсё роўна кніга выйдзе.

З падобнай далікатнасці і мае бялградскія калегі такую надзею падтрымлівалі. Тым часам узнікла ідэя паралельнага, дадатковага варыянта: я ўзяўся складаць анталогію ўжо не сучаснай паэзіі, а за пяць стагоддзяў, прычым з устаноўкай, каб вершы, уключаныя ў папярэднюю, не паўтараліся. Перакладаў яе вядомы перакладчык і навуковец-славіст Міадраг Сібінавіч. На працягу года, ва ўмовах блакады, яе выдалі аўтарытэтнейшыя выдавецтвы "Српска књижевна задруга" і "Научна књига" пры падтрымцы спонсараў — дарэчы, сербаў з Косава. Кніга мела выдатныя водгукі (толькі ў маім архіве іх сем, тры з цэнтральнай прэсы). У сувязі з апошнім, дзіўна, што Г. Тварановіч, не праверыўшы, даверліва паўтарае незразумелай мэты заўвагу Джэркавіча, быццам бы кніга засталася без водгукаў. Дарэчы, і ў Прыштыне, тамсама, дзе выходзіць і часопіс, на які спасылаецца мая калега, высокатыражная 36-палосная газета "Јединство" двойчы друкавала аб'ёмныя рэцэнзіі (30.12.94 і 13.05.97).

Амаль пяць гадоў мінула пасля выхаду другой анталогіі, значна пазнейшай па часе ўзнікнення, а першай так і няма.

Што ж ёсць? Ёсць чарговая спроба заручыцца падтрымкай грамадскасці на добрыя намеры. Ды і гэта б няхай. Але ў публікацыі часопіса "Стремлења" многа такіх прыкрых рэчаў, на якія мушу звярнуць увагу як Г. Тварановіч, так і ўсіх, каму істотна, як прадстаўляюць нашу літаратуру за мяжой, і каму даспадобы прынцып: "Платон мне сябар, але ісціна даражэй".

Прывяду толькі пару фактаў: у гэтай нізцы пераважная большасць твораў зусім страціла рытмічны малюнак і рыфмоўку. тут пад імем Анатоля Вярцінскага няма ніводнага яго верша, а прыпісваецца яму створанае Уладзімірам Караткевічам; Уладзімір Сямёнавіч адрэкамендоўваецца як народжаны ў 1920 годзе, г. зн. прадстаўнік іншага пакалення, да таго ж абсалютна без падстаў сцвярджаецца, што на сербскую мову яго раней не перакладалі; дата смерці Максіма Танка даецца з апярэджваннем на год... А гэта не ўсё, што я заўважыў і што вымушаны тлумачыць. Калі не аднаму боку, дык другому, калі не сёння, дык заўтра.

Што ж рабіць?! Тым не меней усім нам лепш застацца пры добрых надзеях і яшчэ лепшых пажаданнях.

**Іван ЧАРОТА**

# Роўнасць — гэта дыскрымінацыя?

*(Працяг. Пачатак на стар. 5)*

пачатку нашай размовы ты сказала, што дадзеная публікацыя зрабіла на цябе цяжкое ўражанне. Ты можаш цяпер патлумачыць, што менавіта так моцна цябе закранула? Магчыма, гэта лічбы, якія наглядна паказваюць карціну знішчэння ўжо створанага?

— Лічбы лепей не чапаць зусім. Думаю, што яны яшчэ занадта аптымістычныя, але не ў іх справа. Вось зараз перачытала яшчэ раз усё інтэрв'ю і нарэшце сама зразумела, што ў ім выклікае найбольшую незадаволенасць, нават крыўду. А гэта менавіта нараджэнне гэтага новага закона, які зраўняў на заканадаўчым узроўні нашу мову з суседскай. Сам факт гэтай роўнасці — не магу яго ні прыняць, ні зразумець. Чаму мова гэтай зямлі, народа, які на ёй жыве, павінна быць прыроўненая да нейкай іншай, няхай сабе і блізкай, ды ўсё ж чужой?

— Але ў рэальнасці нават такой роўнасці няма і ў малой ступені. Дзе ты бачыла гэтую роўнасць? Беларуская мова зноў адусюль праганяецца, робіцца проста лішняй і непатрэбнай.

— У нашай краіне ўсе паняцці перавернутыя, як у той брутальнай краіне з рамана Оруэла, дзе "мір — гэта вайна", "любоў — гэта нянавісць". Гэтак жа і ў нас: "роўнасць — гэта дыскрымінацыя". Адно чуеш, другое разумееш. Словы нібыта страцілі першапачатковы сэнс і абраслі іншымі, часта нават супрацьлеглымі значэннямі.

— Гэта тэма для нейкай наступнай нашай гаворкі. Але вось цябе абражае, што афіцыйна зацверджана другая дзяржаўная мова ў краіне. Ты яе называеш чужой, суседскай. А ці ты забылася, што ў нядаўнія часы гэтая другая была адзінай дзяржаўнай мовай на Беларусі, як і ва ўсім Саюзе? І тады гэта цябе так моцна не хвалявала, ты сама на ёй размаўляла, ледзь не роднай лічыла.

— Цяпер зусім іншы час. Адбыліся не толькі геаграфічныя змены, але і змены ў свядомасці людзей, у поглядах на рэчы. І мае ўяўленні моцна змяніліся. Я напоўніцу адчула сябе грамадзянкай сваёй роднай Беларусі, мне захацелася жыць для яе і працаваць. У мяне цяпер ёсць тое, за што я нясу адказнасць, за што хварэю душой. Таму родная мова ў маім сэрцы не можа быць прыроўненая ні да якой іншай, няхай самай лепшай, самай уплывовай, багатай, магутнай і г. д. Калі мой сусед з такім жа шанаваннем будзе ставіцца да сваёй роднай мовы, не жадаючы раўняць яе з іншай, я і яго зразумею. Я разумею расіян, якія высока цэняць і ўслаўляюць сваю мову (добра і нам яе ведаць), замацаваўшы ў сваім заканадаўстве яе статус як адзінай дзяржаўнай. Кожны адказвае за сваё, на гэтым і трымаецца свет. Так і для нас, беларусаў, наша мова павінна мець нейкую святасць, быць асаблівай, непаўторнай. А нам кажуць, што яна для нас роўная з суседскай, што тая суседская мае тут такія ж правы, замацаваныя ў заканадаўстве. Ёсць у гэтым для нас нейкая надзвычай глыбокая крыўда. Нібыта непрызнанне ўсяго нашага паўнавартасным, самадастатковым, непрызнанне нашай роўнасці сярод народаў свету.

— Ты раскрыла псіхалагічны аспект новага дзяржаўнага двухмоўя. Можна было б разглядаць праблему і з іншых пунктаў гледжання. Добра было б, каб навукоўцы спрагназавалі тыя наступствы, якія будзе мець прыняцце гэтага закона для нашай мовы, культуры, народа, дзяржавы. Што й казаць, не хапае нам такога кваліфікаванага, узважанага навуковага аналізу ў прыняцці палітычных рашэнняў.

— Нібыта ты гэтыя рашэнні прымаеш! Тыя, хто іх прымае, як мы ўжо бачылі, спасылаюцца хутчэй на жаданні, эмоцыі, інстынкты простага народа, перакладаючы на яго плечы і ўсю адказнасць за свае дзеянні. А СМІ малююць ружовыя карцінкі — усё пра роўнасць, справядлівасць, канстытуцыйныя правы і г. д. І людзі глытаюць падсаладжаныя пілюлі, вераць у казкі. Дык ці ёсць хоць у грамадстве колькі-небудзь адэкватнае разуменне сапраўднага сэнсу таго, што адбываецца?

— Усё, што разумею я, разумеюць і людзі. Гэта ж я і ёсць выразнік іх думак і пачуццяў, увасабленне іх супольнай свядомасці. Магчыма, яшчэ не ўсе разумеюць. Магчыма, разуменне яшчэ няпоўнае. Але працэс, як кажуць, ідзе. Праходзіць час, і ва ўсім выяўляе сапраўдны сэнс, усяму вызначае сапраўдную цану. Усім словам, усім справам. І ўсё і ўсіх чакае па-сапраўднаму праўдзівы і справядлівы суд: суд гісторыі — тут і суд Божы — там.

Апошнія словы, нібы накіраваныя кудысьці ўверх, нявольна прымусілі мяне паглядзець у вакно, на неба. Яно ўжо пацямнела, і ў бяздоннай, празрыстай, сіняй яго глыбіні запаліліся першыя зорачкі, нібыта светлыя лампадкі перад Божым прастолам. Па асаблівай цішыні я раптам адчула, што ўжо адна ў пакоі, і ў думках развіталася са сваім нябачным суразмоўцам — да заўтра.

**Святлана БАГДАНКЕВІЧ**

## Намоўная маці Наталлі Арсенневай



**25 ліпеня мінулага года адышла ў вечнасць Наталля Арсеннева. Мы яе называем адной з таленавітых паэтэс XX стагоддзя. Будзем называць класікам нашай літаратуры, вывучаць феномен аўтара гімна-малітвы "Магутны Божа". Лёс падараваў гэтага чалавека — рускай па паходжанні, прадстаўніка арыстакратычнага роду Арсенневых (згадаем Лермантава) — Беларусі. І Беларусь стала шчасцем і пакутай для яе, пякучым сімвалам болю. "Крывіччыны... блакітныя палі" былі каханыя Наталляй Арсенневай у прасторы між Баку і Вільняй, Яраслаўлем і Мінскам, на землях Польшчы і Нямеччыны, апошнія 50 гадоў — на Калумбавым кантынеце.**

**Але ёсць адзін, лёсавызначальны рубіконаўскі бераг у Наталлі Арсенневай, пра які яна расказала мне падчас 19-й сустрэчы беларусаў Амерыкі і Канады ў слаўнавядомым культурным цэнтры "Полацак" (штат Агаё). Тады, у 1990 годзе, яна гаварыла пра сваё вяртанне з бежанства ў Вільню: "Трапілі мы ў Друсу. Помню лес, абрыў Дзвіны, за Дзвіною былі палякі. Пажар у Друсе. Пабаяліся застацца ў гарадку. У вёсачцы Жоўніна нанялі хату. Там і перазімавалі. Зіма ў Жоўніне мне запомнілася на ўсё жыццё. Там я першы раз спаткалася з жывой беларускай мовай. Так яна мне ўпадабалася!"**

**Наталля Арсеннева назвала мне імёны гаспадароў таго жоўнінскага прытулку: Юрка і Хвядосся. І якая была для мяне неспадзяванка, калі адшукаліся сляды далёкага зімавання з 1919 па 1920 год. Ірына Палінараўна Балбека, бібліятэкарка з Жоўніна, распавяла мне хатняе паданне:**

**— Што вядома аб сям'і Юрыя і Хвядоссі? Гэта былі сціплыя людзі, вялікай душы і шчырага сэрца. Жылі яны ў невялікай нізенькай хатцы на пагорку пасярод вёскі. Мелі гаспадарку, кавалак зямлі, сад. Не дараваў ім Бог шчасця на дзяцей, і ўсю сваю пяшчоту Юрка і Хвядосся аддавалі асірацелай пляменніцы. Гэтыя людзі вельмі любілі дзяцей, і на вялікія святы іх старэнькая хата поўнілася дзіцячымі галасамі. Гаспадыня гатавала вельмі смачную бульбу і гушчу.**

**Юрка быў глухім ад нараджэння. Хвядоссю памяталі як вельмі набожную жанчыну. Расказвалі, што аднаго разу гаспадароў наведаў мясцовы бацюшка. То Хвядосся ахвяравала царкоўнаму служку ажно цэлы кумпяк. Ад небагатых людзей гэта быў царскі падарунак. Юрка і Хвядосся дапамагалі суседзям-аднавяскоўцам чым толькі маглі.**

**Пасля іх смерці прайшло шмат часу. Але ацалела магіла Хвядоссі. Даглядаем. У нашай вёсцы жывуць толькі дзве бабулькі, якія яшчэ памятаюць тых, хто прытуліў у 1919 годзе бежанцаў з Расіі — Арсенневых. Гэта Несцерава Марыя Аляксандраўна і Малаток Галіна Кузьмінічна...**

**Ад сябе дадам, што збярогся сямейны архіў бабкі Хвядоссі. Фота гэтай цікавай жанчыны І. Балбека зберагае для мемарыяльнага куточка Наталлі Арсенневай у Жоўнінскай сельскай бібліятэцы.**

**А хата, дзе зімавала Наталля Арсеннева той далёкай парою, перасыпана, абкладзена цэглай. Але не парасло зеллем бытаванне слыннай паэткі на Верхнядзвінскай зямлі. У Цэнтральнай раённай бібліятэцы рыхтуецца зараз літаратурна-краязнаўчая экспазіцыя "Я шукаю абрысы сваёй роднай зямлі", дзе будуць прадстаўлены матэрыялы і пра Наталлю Арсенневу. 20 верасня на Прыдзвінні адзначаць яе надзвычайнае 95-годдзе...**

**Сяргей ПАНІЗНІК**

*На здымку: Хвядосся з Жоўніна — намоўная маці Наталлі Арсенневай.*

ЮБІЛЕІ

# Вехі лёсу

## ДА 100-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ ЗАСЛУЖАНАГА ДЗЕЯЧА МАСТАЦТВАЎ БЕЛАРУСІ РЫГОРА КОБЕЦА

У АДНЫМ з артыкулаў БелСЭ Рыгор Кобец прадстаўлены аўтарам "папулярнай камсамольскай песні "Паравоз"". Недасведчаны чытач (на жаль, і самі укладальнікі энцыклапедыі) лічыць, што маецца на ўвазе знакамітая песня са словамі "наш паровоз вперед летит, в коммуне остановка, другого нет у нас пути, в руках у нас винтовка". Але ў Кобеца быў свой "Паравоз":

***Стальной силач***
***одет в кумач.***
***Наш паровоз***
***борьбы и гроз***
***желал.***
***В бою чуть тронь —***
***с трубы огонь,***
***в котле вулкан***
***обид и ран***
***дрожал...***

Гэты верш, напісаны ў 1925 годзе, быў папулярнай песняй. У адным з лістоў з ссылкі да крытыка Алеся Есакова мой бацька пісаў: "Такія вершы, як "Паравоз", друкаваліся ў дэкламатарах, усіх і не памятаю, а адзін запомніў, "Чтец-декломатор", складзены майстрам мастацкага чытання А. Эфрасам. "Паравоз" раз'язджаў па ўсім СССР і асабліва хораша выконваўся пад упраўленнем С. Бабаева".

У 1920 годзе Р. Кобец уваходзіў у літгрупу "Звенья" (філіял "Маладняка"). Працаваў качагарам на заводах і ў той жа час быў вядомым журналістам. Яго нарысы, вершы, байкі, апавяданні шырока друкаваліся ў часопісах і газетах.

У 1929 годзе Р. Кобец напісаў п'есу "Гута" (першая п'еса аб рабочых Беларусі), якую ў тым жа годзе надрукаваў часопіс "Маладняк" (N 8). На публікацыю адразу ж адгукнуўся тэатральны крытык У. Сядура: "...у рэцэнзуемым нумары часопіса змешчаны твор — першы акт вялікай драмы "Гута" Рыгора Кобеца. У сучасны момант, калі мы вельмі бедныя на драматургічную творчасць, з'яўленне такой рэчы, як "Гута" Рыгора Кобеца, вельмі дадатная і значная з'явішча".

Р. Кобеца заўважыў рэжысёр Е. Міровіч і прапанаваў яму паставіць п'есу ў БДТ-І. Прэм'ера спектакля адбылася ў Магілёве ў тым жа 1929 годзе. У 1930-ым Першы Белдзяржтэатр вязе "Гуту" на першую ўсесаюзную алімпіяду тэатральнага мастацтва ў Маскву. Вось адзін са шматлікіх газетных водгукаў прэсы: "25 раніцай у будынку Маскоўскага мастацкага тэатра адбыўся спектакль Беларускага дзяржаўнага тэатра спецыяльна для членаў журы і ўдзельнікаў Алімпіяды. Ішла п'еса Г. Лахматага "Гута". Спектакль меў найвялікшы поспех. Асобныя моманты ў час дзеяння перапыняліся бурнымі апладысментамі. Пасля кожнай дзеі заслона падымалася да 10 разоў". Тэатральныя крытыкі адзначалі, што "тэатр добра справіўся з матэрыялам аўтара", што "спектакль "Гута" — трыумф БДТ-І", што "тэма "Гуты" арыгінальная і сакавітая" і што "самы працэс выдування шкла паказаны ў "Гуце" ўпершыню на еўрапейскай сцэне". Журы алімпіяды прысудзіла спектаклю "Гута" першую прэмію.

"Гута", перакладзеная на розныя мовы, прайшла амаль ва ўсіх тэатрах Савецкага Саюза. У 1931 г. яна ставілася ў Чэхаславакіі, Польшчы, Аўстрыі, Венгрыі. Гэта першая беларуская п'еса, якая ставілася за мяжой і мела там вялікі поспех.

У 1931 беларуская прэса вітала БДТ-І з сотым паказам п'есы "Гута". Пасля буйнога поспеху БДТ-І на Алімпіядзе тэатр быў запрошаны на гастролі ў многія рэспублікі. Гэта была самая яркая старонка гісторыі БДТ-І (цяпер тэатр імя Я. Купалы).

У 1932 г. часопіс "Напагатове" друкуе камедыю Р. Кобеца "А ўсё ж заспяваю". У 1934 у палепшаным варыянце яна выходзіць пад назвай "На заставе" (у тым жа годзе перакладзена на мову ідыш Д. Маршаком). Камедыя з поспехам ставілася гурткамі самадзейнасці. З прыемнасцю магу заўважыць, што і ў нашы дні сцэны з гэтай камедыі былі пастаўлены студэнтамі Беларускага дзяржаўнага універсітэта культуры па ініцыятыве доктара мастацтвазнаўства А. Сабалеўскага.

У 1931 г. Кобец едзе ў Ленінград на кінастудыю "Савецкая Беларусь". Доктар мастацтвазнаўства А. Красінскі піша пра той час: "Кобец упэўнена асталяваўся на кінафабрыцы і актыўна заняўся сцэнарнай справай. У архіве сектара кіно і тэлебачання Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН Беларусі захоўваецца рукапіс успамінаў рэжысёра Н. Любошыца, які працаваў у 30-я гады на кінафабрыцы "Савецкая Беларусь" у Ленінградзе. Некаторы час ён разам з кінадраматургам М. Таўбе жыў побач з Кобецам у памяшканні кінастудыі, у якім два пакоі былі прыстасаваны пад інтэрнат. У яго ўспамінах ёсць цікавыя штрыхі к партрэту маладога сцэнарыста: "У суседнім пакоі... пасяліўся Рыгор Кобец. Ніжэй сярэдняга росту, у меру мажны, ён праходзіў цераз пакой да сябе паходкай энергічнай, як матрос, "у перавалачку". Як і многія беларускія пісьменнікі, насіў касцюм просты і скромны. Толькі ні разу не бачыў, каб пінжак быў зашпілены на гузікі, а каўнер светлай кашулі захінаў бы шыю. І душа ў яго была — нарасхрыст...

Кобецу — кіраўніку сцэнарнага аддзела — рабочага дня не хапала. Таму прыхопліваў і ноч, каб тварыць. З свайго пакоя, пакуль не засынаў, чуў, як ён ходзіць і дыктуе, як адбіваюць "чачотку" клавішы "Ундэрвуда" пад лёгкімі пальцамі, як заміраюць на імгненне, калі чуецца рэплікапытанне машыністкі. Пісьменнік над сцэнарыем доўга не працаваў, не "вымучваў"...

Над якім творам працаваў тады Рыгор Кобец? Можа, ствараўся агітпрапфільм "Ураган"? А магчыма, ішла работа над сцэнарыем фільма "Двойчы народжаны", які стаў этапным не толькі ў творчасці сцэнарыста, але і ў гісторыі беларускага кіно?"

"Двойчы народжаны" быў першы гукавы мастацкі фільм беларускай кінафабрыкі і першы на беларускай мове. А калі ўлічыць, што гэта першы фільм, у якім ярка выявіліся рысы беларускага нацыянальнага характару, і тое, што ў ім упершыню здымаліся беларускія артысты (У. Крыловіч, У. Малчанаў і інш.), ды яшчэ тое, што гэта быў першы фільм на сучасную тэму і першы фільм, які ставіўся за мяжой (Літва), стане зразумелым, чаму ён увайшоў у гісторыю беларускага кіно як этапны.



*Рыгор КОБЕЦ. 1972 г.*

Р. Кобец — першы прафесійны беларускі кінадраматург. У 1935 годзе за асобыя заслугі ў справе станаўлення і развіцця беларускага кінамастацтва яму (разам з А. Вольным) нададзена званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

"...1936 год. На кінафабрыцы "Савецкая Беларусь" адбываецца нешта незвычайнае, — так многа весялосці і смеху ў гэтыя дні. Здымаецца фільм "Шукальнікі шчасця" па сцэнарыі Кобеца. Неразлучныя сябры, цудоўныя артысты Міхоэлс і Зускін шмат часу праводзяць на фабрыцы, у Зускіна галоўная роля — шукальніка шчасця Піні. Сябры-артысты, быццам начыненыя іскрыстай весялосцю, у любым куточку фабрыкі паказваюць смешныя сцэнкі па сюжэце фільма. Разам з усімі шчыра смяецца і Грыша Кобец, а затым падыходзіць да Міхоэлса і Зускіна і нешта ім шэпча. Згодна ківае галавой Зускін, у чорных вочках яго загараюцца агеньчыкі — Кобец падкінуў новую ідэю! І пачынаюцца новыя акцёрскія пошукі. Лёгка і весела ідуць здымкі гэтага фільма", — так апісаў кіназдымкі славутага фільма беларускі рэжысёр і сцэнарыст П. Шамшур.

Гэта быў першы фільм у савецкім



*Кадр з фільма "Двойчы народжаны". У ролі Рыгора Лапуха — артыст У. КРЫЛОВІЧ.*



*Кадр з фільма "Шукальнікі шчасця". У ролі Піні — артыст В. ЗУСКІН (у цэнтры), у ролі Басі — артыстка Л. ТАЙЦ.*

ПАМЯЦЬ

# Ліцвін родам

ЛЕТАСЬ сусветная геаграфічная грамадскасць адзначыла 250-годдзе з дня смерці выдатнага падарожніка — першаадкрывальніка Аляскі і першага даследчыка Чукоткі Дзмітрыя Паўлуцкага (Зміцера Паўлоцкага).

Землепраходцамі Сібіры і Далёкага Усходу былі казакі, якія знаходзіліся на царскай службе за Каменным Поясам — Уралам. Сярод іх былі шматлікія выхадцы з Беларусі — палонныя Лівонскай вайны (1558—1583) і руска-польскіх войн (1632—1634, 1654—1667 і інш.), якія прысягнулі на вернасць маскоўскаму прастолу; пазней ссыльныя задушаных паўстанняў пад кіраўніцтвам Т. Касцюшкі і К. Каліноўскага. Многія з іх сталі выдатнымі першапраходцамі неабдымных прастораў Сібіры і Далёкага Усходу: Іван Казырэўскі і Іван Яўрэінаў (першаадкрывальнікі Курыльскіх астравоў), Дзмітрый Паўлуцкі і інш.

У пачатку XVIII ст. Расія пачала накіроўваць за Урал вялікія экспедыцыі з шырокімі паўнамоцтвамі — не толькі дзеля геаграфічных адкрыццяў, але і для вырашэння палітычных і эканамічных пытанняў. Паводле Указа Сената ад 3 мая 1727 г. з Табольска на Камчатку была накіравана грунтоўная экспедыцыя (400 казакаў і 10 матросаў) на чале з капітанам драгунскага Табольскага палка Д. Паўлуцкім. Гэта экспедыцыя на Далёкі Усход мела больш шырокія задачы, чым экспедыцыя Берынга — у яе склад былі ўключаны штурман Я. Гетс, падштурман І. Фёдараў, геадэзіст М. Гвоздзеў, маркшэйдэр і рудазнавец С. Гардэболь, ботавы падмасцер'е І. Спешнеў (для пабудовы суднаў у Ахоцку). Выпраўляючы Берынга на Камчатку, Пётр 1 лічыў, што ён "толькі адно паведамленне, злучаецца ці не злучаецца Амерыка, прывязе, а аб цікавасці сапраўднай ад яго чакаць няма чаго". Таму Пётр 1 шукаў выпадку, якім бы чынам туды "для адшукання новых земляў, іншых і карысных спраў каго пасланць".

Асноўнай задачай экспедыцыі Паўлуцкага было вывучэнне звестак аб "Вялікай Зямлі" (Алясцы. — **В.Я.**) і, пры наяўнасці абнадзейваючай інфармацыі, адкрыццё гэтай Terra incognita. Паўночна-ўсходні край Сібіры, які амываюць Ледавіты і Ціхі акіяны, зрабіўся больш вядомым ад часу заснавання астрога на р. Анадыр (1649). І да пачатку XVIII ст. звесткі пра Аляску робяцца ўсё больш "адчувальнымі", прывабнымі.

У жніўні 1729 г., ужо з Якуцка, Паўлуцкі накіраваўся ў Анадыр для арганізацыі экспедыцыі на Аляску. Гетс, Фёдараў і Гвоздзеў выехалі ў Ахоцк для пабудовы суднаў. Уласнымі сіламі яны пабудавалі бот "Усходні Гаўрыіл" і атрымалі ў сваё распараджэнне бот "Святы Гаўрыіл". У верасні 1730 г. "Святы Гаўрыіл" пад камандай Гетса і "Усходні Гаўрыіл" пад камандай Фёдарава выйшлі з Ахоцка да Камчаткі. "Усходні Гаўрыіл" разбіўся каля яе берагоў, а "Святы Гаўрыіл" шчасліва дасягнуў Бальшарэцка. Прыняўшы на борт каманду "Усходняга Гаўрыіла", "Святы Гаўрыіл" вясной 1731 года абагнуў мыс Лапатку і прыбыў у Ніжне-Камчацк. Па загадзе Паўлуцкага ён выйшаў у канцы ліпеня 1732г. з вусця р. Камчаткі і 3 жніўня дасягнуў вусця р. Анадыр, на ягоным борце знаходзілася 29 чалавек.

Для экспедыцыі на Аляску Паўлуцкі распрацаваў праграму навуковых даследаванняў, якая была выкладзена ў яго ордэры ад 1 мая 1732 года. Яна вызначалася шырынёй і смеласцю задумы, глыбокім разуменнем значэння рыхтуемай экспедыцыі. Усе ўдзельнікі экспедыцыі ўсведамлялі, што давядзецца вытрымаць вялікія выпрабаванні — трэба было ісці нікім не разведаным і не даследаваным шляхам, яны не мелі нават самай элементарнай карты раёна маючага адбыцца плавання. У склад экіпажа дадаткова ўключылі вопытнага марахода Кандрація Машкова, удзельніка першай экспедыцыі Берынга. 15 жніўня 1732 года бот "Святы Гаўрыіл" выйшаў з Анадыра на ўсход і за 5 дзён плавання абследаваў астравы Дыяміда; 21 жніўня "Св. Гаўрыіл" са спадарожным ветрам дасягнуў бліжэйшага пункта Аляскі (мыс Прынца Уэльскага на паўвостраве С'юард), насупраць "Анадырскага носа (Чукоцкага мыса). На беразе стаялі юрты. Нарэшце маракі апынуліся на доўгачаканай зямлі, пра якую так шмат хадзіла чутак — на картах яна паказвалася белай плямай. Землепраходцы даведаліся аб раслінным і жывёльным свеце "Вялікай Зямлі" — гэтыя звесткі мелі важнае навуковае значэнне.

Экспедыцыя Паўлуцкага была крокам наперад у параўнанні з першай экспедыцыяй Берынга. Калі Берынг прайшоў праліў з поўдня на поўнач, то "Святы Гаўрыіл" прайшоў гэты праліў з захаду на ўсход. Пры гэтым быў вызначаны час, неабходны для плавання ад Чукоцкага мыса да Аляскі. На жаль, захавалася мала звестак пра гэтае цудоўнае падарожжа, якое закончылася адкрыццём паўночна-заходніх берагоў Паўночнай Амерыкі — афіцыйны разгляд вынікаў падарожжа на Аляску надоўга затрымаўся. Паўлуцкі пасля заканчэння экспедыцыі на Аляску быў адкліканы ў Якуцк (1733), потым некалькі гадоў, ужо ў чыне маёра, служыў на Камчатцы і зноў вярнуўся ў Якуцк на пасаду ваяводы. Па дарозе ў Якуцк ён цудам уратаваўся ад турмы — у Ахоцку (1741) на вяселлі сваёй пляменніцы і Сцяпана Крашаніннікава (першага географа-акадэміка Пецярбургскай АН) ён нядобра "выказаўся" на адрас Сінода. Відаць, у сувязі з гэтым, ён не затрымаўся і на ваяводскай пасадзе, бо амаль адразу ж (у пачатку 1742 г.) зноў выправіўся з атрадам казакаў на Чукотку. І, відаць, невыпадкова надоўга "асеў" у Анадырскай тундры. Яго атрад прайшоў 2 тысячы вёрст уздоўж узбярэжжа Усходне-Сібірскага мора ад Чавунскай губы да Анадырскага астрога, шматразова перасякаючы Чукоцкі паўвостраў па розных маршрутах.

Не стала Д. Паўлуцкага ў сакавіку 1747 г.

Удзельнікі экспедыцыі Паўлуцкага былі першымі еўрапейцамі, якія дасягнулі паўночна-заходняй часткі Паўночнай Амерыкі. Доўгі час іх звесткі пра Аляску ў раёне Берынгава праліва былі адзінымі (назву праліву даў Джэймс Кук у 1778 г., які не ведаў аб праходзе праз праліў С.Дзяжнёва яшчэ ў 1648 г.). Удзельнікамі экспедыцыі Паўлуцкага была складзена карта плавання ўздоўж мыса Прынца Уэльскага на Алясцы. Аднак пра гэта мала каму было вядома, акрамя афіцыйных колаў Расіі, што пацвярджае "Генеральная карта Расійскай імперыі" (1746), складзенай пры Марской акадэміі з улікам звестак Паўлуцкага.

Вялікія заслугі Паўлуцкага і ў геаграфічных даследаваннях Чукоцкага паўвострава. У выніку яго першага паходу з Якуцка ў Анадыр (1729—1731) былі атрыманы першыя дакладныя звесткі пра геаграфію Чукоткі — араграфію, гідраграфію і этнаграфію, пра што сведчыць карта з выявай маршруту. Маршрут гэты быў такім: р. Анадыр і яе прыток р. Белая, потым на поўнач да Ледавітага акіяна, далей на ўсход і паўднёвы ўсход уздоўж узбярэжжа да Ціхага акіяна і, нарэшце, уздоўж заліва Крыжа ў Анадырскі астрог. Даследаванні ўнутранай часткі Чукоцкага паўвострава былі прадоўжаны Паўлуцкім і ў час паходаў 1744 і 1746 гг. У час першага паходу шлях праходзіў з Анадыра да заліва Крыжа, адсюль "гарыстымі і каменістымі месцамі" да Мечыгменскай губы, потым берагам мора да Калючынскай губы і назад у Анадырскі астрог. У час другога паходу атрад Паўлуцкага накіраваўся на поўнач ад Анадыра да вусця р. Чавун і потым на ўсход у бок Калючынскай губы, адкуль назад у Анадыр.




На карце Паўлуцкага паказана вялікая колькасць геаграфічных звестак: аб прыбярэжнай паласе (ад р. Калымы да р. Алюторы) і аб глыбінных раёнах (басейны рр. Анадыра, Чавуна, Амгуэмы і інш.).

Доўгі час імя Паўлуцкага было забыта. Пра яго ўспомнілі цяпер, у сувязі з 250-годдзем з дня смерці. Беларускі народ мае права ганарыцца сваім суайчыннікам — выдатным землепраходцам першай паловы XVIII ст.

**В. ЯРМОЛЕНКА,**
**доктар геаграфічных навук**

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Бомж — няма ў гэтага слоўца роду. А бамжоў ужо болей чым дос. Не будзе нашаму роду зводу? Будзе, калі не спыніцца рост.

На алкагалізацыю насельніцтва пазіраеш з болем. Ды дзяржаве вечна не хапае на абзавядзенне. І газеты змагаюцца ўжо не з алкаголем, з нізкаякаснымі яго заменнікамі.

●

Пустыя надзеі — відочнае зло. Пасеялі "мусібыць" — не ўзышло. Я тут, можна сказаць, несудзімы. Але жыць без надзеі — не, немагчыма!

●

Рух — гэта форма існавання інспекцыі. У адрозненне ад мітуслівых, інспектары не спяшаюцца. А чаму інспекцыю апаноўвае інфекцыя — дык хто гэта, загадваючы рухам, утрымаецца? І перакачоўваюць банкноты амаль усляпую з адной кішэні ў другую.

●

Тастамент. Апублікуйце на мяне некралог у часопісе, толькі не з працягам. Чытаць з працягам кароткія запісы ў каго хопіць адвагі? Не ў маіх было генах схопліваць штосьці не імгненна. І набываць адзін за адным часопісы каму сёння па кішэні.

●

У выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў чарговы зборнік сатырычных мініяцюр нашага сталага аўтара Марціна Коўзкага "Як той казаў". Мастак І. Семілетаў.

●

Мяне хвалілі. Усе нешта добрае казалі. І я пра ўсіх думаў добра. Тады я паўстаў з мёртвых. "Ён заўжды быў скандальны", — сказалі самыя нахальныя. "Месца ўжо занятае", — сказаў мой начальнік, "Такія выдаткі на магілу, — гаравала мілая, — што з ёю рабіць, проста не знаю"... Усё мне прыснілася, але паўставаць з мёртвых не раю.

●

Прапанавалі намаляваць восень. Дзеці намалявалі сонца ў яме, палеглы сланечнік, а над ім дожджык — клічнікі, клічнікі, клічнікі. Дзіўна, як малеча спасцігае сутнасць рэчаў. У дарослых асенняя палітра круціцца вакол паўлітра (таксама сонца?), не абыходзіцца без злакаў — семкі на закусь, а тады ўжо хто дзе паляжа — працяжнікі, працяжнікі, працяжнікі. Дзіўнае гэта выпрабаванне — тэст на маляванне.

●

ААН адзначае штогод свята народанасельніцтва. Несумненна, гэта і пра нас, і мы тут удзельнікі. Няясна, праўда, калі мы народ, а калі насельніцтва. Няхай усё роўна мацнее наш род і дужэюць насельнікі!

●

— Зяцёк у горадзе ў бізнесменах! — хвалілася цётка Алена. — А наш шчэ вышэй — у рэкецірах! — ганарылася цётка Глафіра.

●

Беларускія імёны — Міхасі, Рыгоры, Янкі, няўжо код пакаленняў звёўся да прыкрай трасянкі? Няўжо наша маўленне ўжо не маленне і імёны далёкіх продкаў — не свой народ "з пасяродку"!

●

Не прапаў праметэеў агонь, не прапаў! Хто сказаў, што ён чуць цеплаваты? Паглядзіце, як ярка палае мангал, як бурчаць самагонныя апараты!

●

Споведзь старога артыста. Я зведаў калі не авацыі, дык апладысменты. Слава салодкая, калі апячэ. А цяпер якія мне робяць кампліменты, што нешта ў мяне як трэба цячэ.





ЗАСНАВАЛЬНІКІ

Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар**
**Уладзімір НЯКЛЯЕЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Мікола ГІЛЬ** — *намеснік галоўнага рэдактара*
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**220005, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 2848-461
намеснікі галоўнага рэдактара — 2848-525, 2331-985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 2848-204
пісьмаў і грамадскай думкі — 2331-985
літаратурнага жыцця — 2848-462
крытыкі і бібліяграфіі — 2331-985
паэзіі і прозы — 2848-204
музыкі — 2848-153
тэатра, кіно і тэлебачання — 2848-153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 2848-462
навін — 2848-462
мастацкага афармлення — 2848-204
фотакарэспандэнт — 2848-462
бухгалтэрыя — 2366-071

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3481
Нумар падпісаны ў друк 23.7.1998 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 999
Заказ 4369/Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12